ВЕРУ, БРАТЦЫ: ЛЮДЗЬМІ СТАНЕМ,
ХУТКА СКОНЧЫМ МЫ СВОЙ СОН;
НА СВЕТ БОЖЫ ШЫРЭЙ ГЛЯНЕМ,
ВЕК НАПІША НАМ ЗАКОН...

# ЗА НАРОДНАЕ ШЧАСЦЕ

Першая беларуская пісьменніца Алаіза Сцяпанаўна Пашкевіч, вядомая пад псеўданімамі Цётка, Мацей Крапіўка, Гаўрыла з Полацка, Тымчасовы і іншымі, пражыла мала, напісала не вельмі многа, але ў гісторыі беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя яна займае пачэснае месца.

У дні Усерасійскай кастрычніцкай палітычнай стачкі 1905 года ў Вільні і іншых гарадах Паўночна-Заходняга краю з'явіліся тры агітацыйныя лісткі з тэкстам ананімных вершаў «Мора (Рэвалюцыя народная)», «Хрэст на свабоду» і «Пад штандарам». Пракламацыі былі нелегальна выдадзены на беларускай мове Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыяй і Беларускай сацыялістычнай грамадой. Гэтыя палымяныя і мужныя заклікі да барацьбы за народнае шчасце належалі пяру Цёткі.

Так пачала сваю грамадска-палітычную і літаратурную дзейнасць беларуская пісьменніца-рэвалюцыянерка. Яна стварала яркія агітацыйныя і шчырыя лірычныя вершы, рэалістычныя апавяданні і цікавыя падарожныя нарысы, пісала падручнікі і навукова-папулярныя артыкулы, вывучала народны тэатр і фальклор, займалася перакладамі, прымала актыўны ўдзел у выданні першых легальных беларускіх газет і часопісаў.

Алаіза Пашкевіч нарадзілася 3 ліпеня 1876 года ў вёсцы Пешчына (цяпер Шчучынскі раён Гродзен-

скай вобласці). Бацькі яе — заможныя сяляне. Дзіцячыя гады будучай паэтэсы прайшлі ў сям'і дзеда, дзе яна змалку адчула ўсе радасці і цяжкасці сялянскай працы. Цяга да кнігі і вучобы прывяла Цётку ўжо васемнаццацігадовай дзяўчынай у чацвёрты клас віленскай прыватнай гімназіі Прозаравай. Але цяжкая хвароба лёгкіх прымусіла пакінуць вучобу і паехаць у вёску працаваць настаўніцай. У 1902 годзе яна закончыла сёмы клас гімназіі і ў тым жа годзе паступіла ў Пецярбурзе на агульнаадукацыйныя курсы П. Ф. Лесгафта.

Яшчэ ў Вільні А. Пашкевіч прымала актыўны ўдзел у беларускім нацыянальна-вызваленчым руху (была членам Беларускай сацыялістычнай грамады) і асветніцкай рабоце. На курсах Лесгафта, у рэвалюцыйным студэнцкім асяроддзі, фармуюцца грамадска-палітычныя і эстэтычныя погляды беларускай паэтэсы, тут яна знаёміцца з нелегальнай рэвалюцыйнай літаратурай, удзельнічае ў падпольных гуртках. Пасля двухгадовага знаходжання ў сталіцы, атрымаўшы медыцынскую падрыхтоўку на курсах, Цётка вярнулася ў Вільню і працавала фельчарыцай у псіхіятрычнай лячэбніцы ў Нова-Вілейцы.

Тут, у Вільні, па-сапраўднаму разгарнуўся яе талент, талент паэтэсы, рэвалюцыйнага дзеяча, яркага аратара і ўмелага прапагандыста. Увогуле, па складу свайго характару гэта была натура баявая, поўная творчай энергіі і няўрымслівай прагі да барацьбы: яна выступала як палымяны агітатар перад віленскімі рабочымі, ездзіла ў вёску, прымала ўдзел як дэлегат ад Беларусі ў рабоце з'езда жанчын (Масква, май 1905 года).

Пагроза арышту і судовай расправы за ўдзел у рэвалюцыйных падзеях у Вільні і выданне вершаў-

праклямацый вымусілі Цётку ў снежні 1905 года нелегальна выехаць у Галіцыю. Знаходзячыся ў эміграцыі, беларуская пісьменніца поўна творчых планаў і новых задум. Нягледзячы на цяжкае матэрыяльнае становішча, яна выпускае ў 1906 годзе ў Жоўкве каля Львова зборнікі вершаў «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская», а таксама ў перакладзе з украінскай мовы кнігу «Гасцінец для малых дзяцей», рыхтуе падручнік-хрэстаматыю «Першае чытанне для дзетак беларусаў» (Пецярбург, 1906). У другой палове 1906 года Цётка прыязджае ў Вільню і прымае ўдзел у выданні першай беларускай легальнай газеты «Наша доля». Але далейшае знаходжанне ў межах царскай Расіі пагражае ёй высылкай у Сібір, і пісьменніца зноў едзе ў Галіцыю, дзе яна паступае вольнаслухачом на філасофскі факультэт Львоўскага універсітэта, займаецца вывучэннем беларускага народнага тэатра і фальклору, рыхтуе з мэтай абароны навуковай ступені даследаванне «Батлейкі на Беларусі і іх сувязь з польскай драматычнай літаратурай».

Напружаная творчая работа, матэрыяльная неўладкаванасць прывялі да абвастрэння хваробы лёгкіх. Цётка змушана выехаць на лячэнне ў славуты курорт Закапанэ. На гэты час прыпадае знаёмства і дружба Цёткі з вядомым літоўскім пісьменнікам Іонасам Білюнасам, які лячыўся ў Закапанэ. Пасля смерці І. Білюнаса Цётка, каб не пакінуць у адзіноце ўдаву літоўскага пісьменніка, разам з ёю едзе ў Італію. Сяброўкі наведваюць Рым, Венецыю і Фларэнцыю, славутыя музеі і карцінныя галерэі, слухаюць выступленні вядомых італьянскіх спевакоў [1].

[1] Арабей Л. Новая хвалюючая старонка. «Полымя», 1966, № 7, стар. 134—140.

Пасля, у 1908—1909 гадах, Цётка жыве ў Кракаве, вучыцца ў Ягелонскім універсітэце, некалькі разоў пад чужым пашпартам наведвае Расію. У 1911 годзе ў эміграцыі яна выходзіць замуж за літоўскага інжынера С. Кейрыса і, змяніўшы прозвішча, атрымала магчымасць вярнуцца на радзіму. У Вільні Цётка ізноў з вялікай актыўнасцю і энергіяй уключаецца ў грамадскую і літаратурную работу, прымае самы дзейсны ўдзел у беларускім нацыянальна-вызваленчым руху. Дзякуючы яе намаганням, пачаў выходзіць літаратурны і навукова-папулярны часопіс для беларускай моладзі «Лучынка».

Калі пачалася імперыялістычная вайна, паэтэса ідзе працаваць сястрой міласэрнасці ў ваенны шпіталь. У гэты час яна прымае ўдзел у рэвалюцыйнай барацьбе віленскага пралетарыяту, часта выступае ў гарадскім рабочым клубе.

У пачатку студзеня 1916 года Цётка, атрымаўшы вестку пра смерць бацькі, паехала ў вёску Стары Двор, дзе жыла ў той час яе радня. Пахаваўшы бацьку, яна засталася ў Лідскім павеце, каб дапамагчы сваім землякам (тут лютавала эпідэмія тыфу). Але сама не ўсцераглася, захварэла тыфам і памерла ўночы з 4 на 5 лютага 1916 года. Пахавана ў вёсцы Стары Двор.

Літаратурная дзейнасць Цёткі працягвалася ўсяго толькі пятнаццаць год. Творчая спадчына яе параўнаўча невялікая: зборнікі вершаў «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская», падручнік «Першае

# СВИДѢТЕЛЬСТВО.

№ 78

Выдано сіе дочери мѣщанина
Алоизіи Степановнѣ Пашкевичъ
въ томъ, что она, при произведенномъ ей спеціальномъ испытаніи въ Александровской
Женской Гимназіи, оказала слѣдующія познанія въ наукахъ

По Закону Божію —
„ Русскому языку очень хорошія (10)
„ Французскому языку —
„ Нѣмецкому языку —
„ Ариѳметикѣ очень хорошія (10)
„ Географіи весьма хорошія (11)
„ Исторіи весьма хорошія (11)
„ Педагогикѣ весьма хорошія (11)
Естествовѣдѣніи оч. хорошія (10) Гигиенѣ: вес. хорошія (11)

Въ объемѣ, требуемомъ отъ ~~вступающихъ въ ... классъ~~ оканчивающихъ курсъ наукъ въ Гимназіи

С.-Петербургъ Мая 15 дня 1904 года

Начальникъ С.-Петербургскихъ и Царскосельской
женскихъ гимназій Н. Степановъ

Инспекторъ классовъ [signature]

чытанне для дзетак беларусаў», творы яе раскіданы ў розных беларускіх газетах, календарах і альманахах. Асабліва шмат апавяданняў, нарысаў і публіцыстычных артыкулаў змясціла Цётка ў часопісе «Лучынка».

Дакладных звестак пра пачатак літаратурнай дзейнасці Цёткі не захавалася. Вядома толькі, што яна выступіла ў беларускім друку раней Янкі Купалы і Якуба Коласа. У пецярбургскіх зборніках-альманахах «Калядная пісанка» (1903) і «Велікодная пісанка» (1904) паэтэса змяшчае вершы «Мужыцкая доля», «Мужык не змяніўся», «Нямаш, але будзе» і «Музыкант беларускі».

Аднак, з дайшоўшых да нас твораў Цёткі, трэба думаць, самымі раннімі былі вершы «Лета» і «Восень». Малюнкі народнага жыцця і працы тут яшчэ ў значнай меры ідылічныя і фактаграфічныя, без сапраўднага адбору мастацкіх дэталей і пружыністага ўнутранага дынамізму, характэрнага для яе лепшых пазнейшых твораў. Праўда, калі ў «Леце» сацыяльныя матывы толькі ледзь-ледзь адчуваюцца, то ў «Восені» прабіваецца ўжо трывога за чалавека працы, яго нялёгкую долю. «А дзе ж шчасце, братцы, наша?» — з крыўдаю пытаецца Цётка.

Да ліку ранніх твораў трэба аднесці і верш «Нямаш, але будзе». Пачынаецца ён традыцыйнай скаргай на сялянскую нядолю:

> Нямаш хлеба, нямаш солі,
> Нямаш шчасця, нямаш долі.
> Як ля ранку сляза бліснe,
> Жаль да ночы сэрца ціснe.

Далей аўтарка кажа, што прыйдзе такая пара, калі «за крыўду мужык устане, зробіць суд над панам-катам». Суд, праўда, вельмі своеасаблівы: «да-

Гаўрылы * * *

* зъ Палацка

# СКРЫПКА БЕЛОРУССКА

1906.

мо зямліцы, сколькі ў нас», «няхай... паны жывуць, з цяжкой працы ставяць хаты, не палацы». Паэтэса марыць пра памяркоўнае вырашэнне ўсіх супярэчнасцей і нават прапануе сваю праграму класавага прымірэння: «Не чакайце, нам зямлю, паны, аддайце».

Адначасова з вершамі недасканалымі і супярэчлівымі па сваёй ідэйнай задуме Цётка выступае з творамі «Мужыцкая доля», «Мужык не змяніўся», «Музыкант беларускі», якія пераканаўча сведчылі, што беларуская паэтэса не толькі працягвала рэвалюцыйна-дэмакратычныя традыцыі Ф. Багушэвіча, але ўзбагачала і абнаўляла іх, расстаўляючы выразныя сацыяльныя акцэнты і выказваючы сваю веру ў будучыню роднага беларускага слова:

Музыкант галосіць,<br>
Скрыпка не махлюе,<br>
Хутка «хамску» песню<br>
Увесь свет пачуе.

Жывыя ўражанні актыўнага ўдзельніка рэвалюцыйнай барацьбы віленскага пралетарыяту ў незабыўныя дні 1905 года выліліся ў смелыя і палымяныя агітацыйныя вершы зборніка «Хрэст на свабоду». Цётка выступае на сходах і рабочых мітынгах, з прапагандысцкімі мэтамі ездзіць па вёсках, піша вершы, якія заклікаюць народ на барацьбу за зямлю і волю. Папулярнасць вершаў-пракламацый «Хрэст на свабоду», «Мора», «Пад штандарам» тлумачылася тым, што гэта былі водгукі, рэха рэвалюцыйных баёў, рэпартаж па гарачых слядах падзей, мужны заклік да барацьбы: «...Цара павесіць трэба!» Пасля «Мужыцкай праўды» К. Каліноўскага агітацыйныя вершы-лістоўкі Цёткі — яшчэ адзін

прыклад, што беларускае мастацкае слова было зброяй у руках народа.

Цётка славіць рэвалюцыю, верыць у перамогу народа:

> Такі бой вякамі жджэцца,
> Такі бой гігантаў дасць,
> У такім бою толькі грэцца,
> У такім бою толькі пасць.
>
> *(«Мора»)*

Для паэзіі Цёткі характэрны не толькі сумарны вобраз народа і рэвалюцыі, у яе творах ёсць ужо гераічная фігура радавога барацьбіта за народнае шчасце: у крывавую нядзелю загінуў з чырвоным сцягам у руках рабочы Вінцуль («Пад штандарам»); Пятрук, прайшоўшы турэмную навуку, марыць пра зброю, каб адпомсціць сваім крыўдзіцелям («Ласы»); пра шырокі размах барацьбы гаворыцца ў вершы «Добрыя весці».

Аднак Цётка — не толькі палымяны агітатар, які смела кліча народ на барацьбу з царызмам. Яна яшчэ і вельмі шчыры лірык. Зборнік «Скрыпка беларуская» і многія вершы, якія з'явіліся ў газеце «Наша ніва» і ў часопісе «Лучынка» — яскравае сведчанне разнастайнасці, тэматычнага багацця і сапраўднага майстэрства Цёткі-лірыка.

Перш за ўсё трэба адзначыць, што паміж агітацыйнымі вершамі беларускай паэтэсы і яе лірычнай паэзіяй існуе цесная сувязь. У лірыцы Цёткі таксама гучаць рэвалюцыйныя матывы, у іх — глыбокі роздум над народнай доляй, жыццём і барацьбой селяніна («З Новым годам», «Вясковым кабетам», «Лучынка»). Шмат месца і ўвагі аддае яна ролі і прызначэнню мастака, грамадзянскай паэзіі ў кла-

савай барацьбе («На магіле», «Скрыпка», «Артыст грайка» і інш.). Аўтарскі погляд на гэтую праблему выразны і мэтанакіраваны, паэтэса знаходзіцца на пазіцыях рэвалюцыйна-дэмакратычнай эстэтыкі:

Думаць усюды аб народзе,
Родны край усюды сніць.

*(«Мае думкі»)*

Побач з сацыяльнымі матывамі ў лірыцы Цёткі ў гады рэвалюцыі 1905—1907 гадоў на ўвесь голас прагучалі ідэі беларускага нацыянальнага адраджэння. У вершы «Вера беларуса» паэтэса выказвае ўпэўненасць, што перамога рэвалюцыі прынясе вялікія перамены ў гістарычны лёс беларускага народа:

Веру, братцы: людзьмі станем,
Хутка скончым мы свой сон;
На свет божы шырэй глянем,
Век напіша нам закон.

Вобразы роднай Беларусі праходзяць праз усю лірыку Цёткі, яна з вялікай любасцю і замілаванасцю гаворыць пра родны край, маляўнічую беларускую прыроду, працавітых людзей, якія нясуць свой нялёгкі крыж («Родная вёска», «На чужой старонцы», «Сірацінка»). Побач з прачулымі элегічнымі матывамі («З чужыны») суседнічаюць тут і ўзнёслыя рамантычныя парыванні («***Арлы-брацці, дайце скрыдлы...»).

Рэвалюцыйны пафас, вернасць вольналюбівым ідэалам у цяжкія гады рэакцыі, патрыятызм — вось характэрныя рысы паэзіі Цёткі. Паэтэса выразна грамадзянскага складу трапна перадавала глыбіню думкі і сваю настраёвасць, умела выкарыстоўвала песенную форму і багацце народнай лексікі.

У апошнія гады жыцця Цётка з вершамі выступала мала, асноўную ўвагу аддавала прозе і публіцыстыцы. У алегарычным апавяданні «Прысяга над крывавымі разорамі» праз сон селяніна Мацея ярка і проста паказаны рухаючыя сілы рэвалюцыі. Суровай праўдай сялянскага побыту і лаканічнай формай вызначаецца «Навагодні ліст».

Трагічная гісторыя жыцця курсісткі навеяна асабістымі перажываннямі пісьменніцы («Зялёнка»). Таму з такім пранікненнем і глыбінёю паказаны характар і інтэлектуальны свет хворай дзяўчыны, яе прага да жыцця і прыгажосці. У апавяданні «Лішняя» ў цэнтры ўвагі нераздзеленае каханне, перажыванні гераіні перад самагубствам.

Трагічна гучыць і апавяданне «Міхаська», адрасаванае дзецям. Цётка з асаблівым замілаваннем і смуткам паказвае нялёгкую долю сіраціны-пастушка і яго хвалюючую дружбу з жураўлём-калекам.

Зварот да дзіцячай тэматыкі быў невыпадковым. Цётка адна з першых у беларускай літаратуры пачала пісаць падручнікі для пачатковай школы і перакладаць творы для дзяцей. У 1906 годзе яна выдае «Першае чытанне для дзетак беларусаў», дзе друкуе свае вершы і апавяданні, а таксама апрацоўкі беларускіх народных казак. Пазней у часопісе «Лучынка» яна змясціла шмат цікавых і разнастайных матэрыялаў для юнага чытача.

У творчай спадчыне беларускай пісьменніцы вялікае месца займаюць падарожныя і навукова-папулярныя нарысы, публіцыстычныя артыкулы і даследаванні пра фальклор. Нарысы і артыкулы Цёткі, змешчаныя ў свой час на старонках беларускіх газет «Наша доля» і «Наша ніва» і ў часопісе «Лучынка», упершыню ўключаюцца ў гэтую кнігу і дадуць чы-

тачу ўяўленне пра шырыню творчых інтарэсаў пісьменніцы.

Падарожныя нарысы «З дарогі» і «Успаміны з паездкі ў Фінляндыю» сведчаць пра майстэрства Цёткі-празаіка. У гэтых творах яркія і трапныя назіранні, цікавыя вывады і абагульненні. Адметныя яны і паводле формы. Напрыклад, «З дарогі» — гэта своеасаблівы нарыс-роздум, пададзены ў выглядзе пісем лірычнага героя сваёй маці. Тут і дарожныя ўражанні, і глыбокія думкі пра вечную сілу і каштоўнасць сапраўднага мастацтва, тут і супярэчлівыя пачуцці героя, яго шчырая любоў да роднай Беларусі: «Мамачка, хачу нешта табе сказаць, але не паверыш так адразу пасля маіх лістоў, дай хіба вушка: мамачка, нідзе так не пекна, як у нас».

«Успаміны з паездкі ў Фінляндыю» напісаны ў больш традыцыйнай форме падарожнага нарыса. Беларуская пісьменніца апавядае пра народныя звычаі фінаў, іх незвычайную працавітасць і ўменне берагчы і шанаваць нацыянальныя традыцыі. Многа ўвагі адводзіцца ў нарысе гісторыі фінскага адраджэння, поспехам развіцця нацыянальнай культуры — тэме, якая заўсёды хвалявала і была блізкая сэрцу Цёткі.

Пісала беларуская пісьменніца і навукова-папулярныя нарысы («Газа», «Пералётныя птушкі»).

Публіцыстычныя артыкулы Цёткі адрасаваны пераважна моладзі і прысвечаны важным і актуальным пытанням свайго часу — развіццю беларускай асветы і нацыянальнай культуры. У артыкулах «Як нам вучыцца», «Аб душы маладзёжы», «Папарацькветка» яна гаворыць аб перспектывах стварэння беларускай школы, заклікае шанаваць вялікі скарб чалавечай душы: «любоў да бацькаўшчыны, да

свайго народа, да роднай мовы». Асобна трэба выдзеліць артыкул Цёткі «Шануйце роднае слова!». Гэты артыкул — пасля багушэвічаўскай прадмовы да «Дудкі беларускай» — самы палымяны гімн беларускай мове, яе багаццю і сіле.

Пра што б ні пісала Цётка,— пра народную песню, часопіс «Лучынка», пра беларускую вечарынку ў Пецярбурзе,— заўсёды ў яе артыкулах цікавыя назіранні, трапныя вывады і абагульненні, а сам матэрыял падаецца ярка і вобразна. Праўда, улічваючы тую акалічнасць, што гэта артыкулы падцэнзурныя (амаль усе яны друкаваліся ў «Лучынцы»), сацыяльныя моманты ў іх гучаць заўсёды ў алегарычным плане. Звяртаючыся да беларускай моладзі, Цётка заклікае: «Захавайце ж сэрцы вашы чыстымі на ўсё жыццё і памятайце, што светлыя сны вашы аб волі, роўнасці і брацтве збываюцца, што з усходам сонца яны не рассейваюцца разам з цемрай начной, а становяцца праўдай жыццёвай. Гартуйце душы вашы, каб халодны сівер іх не замарозіў».

Не меншую цікавасць уяўляюць і пісьмы Цёткі. З іх відаць яе творчыя і навуковыя задумы і планы. Шкада толькі, што з усяе эпісталярнай спадчыны захаваліся часткова толькі лісты да Б. Эпімах-Шыпілы і Б. Тарашкевіча, датаваныя 1914 годам. Не зважаючы на хваробу (абвастрэнне сухотаў прымусіла яе ехаць лячыцца ў Фінляндыю, а потым у Швецыю), яна ўся ў клопатах пра мастацкі ўзровень і ідэйны змест «Лучынкі», пашырэнне аўтарскага актыву часопіса. Так, напрыклад, Б. Тарашкевіч атрымлівае заданне напісаць артыкул пра асаблівасці беларускай мовы; Цётка думае знайсці сярод беларускіх студэнтаў аўтараў, якія маглі б напісаць артыкулы не толькі пра асушку пінскіх балот, пра за-

нос пяскамі вялікіх абшараў зямлі ў Гродзенскай губерні, зацьменне сонца, але і пра нацыяналізацыю зямлі. З лістоў да Б. Тарашкевіча відаць, што Цётка не пакідала працаваць і над сваёй навуковай тэмай — даследаваннем пра батлейкі на Беларусі.

У 1906 годзе, прачытаўшы зборнік вершаў Цёткі, Янка Купала ў прысвячэнні «Аўтарцы «Скрыпкі беларускай» з радасцю і захапленнем пісаў:

Чутка йграеш, гулка йграеш
Ты на скрыпачцы сваей,
К небу з думкай падлятаеш,
Шчасця зычыш для людзей...

Гэй, пяснярка, болей, болей
Нам на скрыпцы сваёй грай!
Прывітаем хлебам-соляй,
Дзякуй скажа родны край...

Беларускай пяснярцы не давялося доўга служыць роднаму краю: яе жыццёвая дарога абарвалася на самым пярэдадні Вялікага Кастрычніка.

У ліпені 1976 года спаўняецца стагоддзе з дня нараджэння Цёткі. Гэтае выданне, у якім найбольш поўна сабрана творчая спадчына пісьменніцы, раскрые чытачу ідэйнае багацце і жанравую шматграннасць творчасці Цёткі, якая ўсю сваю энергію і здольнасць аддала барацьбе за народнае шчасце.

*Сцяпан Александровіч*

# ПРАДМОВА

*Доўга я гадаў і думаў, як сябе зваць, ці то палякам, ці то літоўцам, бо слова тутэйшы мне нексць не смакавала. І так колькі гадоў я хістаўся то на ту, то на другую старану, аж покі не папала ў мае рукі «Дудка» Мацея Бурачка; яна то мне сказала, што хто гаворыць па-тутэйшаму, па-мужыцку, значыцца, ён гаворыць па-беларуску, а хто гаворыць па-беларуску, той беларус. Прачытаўшы тую «Дудку», я сказаў: «Дзякуй табе, Мацей Бурачок! Чэсць і слава тваему слову! А ты, «Дудка», грай і мне голас дай». З таго дня пачаў і я майстраваць інструмант. Выйшла з-пад рук «Скрыпка». Цяпер кручу «Струны». А ты, Мацей Бурачок, ідзі, ідзі ўздоўж і папярок нашага беднага краю, братоў родных вітай, да курных хат заглядай, мо знайдзеш там артыста, каторы збярэ ўсе нашы беларускія інструманты і наладзіць граннё як мае быць.*

## СКРЫПКА

Чаго словам не сказаці,
Што на сэрцы накіпела,
Астаецца скрыпку ўзяці;
Покі ў сілы крэпка вера,
Покі думка рве да неба,
Покі скрыдал не зламалі,
Покі трэба душы хлеба,—
Будуць струны байчэй граці,
Будзе смык вастрэй хадзіці,
Будзе скрыпка паслушнейша.
Ў песні можна пераліці
Ўсё найлепша, наймілейша;
Ў песні можна даць пяруны,
Песняй сэрца рваць на часці;
Крэпкі толькі былі б струны,
Я заграла бы аб шчасці!
Я заграла б смехам кветак,
Нівак шэптам залацістых,
Звонам серпа, касы ўлетак,
Мёдам ліп з садоў душыстых.
Я заграла б песню матак
Над калыскаю дзіцяці.
Ўсе багацтвы з родных хатак
Я хацела б песні даці.
Я на струнах раззваніла б,
Дух народу я абняла б,
Ў жары сэрца растапіла б,

Алтар новы улівала б,
Пры алтары тым я грала б,
Так на струнах галасіла б,
То склікала б, то вітала б,
То суседзяў весяліла б;
То малітвай смык завыў бы,
То закляў бы на пяруны,
То аж скаргай ў неба біў бы,
Толькі крэпкі б былі струны!
Смык гатовы, струны тугі,
Кроў у жылах закіпае.
Ну, слухайце, мілы другі,
Скрыпка мая ужо грае!

*1906*

## ВАМ, СУСЕДЗІ

Вам, суседзі, вам, кумочкі,
Беларусы-галубочкі,
Пяю з сэрца, падцінайце,
Вы грамадай голас дайце.
Зложым песню цэлым людам.
Выйдзе пекна, стане цудам.
Як свет светам яшчэ стаў,
Такой песні не слухаў:
Восем, дзевяць... і мільён
Грудзей зльецца ў адзін тон,
Дадуць песню, а ў ёй труд,
Доля, жыцце. Ці ж не цуд?
Ад вякоў мы, братцы, спалі,
А тут разам заспявалі.

*1905*

# ЛЕТА

Ніва шуміць каласамі
Жыта спелага, аўса;
Ўся прыбрана васількамі,
Як дзяўчына да вянца.
Вецярок па ёй гуляе,
Клоніць колас да зямлі,
Сонца зерне налівае,
Бусл клякоча на гумні.
Гаспадар бяжыць з касою
На зялёну сенажаць,
Спяшыць выкасіць з расою,
Смаглей, гладчэй траву сцяць.
Бабы мыюць, хусты рубяць,
Ш'юць сарочкі, хвартухі.
Чутна — ў лесе недзе трубяць,
Сочаць гнёзды пастухі.
Дзеці ў пасецы збіраюць
Да кузёмак пазямкі,
А ў грыбах дзяўкі гукаюць:
«Сюды, хлопцы, дзецюкі!»

Настаў дзень, прыціхлі хаты,
Вёска стала, як у сне,
Хіба толькі кот лахматы
Дзе на прыпечку зяўне,
Або дзед столетні з печы
Ракам лезе вады спіць.

Горб ад працы сеў на плечы,
Вочы слабы. Цяжка жыць!
Калісь дзед быў малайчынай,
Спрытным хлопцам ў вёсцы слыў.
Першы ў танец йшоў з дзяўчынай,
Мёд, гарэлку бойка піў.
А цяпер — трасуцца рукі,
Галавы не утрымаць.
«На печ, дзеду! — крычаць ўнукі,—
Пара табе уміраць!»

А зглянi на нашу вёску:
Ўвесь палетак аж гарыць!
Так, як пчолы ў жоўтым воску,
Як алтар, так зіхаціць!
Як бы з стужак, як бы з кветак
Дыван пекны ткач саткаў,
Як бы з руты ды нагнетак
Букет велькі май уклаў.
То ў дэсэні, то у клетκі,
Ў жывых фарбах б'ецца ён.
Ну! Не людзі! Дальбу, кветкі!
Іх лісточкі даюць звон.
Хіба ж гэта не ў палетак
Якім чарам я папаў,
А ў гародчык з рожных кветак,
Дзе артыста засяваў.
I мо гэта не дзяўчыны
Гудуць летам над снапом,
А каліны ды маліны
Цягнуць ручкі за хмялём.
Бачу я: ідзе ігрышча,
Там вяселля шчыры смех.
Чую скрыпку, дудка свішча,

Ў флейту дуюць, як у мех.
Льецца песня, бягуць тоны,
Аж душу на часці рве.
Ў барабаны б'юць, у звоны,
Вецер ў губы сабе дзьме.
Дрыжыць колас, серп аж пеніць,
Сыпле іскры з-пад зубоў.
Перавёсла рукі шчэміць,
Сноп ісці скакаць гатоў.
Вот ігрышча, так ігрышча!
Нат і копы пайшлі ў тан.
Ім у тахту пожня свішча,
Падцінае барабан.
Неба, гледзячы, з'яснела,
Морам чыстым разлілось,
Так, як люстра, пасінела,
З слонкам ясным абнялось.
Лес махае галавою;
Дуб, нахмурыўшыся, спіць;
Вольха шэпча з лешчыною,
Беразняк кусты смяшыць.
Мухаморы, як жаўнеры,
Ля дарогі сталі ў рад,
Гараць жарам іх каўнеры,
Шапкі блішчаць так, як гад.
Баравік — грыб над грыбамі —
Аб пень спёрся, злы стаіць,
Робіць суд ён над братамі,
Годзіць, просіць згодна жыць.
Суравежкі з казлякамі
Вядуць сварбу ў добры лад.
З страху рыжык з маслякамі
Ў мох зашыцца быў бы рад.
Птушак шчогат ўсюды млее,

Па лісточках ўверх бяжыць,
То стужэе, то слабее,
То на голлях заскрыпіць.

Мушу ўзяцца да работы,
Мушу мець мазоль на знак,
Мушу ліць і я так поты,
Каб прызналі, што радак.
Дайце, жнейкі, серп займісты,
Дайце гострую касу,
Змяту з нівы хлеб зярністы,
З травы белую расу.
Дайце хусту мне пікову,
Кіньце беленькі хвартух,
Зраблю фарбу я цянёву,
Вас змалюю ў адзін дух.
Толькі шкода — фарб замала,
Трудна будзе рысаваць.
Няма ж такой, каб блішчала,
Няма ж пэндзля дзе дастаць,
Што маршчынкай на паўціне
Ценем лёгкім след вядзе,
Адным змахам па хусціне
Твар адбіў бы, як ў вадзе.
Зраблю квачык з мархавення,
З розных ягад фарб націсну,
З грудзей вырву сноп пламення,
Жывой крові каплю пырсну —
І спрабую, мо змалюю
Нашу Касю, мо счарую,
Вочы — неба, броў — чарненька,
Гарaць шчокі, з губ — маліны...
А мая жа ж ты міленька!
Не спаткаў такой дзяўчыны,

З такім жарам, з такім спрытам.
А галоўка, як бы жытам,
Як пшаніца каласамі,
Залаціцца над грудзямі.
Доўгі косы вянком ўюцца,
Зубы белыя смяюцца.
Стан танюткі, як былінка,
Ну і Кася, ну дзяцінка!
Як царэўна, як багіня!
Як нарцыса, як вяргіня!
Як лілея на Дунаю,
Як пралеска сярод гаю,
Цвіце Кася на ўсю вёску
Зоркай яснай. Каб хоць крошку,
Каб якіх яшчэ дзве хварбы,
А то скупа, мала барвы.
Мархавенне ў руках мнецца,
Квачык мой на часці рвецца,
Сіл не стане гэткім летам
Змаляваці. Пайду светам,
Мо больш хварбаў там націсну,
Мо ў артысты пэндзаль свісну.
Вось тагды-то я спрабую,—
Ўсіх, суседзі, вас змалюю!

*1902—1903*

## МАЕ ДУМКІ

Хацела б быць зярном пшаніцы,
Упасць на ніўкі вёскі,
Зазалаціцца, без мятліцы
Даць хлеб смачнейшы трошкі.
Хацела б быць я рэчкай быстрай,
Абегчы родны край!
Дзе напаіць, а дзе скупаць,
А дзе ўтуліцца ў гай,
То зашумець, то зашаптаць,
То спаць ў салодкім сне,
То зноў сарвацца, зноў гуляць,
Агнём кіпець у дне.
Ды так разгрэцца і спяніцца,
Каб ў неба хваляй здаць,
Украсці сонца, зноў спусціцца
Й больш света людзям даць.
Прыгарнуць усё ў дарозе,
Каплю шчасця, долі ўліць,
Думаць ўсюды аб народзе,
Родны край усюды сніць,
То рассыпацца расою
Па галінках, па лістках,
То абняцца так з зямлёю,
Каб ніхто разняць не мог!
Альбо ветрам абярнуся
Ды над светам пралячу,
Цёмным віхрам закручуся,

Ўверх на месяц заскачу.
З усёй сілы і размаху,
Як крэсівам, ў звёзды дам,
Сыпне іскраў сноп ад страху,
Задрыжыць аж месяц сам:
«Хто ты, скуль ты, чаго хочаш,
Чаго выеш і шуміш?
То праз слёзы нам рагочаш,
То гарыш весь і дрыжыш?»
— Я — пасланец, вецер буйны,
Прыляцеў на суд вас звацъ!
У нас цёмна, край наш хмурны,
Ад цямноты людзі спяць.
Я там біўся, я там віўся,
Я ім хаты паламаў,
А ўсё ж такі не дабіўся,
Каб народ свой голас даў!..

*1905—1906*

## ВЕРА БЕЛАРУСА

Веру, братцы: людзьмі станем,
Хутка скончым мы свой сон;
На свет божы шырэй глянем,
Век напіша нам закон.
Не чарнілам на паперу,
Дзесь ў архівы не здае, —
Ён збірае поту меру
І на ніву нашу лье,
Землю поіць, яна родзе
Сок ў зярнятах нам на хлеб.
Спажываем, а ў народзе
Штось як шэпча: «Ўставай, слеп!»
Веру, братцы, ў нашу сілу,
Веру ў волі нашай гарт:
Чую агонь ў нас — не брыну,
Бачу, братцы, мы не з карт,
Мы не з гіпсу, мы — з камення,
Мы — з жалеза, мы — са сталі,
Нас кавалі у пламенні,
Каб мацнейшымі мы сталі.
Цяпер, братцы, мы з граніту,
Душа наша з дынаміту,
Рука цвёрда, грудзь акута,
Пара, братцы, парваць пута!

*КАСТРЫЧНІК — ЛІСТАПАД 1905*

## МУЖЫК НЕ ЗМЯНІЎСЯ

Дзевятнасце сотняў,
Як Езус радзіўся,
І за гэту пору
Мужык не змяніўся.
Пайшлі горы долам,
А далы гарамі,
Перасохлі моры
І сталі палямі.
А на гэтых палях
Камень пакрышыўся.
І за гэту пору
Мужык не змяніўся.
Знайшлі нову землю.
Порах раздабылі.
Сталі папер ткаці,
Літар насадзілі.
Нарабілі кніжак,
Людзям паказалі,
Ад «хамулы» вока
Толькі ключ схавалі.
Напісаў Капернік,
Што свет закруціўся.
І за гэту пору
Мужык не змяніўся.
Ах! Застаўся цёмны,
Як той лес зялёны,
Застаўся «хамула»,

Ўсімі прыцяснёны.
Людзі папсавалі
Свае душы, сэрцы,
Толькі «хам» застаўся
У чыстай спанцэрцы.
І бог з неба глянуў,
Глянуў, здзіваваўся,
Што за гэту пору
Мужык не змяняўся.
— Ну! ты,— кажа,— сынку,
Прасі, што патрэба,
Усім адарую,
Усё пашлю з неба.
Я хачу, каб, сынку,
Ты больш не мучыўся,
Каб ты быў свабодны,
З горам разлучыўся.
— «О, дай ты мне, божа,
Хаця нову хату,
Дай кабылу сіву
І жонку багату.
Дай кароўку з целем,
Свінку, курэй колькі,
Дай жыта, мы змелем,
І годзе, і толькі.
А за гэта дзякуй!
Буду сабе панам,
Разлучуся з горам
На век вякоў. Аман».

*1903*

# НА МАГІЛЕ

На магіле ўзыду дубам,
Пачну шаптаць братнім губам
Аб іх долі, аб свабодзе,
Стану песняй у народзе!
Пастух дудку з мяне скруціць,
Як заграе, кроў замуціць,
Як засвішча, кожны стане:
«Што за гранне, што за гранне?
Што то будзе, што то будзе
З гэтай песні ў нашым людзе!»
Востры зубы, як бы з пілы,
Колюць, рэжуць, цягнуць жылы,
Смаляць, паляць, пякуць, студзяць,
Старых, малых са сна будзяць.
Як на вуглях кожны стане:
«Што за гранне, што за гранне?
Што то будзе, што то будзе
З гэтай песні ў нашым людзе!»
Ліст дубовы пад хлеб сцелюць,
Жолудзь яго ў жорнах мелюць.
А дзе з дуба хоць пылінка,—
Грудзь трасецца, як асінка;
А дзе толькі дудка свішча,—
Людзі бягуць, як на йгрышча,
Як на дзіва кожны стане:
«Што за гранне, што за гранне?
Што то будзе, што то будзе
З гэтай песні ў нашым людзе!»

*1905—1906*

# НА ЧУЖОЙ СТАРОНЦЫ

Маркотна мне. Чужы я людзям.
Цесна душы. Цесна грудзям.
Бягу думкай ў край далёкі,
У лес цёмны, ў лес высокі,
Ў сваю вёску, ў сваю ніўку.
Бачу выган, бачу Сіўку;
Вунь кароўкі бягуць з поля...
Ой, да хаткі! Кінь мне, доля,
Хоць расінку з нашай вёскі,
Хоць былінку, хоць дзве крошкі
Ад палудня майго брата,
Ой, як люба родна хата!
Ой, як мілы родны край!
Паляцеў бы, як у рай!
Раднюсенька мне сярмяжка,
Шнурок, лапці, каптан, дзяжка...
Ўсё там міла, бо мне родна,
Нат смяцінка сэрцу годна.

*1906*

## ВОСЕНЬ

Восень гумны накладае,
Возіць снапы, расчыняе
Хлеб галодным гаспадарам:
«Ешце, людцы, вы нядарам
Працавалі усё лета,
Закусіце хоць за гэта».
Бульбу з ніўкі верне ў мех
Ды барзджэнька прэ ў засех.
Тне капусту з качанамі,
Гусей гоніць з бацянамі
У далёкі край за горы,
За азёры ды за моры.
«Птушкі мілы, не кляніце,
А малітвы гаварыце,
Каб вас хвіля не забіла,
Каб акула не ўкусіла,
Каб вярнуцца клекатаці,
Пастушочкаў забаўляці».
Восень — міла гаспадыня:
Дзе ні глянеш — поўна скрыня
То арэхаў, то пшаніцы
Па куточках у святліцы.
Аб усім яна так дбае,
Нівы зябліць, засявае,
У папары руніць жыта,
Каб на весну было сыта.
А гасцінец — поўны люду!
Да мястэчка, як да цуду,
Бягуць хлопцы і дзяўчаты,
Гоняць быдла, жарабяты.

Бабы вязуць грыбы, семя,
Стан, ручнік, маток, адзенне,
Масла, сыры, мак, хвасолю,—
Што зрадзіла на іх долю.
Поўны рынак людцаў крыку,
А што смеху, а што рыку!
Гочуць гускі, пішчаць свінне,
Над снасцінкай курта вые,
Сорка цягне яйкі з возу,
Бэрка плаціць за бярозу.
Янук годзіць новы боты,
Юрка свішча для ахвоты,
Крыся мерыць каптан ў люстры,
Агатулька рэжа хусты.
Кася глядзіць ў Пайкі кветкі,
Белы кашчмір на жакеткі,
Пацеркі ў чатыры шнуры:
Будзе дружкай у Бандуры.
Жыдок мерыць гарцам соль,
Шаптун лечыць нейкі боль;
А як мне ды без тавару
Паказаць нат стыдна твару.
Пайду лепш за места скокам,
Кіну яшчэ разок вокам
На лясочак, на палетак,
Ці такія, як улетак.
Не такія — іншы шаты:
Летніх відны толькі шматы.
Месцам кветка без вяночка,
Месцам грыбок з-пад кусточка
Гляне быстра, вушкі стуліць,
Затрасецца. Восень глуміць
Усе кветкі, ўсе галінкі,
Ўсё змятае да сцяблінкі.

Восень чысціць зіме гладка,
Бо той ў белі было б гадка
Праскакаці ў нас па полях,
Былі б ножкі у мазолях.
Пыл на сукні парассеўся б,
Ў белы шчокі слінай ўеўся б.
Чыста, чыста па ўсім полі,
Аж на сэрцы грызуць болі.
А дзе ж зелень, а дзе стужкі,
А дзе ж песні, а дзе ж птушкі?
Ўсюды старасць, смутак вее,
З хмарак дробны дождж сее,
Слонка нізка чэша косы.
Дубняк смутны стаіць босы.
Лужок жоўты. Загон шэры.
Рэкі крые лядок белы.
Ў лесе свішча вецер, плача.
Па бярозах сойка скача.
Сава гудзе, вабіць зайцаў.
Чуць не згрыз сабе я пальцаў,
Прыраўняўшы, паглядзеўшы
Наша жыцце. Ўпаў, замлеўшы,
Прымкнуў вочы; бачу твары
Ўсе знакомы: пры алтары,
На хрысцінах, на вяселлі,
То на йгрышчы, то ў касцелі,
То пры працы, то пры песні
Тут і слёзы, тут балесці,
Тут магілы, тут і труны,
Тут грамніцы, тут цалуны...
Нейка пекла, нейка каша!
А дзе ж шчасце, братцы, наша?

*1902—1903*

## СУСЕДЗЯМ У НЯВОЛІ

Ад сваіх хат, ад сваіх ніў,
Ад усіх братоў, хто толькі жыў,
Нясу слязу, нясу я стогн,
Нясу нагаек царскіх звон.
У нас там ноч, у нас там стук,
Мы ацямнелі з страшных мук,
З нас пот ліецца, сохнуць грудзі.
Нас катуюць! Чуйце, людзі!
Чуйце, чуйце, руку дайце!
Мы вам родны. Праўду знайце:
Ці у долі, ці ў нядолі —
З вамі станем ў адным полі,
Рука ў руку з вашым братам
За свабоду перад катам.

*1906*

## АРТЫСТ ГРАЙКА

Скрыпка грае, скрыпка скача,
А музыка ў душы плача,
Сціснe струны, смыкам жахне,
Аж ад болю народ ахне.
Чорны вочы бліcь слязою,
Струны стогнуць пад рукою,
Сам музыка з скрыпкай зліўся
І, як вецер, ў неба ўзвіўся,
Весь у песні, весь у тоне,
То смяецца, то зноў стоне,
То людзей усіх абніме,
То адступіць, камень кіне.
Во, глядзі, па горах скача,
Мігам сеў на скале, плача,
Слёзы збрызнуў, гоп у мора;
Як маланка на прасторы,
Свеце, гасне, ціхне, млее,
Ўместа агню іскра тлее.
Рука стала; смык згастрыўся
І, як змяя, ў скрыпку ўпіўся.
Што заграе, што забае,
Сам артыста толькі знае.

*1906*

## У ДАРОГУ

Цераз моры, акіяны
Палячу ў далёкі край,
Бо люблю я ураганы,
Бо я ў буры чую рай;
Бо на дзікіх грывах хвалі
Маім думам лягчэй плыць;
Бо у дзікай, страшнай буры
Я аб песні магу сніць;
Бо я толькі на прасторах
Ў звонкай ліры маю слух;
Бо у дзікай, страшнай буры
Крэпне мой свабодны дух.

*1906*

## ХРЭСТ НА СВАБОДУ

На усходзе красна неба;
Нас не дзівіць — так і трэба!
Кроў ракамі льецца ў мора,
Салдат гіне там ад гора
Без кашулі і без хлеба;
Нас не дзівіць — так і трэба!

Гоняць сына, гоняць мужа,
Мы слухаем цара дужа.
З душы б'ецца скарга ў неба,
А мы маўчым — так і трэба!

Жандар стрэле, казак б'ецца,
У народа спіна гнецца
Ад налогаў з солі, хлеба,
А мы плацім — так і трэба!

Ў Пецярбурзе змерлі людзі:
Ім прашылі куляй грудзі,
Бо то з песняй і з алтарам
Пайшлі з папом перад царам.

А цар сыпнуў, як бы з неба,
Тысяч куляў — так і трэба.

Дурняў хрысціць на свабоду.
Цар навуку даў народу,

Паказаў ім, як бы з неба,
Што больш цара не патрэба!
Тагды Гапон у грамаду
Бяжыць, крычыць: «Трэба ладу,
Трэба шроту, бомбаў, стрэльбаў,
Трэба біць нам гэтых шэльмаў.
Трэ злізаць усіх міністраў,
Бюракратаў, антыхрыстаў».
Чую яшчэ голас з неба,
Што цара павесіць трэба!
З той пары Масква, Варшава,
Рыга, Вільня, Бак, Лібава,
Беларусь, Літва, Расея
Гоняць вон цара-зладзея!
Народ чуе голас з неба,
Што больш цара не патрэба!

Бомба — трах! Сяргей у шматы,
Мірскі бяжыць аж дахаты,
Цар у страху, сенат млее,
Беданосцаў аж хварэе...
Кладуць сеткі, каскі, бляхі.
Найбольш страшаць — гэта ляхі:
Ціха колюць, цэльне стрэляць,
Так, як жыта, чарцей мелюць.
Народ чуе голас з неба,
Што больш цара не патрэба.

*Люты 1905*

# НЕБЫВАЛЫЯ ЧАСЫ

І песні заціхлі, і смеху не відна,
І дзеці старэнькімі сталі.
І ноты вясёлы музыкам браць стыдна,
Радасны струны парвалі.
І фарбы артыстаў смутна рысуюць,
І цені ясны зміраюць.
І вершы паэты з жалем рыфмуюць,
І сэрцы кроўю сплываюць.

*СТУДЗЕНЬ 1905*

# МОРА

*(Рэвалюцыя народная)*

Не такое цяпер мора,
Не такі у хвалях шум:
Цяпер бурна, страшна мора!
Хваля поўна дзікіх дум.

Мора вуглем цяпер стала,
Мора з дна цяпер гарыць,
Мора скалы пазрывала,
Мора хоча горы змыць.

Мора злуе, крэпнуць хвілі,
З дзікім шумам бераг рвуць;
Гром грыміць за вёрсты-мілі,
З мора брызгі ў неба б'юць.

Месцам хваля стогнам рыкне,
Месцам плач сарвецца з губ,
Месцам бераг болем ікне,
Гром грыміць у тысяч труб.

Мора зброіцца палкамі,
Шум русалак разбудзіў,
Запаліўся смок агнямі,
Неба чорны гнеў пакрыў.

Бог сярчае: злая бура
Псуе вельмі святы сон.

Б'ецца, рвецца ўся натура,
Аж дрыжыць нябесны трон.

Трон дрыжыць, не спяць пракокі,
Бог склікае святы сход;
А там радзяць, што аблокі
Мусяць штурм пусціць у ход.

Бой пачаўся. Войска бога
Залпам паліць ў горды хвіль...
Мільён згіне,— нова змога
Расце крэпка праз сто міль.

Растуць сілы мора злога,
У размаху відзен гарт;
Не адступяць войскі бога...
Бой пачаўся не на жарт.

Такі бой вякамі жджэцца,
Такі бой гігантаў дасць,
Ў такім баю толькі грэцца,
Ў такім баю толькі пасць.

*КАСТРЫЧНІК 1905*

# ДОБРЫЯ ВЕСЦІ

Ах, браце родны, нясуцца весці,
Ўжо граюць маршы там на ўсходзе;
Над кожнай хатай, у кожным месцы
Шчабечуць птушкі нам а свабодзе.

Усіх злучыла чароўна слова;
Жалезны вобруч скуў нам далонь.
І матка сына даць нам гатова,
І жонка мужа вышле ў агонь.

І дзед старэнькі бяжыць ў дружыну,
І ўнучак следам дзеда спяшыць;
Хлопец, абняўшы любу дзяўчыну,
На барыкадах смела стаіць.

Ах, браце, крэпка сіла ў народзе!
Добрыя весці зусюль ідуць,
Бо то мільёны разам у згодзе
Да лепшай долі смела ідуць.

Ах, браце, важны момант прыходзіць,
Важну афяру прыйдзецца даць:
На небе сонца шчасця усходзіць,
Толькі патрэбна хмары прагнаць.

*СНЕЖАНЬ 1905*

## БУНТАЎНІК

Снегу горы. Мароз цісне,
Аж скрыпяць малыя санкі;
А Тамаш па Сіўцы свісне —
І капытам з Мураванкі.
Так галопам прэ дахаты,
Аж у храп пайшла скаціна.
Ці не едзе ён у сваты?
Мо сумуе там дзяўчына?
Мо спяшыць ён на ігрышча?
Мо музыкам там іграе?
Усё пугай свішча, свішча,
Усё Сіўку паганяе.
Прыляцеўшы на падворка,
Сані кінуў, бяжыць ў хату:
«Выбачай ты мне, свякроўка,
Выбачай і ты мне, тату.
Выбачай і ты, Ганулячь,
Жонка люба, сэрцу міла,
Птушка мая ты, зязюля,
Помні, каб тут не тужыла.
Выбачай, сыночак родны,
Што няхрышчаным пакіну,—
Можа, будзеш ты галодны,
Можа, будзеш есць мякіну,
Можа, станеш клясці татку,
Можа, камень за мной кінеш,
Мо пачнеш ты лаяць матку...

Бога бойся, а то згінеш.
Бацька любіць цябе вельмі,
Не нацешыцца даволі.
А што зробіш, калі шэльмы
Хочуць хапіць да няволі?
А там могуць, не судзіўшы,
На вяроўку ды угору...»
Тут Тамаш, слязу праліўшы,
Ды праз дзверы, ды у нору.

*СТУДЗЕНЬ — ЛЮТЫ 1906*

## ПАД ШТАНДАРАМ

Не плач, матуля,
Не сярдуй, татуль,
Што забілі Вінцуля,
Што не прыйдзе адтуль;

Што чырвоны штандар
Прад народам ён нёс;
Што крычаў: «Гасудар,
Ці наеўся ты слёз?

Ці напіўся крыві,
Ці накрыўдзіўся нас?
Мы з штандарам прыйшлі:
Расплаціцца ўжо час.

Штык далоў! шаблю вон!
Не страляй ў нас, салдат!
Ад прысягі Гапон
Аджагнаў цябе, брат!»

А тут «плі!» закрычаў
Капітан у сядле,
І салдат задрыжаў
І даў залп у агне.

Пахіснуўся Вінцуль,
Штандар цісне ў руках.
Тут падскочыў патруль
І падняў на штыках.

Калі брызне з грудзей
Кроў гарача цурком,
Як крапідлам, людзей
Ахрысціла кругом.

Вінцуля на руках
На магілкі нясуць;
А труна у вянках,
І ў працэсі ідуць

І жабрак, і салдат,
І раз'еўшыйся пан,
І шавец-небарак,
І сам той капітан

Чалом б'е ўслед труне,—
Вочы поўныя слёз,
Праклінае сябе,
На сябе непахож:

«Я забіў, я праліў
Пралетарскую кроў,
Я душу загубіў,
Заплаціць я гатоў».

Капітан ашалеў
І атруты узяў.
А народ асілеў,—
Штандар ўгору падняў

І нясе, і пяе,
І мільёны вядзе,
На ворага-цара
Крэпку руку нясе.

Не прапаў наш Вінцуль:
Ён жыве сярод нас.
Павярнуўся патруль,
Прылучыўся у час.

І салдат не такі,
Як тады к нам страляў;
Капітан не жывы,—
То б яго не пазнаў.

Неслухмяны салдат
Афіцэру гіркне:
«Я народу сын, брат!»
Ў дэманстрацы ідзе.

На прыказ падаць залп
У чырвоны штандар —
Выстрал пусціць на жарт
У аблокаў алтар.

А народ і пяе,
Пад штандарам ідзе,
На ворага-цара
Крэпку руку нясе.

Нясе доўг у грудзях
Для тыранаў, цара
І прыказ у вачах:
«Цару згінуць пара!»

*КАСТРЫЧНІК 1905*

# ПЕРАД НОВЫМ ГОДАМ

Загарак б'ець, ляцяць мінуты,
Дзевяцьсот пяты кончу год.
Хаджу па хаце, як атруты,
У жылах чую зімны лёд.
З кутоў глядзяць мярцоў шкілеты,
Па косткі плюшчыць цёпла кроў.
Ах, страшны, страшны быў год гэты,
Яшчэ страшнейшы будзе зноў!
Праз вокны бачу поўна поле
Старых, малых. Ах, чую крыкі!
Салдат людзей там рэжа, коле;
Казак дзяцей падняў на пікі.
Ляціць, як віхар, матка ў болю,
Хватае труп малога сына;
А тут і ёй якраз на долю
Трапляе гострая шраціна.
Бабулю сіву топчуць коні;
Хлапец ляжыць без ног і рук.
Ах, льецца кроў праз цэлы гоні!
Ах, бог вялікі, колькі мук!
А там мястэчка запалілі,
Рабуюць крамы, б'юць жыдоў,
І там зноў трупаў навалілі,
І там нявінну точаць кроў.
Нясецца гром з сталіц па краю;
Вяроўкі шыбеніц скрыпяць.
Самадзяржаўных гіцляў зграю

Народ свабодны хоча змяць.
Сатрап шчыміць кулак зладзейскі,
Засыпаў грошмі подлых слуг;
Яшчэ паслушны полк гвардзейскі,
Яшчэ ў жандараў мае слуг;
Яшчэ працуюць чорны сотні,
Яшчэ баіцца цёмны полк.
Але як выдасць грош свой злотні,
То мусіць будзе дрэнны толк:
Гвардзеец кіне, жандар здрадзіць,
І чорна сотня плюне ў рот;
Пан Вітэ нат пакіне радзіць.
Як я развяжыў — добры год,
Як я раздумаў — будуць плёны,
Будзе добры ураджай.
Біце ў звоны, біце ў звоны!
Новы год, народ, страчай!

*СНЕЖАНЬ 1905*

# БУРА ІДЗЕ

Зноў навіслі цёмны хмары,
Зноў туманы неба крыюць;
Зноў па свеце ходзяць мары,
Зноў крапчэй нам віхры выюць.
Зноў надходзіць для нас бура,
Зноў маланкі бягуць радам,
Зноў шалее ўся натура,—
Зноў засыпле свежым градам.

*1906*

## ЛАСЫ

Вот каб я быў сацыяліст ды яшчэ стрэльбу меў,
То я б так грэў
Станавых, стражнікаў, земскіх і другіх сабак!
А то ж — толькі кулак!

Прыходзяць сацыялісты, пісулькі прыносяць,
Бунтавацца просяць.
А каб жа ж далі хаця пораху
Жменьку, пісталет, дубальтоўку,
Аддаў бы апошнюю залатоўку
За кулі і шрот.
Бо так гэты род надаеў, так уеўся ў косці.
Такой нагнаў злосці,
Што ані ратунку!

Станавы — пан, земскі — яшчэ большы.
А хто гад найгоршы —
Дык стражнік з Заполля!
А каб яго нядоля!
Было б каму губіць свет!
А каб яго прапаў след!

Гэта ж свінні пасвіў два рокі
У нашага Пятра Сарокі.
З пастуха пайшоў да земскага фурманом.
А цяпер царскі аканом,—
Пан — стражнік, шышка!

А каб табе спухла кішка!
Каб табе вылезлі вочы,
Каб ты не меў спакою ні ўдзень, ні ўночы,
Як ты стармасіў мяне,
Як у халоднай сядзеў праз цябе!
Набрахаў, аскардзіў, далі медаль.
Толькі што не маю стрэльбы — жаль,
Але я не дарую, плясну,
Хоць паленам па мазгавішчы, як у свечку ясну!

Не будзеш жыць, гад!
Хоць у вас такіх шэльмаў шмат,
Але іх мятуць —
Штодзень б'юць!
Пачаўшы з сената,
Аж да стражнікава брата,
То бомбай, то з пісталета,—
Штодзень гіне апалета!
Бо то гэтай драбязы і намножыў цар,
А карміць мусіць гаспадар,
Знакім тым, мужык.

А ведама: кожны з царавых слуг прывык,
Акром пенсіі, грабіць мужыка.
І чым спрытнейшая рука,
Тым чыны скарэй ідуць.
Глядзі — міністар, генерал,
А за што? за тое, што, сказаўшы па-расейску,
«воровал».
А як мужыкоў, так за палена дроў
Садзяць на пяць гадоў.

Вот як нас, што не хацелі гарэлкі піць
Ды падаткаў плаціць,

То так казакі ссеклі,
Што ўжо не будзе горш балець у пекле.
А пасля мяне і яшчэ двох
Засадзілі ў астрог.

Сядзелі. Але ж там featured народу шмат.
Вот, не раўнуючы, як у касцелі...
Толькі што праўда, там ксяндзоў не нат,
Але ўсё ж такі аднаго мелі.
І добры быў чалавек,—
Не забуду век!

Як мы ў турме рабілі галодную забастоўку,
То так усе пад канец маркотнымі сталі,
Што найбольш спалі.
Толькі ксёндз ды яшчэ салдат
Як запяюць «Марсыльянку», брат,
Так паняволі ўсе ўстаём
І разам песню пяём.

После мяне выпусцілі, а ксёндз дык там
застаўся,
З слязьмі ён са мною развітаўся,
Навучаў, прасіў, крычаў нат услед:
«Не гультуй, Пятрук, помні, на той свет
Гані, каго трэба,
Бо не ўбачыш неба,
Бо мы табе станем сніцца,
Калі не будзеш мсціцца».

Ну, дык я цяпер, Пятрук, ратуючы душу,
Прыказанне мушу
Спаўняць улёт.
Каб толькі шрот,

Дубальтоўку мецъ, пісталет —
Так зараз пралажу след!
Навяду масты з матэрыялу,
Каб дасталося не толькі стражніку, станавому,
земскаму,
Але і пану генералу,
Знакім тым, губернатару нашай губерні.

*1905*

# МУЖЫЦКАЯ ДОЛЯ

Цяжка жыць, трудзіцца,
Калі няма долі,
Жыта не радзіцца
На мужыцкім полі.

З капы умалоту
Не болей асміны,
І еш за работу
Чорны хлеб з мякіны.

Прыйдзе восень,— трэба
Заплаціць падаткі,
А тут няма хлеба
І грошы няхваткі.

І жыві, як знаеш,
З бяды выручайся —
Калі сілу маеш,
Долі дажыдайся.

Гдзе ж ты, мая доля,
Гдзе ж ты захавалась,
Без цябе няволя
І бяда засталась.

На руках мазолі,
Дзень і ноч труджуся,
Не маючы долі,
Бедным спаць лажуся.

А устаўшы рана,
Вазьму касу ў рукі
І іду да пана
Касіць яго лукі.

І за сорак грошы
Дзень касой махаю.
Кажуць — пан харошы —
Далібог, не знаю!

Аканома знаю —
Ды і як не знаці,
Штодзень спатыкаю
Тут на сенажаці.

Штодзень слухаць трэба,
Як ён лаець брыдка;
Не пражыць без хлеба,
Цярпі, мой Мікітка.

Цярплю, сцяўшы зубы,
І касой махаю,
Сонца сушыць губы,
З смагі паміраю.

А дамоў вярнуся —
Гдзе ж тут аддыхаці —
І ізноў бяруся
Касу пакляпаці,

Каб назаўтра рана,
З гостраю касою,
Сенажаць у пана
Выкасіць з расою.

Гдзе ж ты, мая доля,
Гдзе ты, адгукніся!

*1903*

## НЯМАШ, АЛЕ БУДЗЕ

Нямаш хлеба, нямаш солі,
Нямаш шчасця, нямаш долі.
Як ля ранку сляза блісне,
Жаль да ночы сэрца цісне.

Як зрадзіўся ў хамскай долі,
Цярпі жыцце. З божай волі
Гэта ж мука для нас звіта?
Скажы, чуеш, Езус, біта.

Дзеда, бацьку, сына катам
Прадавалі. З нашым братам
Чаўпуць паны колькі могуць.
Пара, браткі, а то змогуць,

Калі будзем патураці.
Досі, крыкнем: «Мы у хаце,
Ў Беларусі, ў сваім краю.
Сведкі — сонца, дубы з гаю,

Што не вы, а мы панамі
Над зямлёю, над лясамі.
О, прыйдзе — пара настане,
Што за крыўду мужык ўстане,

Зробіць суд над панам-катам,
Альбо згіне, альбо братам

Назавём, дамо зямліцы,
Сколькі ў нас, няхай з жывіцы

Паны жывуць, з цяжкой працы
Ставяць хаты, не палацы,
Да спякоты ды марозу
Прывыкаюць. Хутка з возу

Спадзе шчасце. Не чакайце,
Нам зямлю, паны, аддайце.
Пагаворым, паталкуем,
Так раздзелім, як змяркуем,

Каб ні многа і ні мала,
Каб зямля матуляй стала
Для усіх, каго зрадзіла,
Каб больш паноў не тварыла».

*1904*

# МУЗЫКАНТ БЕЛАРУСКІ

Зайграю на дудцы,
Вытну на гармоні,
Заплачу на скрыпцы
Аб мужыцкай долі.

Надта ж ужо цяжка,
Душа з гора рвецца,
Слёзы так і льюцца,
Сэрца з болю б'ецца.

Ну і грай жа, скрыпка,
Хай ляціць там песня,
Або свет пачуе,
Або душа трэсне.

Скрыпка хутка плача —
Аж лес лемантуе,
Толькі яе ноты
Сыты не пачуе.

Хаця ж і пачуе —
Музыканта злае:
«Глядзі, ён, хамула,
Аб роўнасці бае».

Ды так сыпну смыкам,
Як агнём па струнах,

Што ад майго грання
Людзі енкнуць ў трунах.

Ну, дык плач жа, скрыпка,
Мо паны пачуюць,
Як хамы без хлеба,
Без страхі начуюць.

І заціяў музыка
Смыкам ды па струнах —
Пташкі задрыжэлі,
Пчолы сціхлі ў вуллях.

Музыкант галосіць,
Скрыпка не махлюе,
Хутка «хамску» песню
Ўсенек свет пачуе.

*1904*

# СЫНОК МАЛЕНЬКІ

Татульку, я хачу чытаць;
Татульку, хачу свет пазнаць;
Татульку, ехаць хачу праз моры;
Татульку, пабачыць хачу горы.
Як я буду вучоным, татульку,
Куплю табе тытуну у люльку,
Куплю яшчэ кажух белы
Дый армяк суконны цэлы;
Куплю сарочку нову
Дый сашонку клянову.
Пачнеш, татульку, араць
Дый сынку спамінаць.
Матульку тож люблю,
Чырвоную хусту куплю,
Хвартушок рабенькі,
Андарак палавенькі;
Пацерак на адзін шнурок
Купіць для цябе твой сынок.
Толькі чытаць навучыце
Дый у свет сынка пусціце.
Тагды, татулёчку,
Сівы галубочку,
Тагды і, матулька —
Рабенька зязюлька,
Куплю абяцанкі.

*1906*

## МОЙ САД

Стаіць мой сад пад белым цветам:
Нарцыс — стыдлівых поўны крас,
Звісае бэз ў акно букетам,
Тульпанаў куст расцвіў зараз.

Цвіце ляўкой, ў пуках рабіна;
Вішнёва дрэва ў малацэ;
А там парэчка, там маліна,
А там мой граб малы расце.

Люблю мой сад, як расцвітае,
Як салавей свой трэль вядзе,
Як цвет галінку прыгібае,
Як пчолка мёд адтуль нясе.

Люблю мой сад ў маёвым ранку,
Як тоне ён ў расістай мгле,
Як ліпа шэпчацца пры ганку
І як зязюлька «ку-ку» шле.

Люблю мой сад пад белым цветам,
Люблю, зялёным як стаіць;
Люблю, як грушы спеюць летам
І як работай ён кіпіць.

Люблю мой сад у позну восень,—
Як плод звісае да зямлі,

Як голкі сыплюцца ад сосен,
Як залацяцца сліў лісткі.

Люблю мой сад у крэпку зіму,—
Як у крышталах ўвесь дрыжыць,
Як дзяцел, сеўшы на галіну,
Зімову песню загудзіць.

*1905—1906*

## РОДНАЯ ВЁСКА

Вёска мая, чараўніца,
Што сэрца ўкрала?
А мо Вілля-балаўніца
Хваляй захлястала?
Мо дубровы захапілі
Біццё ў маім сэрцы?
Мо суседзі наварылі
Любчыку ў манерцы?
Бо куды я ні звярнуся,
Куды я ні гляну,
З табой, вёсачка, спаткнуся,
Цябе ўспамяну.
Еду морам — ўсё здаецца,
Што плыву Віллёю;
І ў Сібіры сэрца б'ецца,
Край мой, за табою.

*1906*

## ЛЕС

Высокі лес, шумі-скрыпі,
Расу хавай,
Ў раку ўлівай;
Грыбы расці,
Не дай цвісці
Жалобным кветкам.

Нясі палеткам
Свой доўгі дзень,
Кладзі на пень
Ў гірлянды мох,—
Сцялі пасцель,
Каб кожны мог
Прылегч спаць.
Высокі лес, ці чуеш гром,
Як ён злуе са ўсіх старон?
Як па дуплах дрыжаць зязюлі?
Як хмара з хмарай пайшла ў гулі?
Тарахнуў гром.
Маланка паліць
На вугаль чорны ўвесь гарэх.
А во і град па голлях смаліць,
А во на злосць, а во на смех
Пярун натрое дуб разбіў.

А во пяць елак зачапіў
Круцясты віхар,

Гне іх ўдвое.
А во ў гняздо якраз абое
Упалі буслы;
Пішчаць іх дзеці.
А во нямаш куды падзеці
Кустоў маліны перад бурай.
А во і зайчык дрыжыць скурай.
На кветках пчолак град пабіў.
Пазёмкі з купін дожджык змыў.
Усё хаваецца, дрыжыць,
Усенек лес цямненькім стаў.
Па голлях шум;
У лесе штурм.
На зямлю сцелецца навал.

Высокі лес, гусценькі лес,
Іскрыцца бела шата.
Ў крышталях іва,
Бяроза сіва,
Ў мароз прыбрата,
Чакае свята.
Зялёна елка —
Быццам з пудэлка.
Стаіць ў дрымоце
Дубок пры плоце.
Кусток каліны
Абпёр галіны
На трухлай тоўстай борці.
Заціхлі песні
Ў лістах цярэсні.
У гнёздах пуста,
Дзе было густа
Птушак вясною.
Дзятва лясная

Да нас злятае
З цёплага краю,
Аж з-за Дунаю.
Сойка зімуе,
Цецер такуе,
Дзяцел такоча,
Сава рагоча,
Верабей ля хаты,
Смецюшок чубаты,
Ды сястра-сінічка —
Нашы вечны госці.

*1905—1906*

* * *

Сіраціна слёзкі лье,
Неба кожну лічыць.
Сам бог сілы ёй пашле,
Адвагі пазычыць.

Як на камень ці на сталь
Скоцяцца слязіны,
Чыста спаляць: велькі жаль
Ў слязе сірацінь.

*1906*

## НАШ ПАЛЕТАК

Наш палетак паміж межаў,
З-за каторых цвіце збожжа;
А наш скравак штось залежаў,
Наш загон зысці не можа.
Ці то глеба да нічога?
Ці то рукі ў нас слабыя,
Што не маем зерня свога,
Што мы ходзім, як сляпыя?
Глеба чорна, ў руках сіла,
Толькі нашых гаратаяў
Некась мара ўсё звадзіла
Гэн за межы да выраяў...
Наш сявец не раз там кідаў
Залатое зерне з жмені;
Ён не раз там плёны выдаў,
А у нас раслі каменні.
Наш палетак не араты,
Палынамі цвіце ніва.
Ну-ка, братцы, кумы, сваты,
Да работы станьма жыва!
Хто араці добра зможа,
Хто разоры скора ладзіць,
Хто шчасліва сее збожжа,
Хто гароды добра садзіць,—
Жыва, жыва за работу!
Без аглядкі, хто што можа,
Усе роўны без расчоту,
Усіх праца будзе гожа!

*1906*

# З НОВЫМ ГОДАМ

Гэй ты, братка Новы годзе,
Што з сабою нам нясеш?
Што пасееш ты ў народзе?
Што на нівах ты пажнеш?

Ці развяжаш ты нам путы,
Ці не будзеш нам ліхі?
Ці зноў прыйдзеш такі ж люты,
Як той сёмы быў, стары?

Ці разгоніш цёмны хмары,
Ці слязу з вачэй абтрэш?
Ці, як бацька, кінеш чары
І да спячкі пазавеш?

Гэй, скажы нам?!

*1907*

## ВЯСКОВЫМ КАБЕТАМ

Ой, сястронкі, ой, вясковы,
Ой вы, кветкі прызавяты!
Вашы твары, як васковы,
Вашы шчокі слязьмі змяты...

Як каліну град страсае,
Як пярун каменне крышыць,
Так лёс рана вас ламае,
Так жыццё красу вам нішчыць.

Сколькі болю ў вачох хмурных,
Сколькі скаргі з губ збялелых,
Сколькі срэбра ў косах густых,
Сколькі поту з рук абмлелых!..

А за гэта вам дзве дошкі
І крыж з хвоек ледзьве збіты,
І у памяць плачуць дочкі,
Бо й яны, як вы, забіты.

Ой, кабеты, ой, вясковы,
Ой вы, кветкі прызавяты!
Ой, лілейкі вы без мовы,
Ой вы, птушкі бескрылаты!..

*1908*

# ТРЫ КВЕТКІ

*(З украінскай)*

Калісь, як выходзіў я з хаты айца,
Тры кветкі ў дарогу узяў для жыцця:
Ад маткі і брата дзве кветкі дастаў,
А трэцю найлепшы мне друг даравў.

І покі не звянуць тры кветкі мае,
Значыць, што тужаць усе тры па мне.
Хутка прабеглі дні шчасця, пацех,—
На слёзы і гора змяніўся мой смех.

Я глянуў на кветкі: аж братня завяла,
Шчырага друга пад плесняй ляжала;
Адна толькі кветка як сонца цвіла:
Бо крэпка любіла матуля адна...

*1908*

* * *

Скора прыйдзе вясна,
Панясецца «ку-ку»
Праз лясы, праз палі,
Праз наш Нёман-раку;
Па Вілле па сястры
На плытах паплыве
Аж пад вокны да хат
І вясёла гукне:
«Дзецюкі, гу-гу-гу!!!
Ўжо вясна на дварэ!
Ўжо трава на лугу,
Ужо кветкі ў траве!
Гэй, хутчэй за саху,
Ды араць, ды араць...
Ды усім у спяху
Засяваць, засяваць...
Ды глыбей, ўсё глыбей
Зерне сыпаць ў зямлю...
Ды хутчэй, ўсё хутчэй
Упраўляці раллю...
Каб драсны не цвілі,
Каб асот не тырчаў,
Каб ячмені зляглі,
Каб авёс аж драмаў;
Каб вам бульба была,
Як той яблык ў саду;
Каб капуста зрасла

Велізной з галаву!
Тады будзе крапчэй
З горам стаць да вайны
Ды скарэй і лягчэй
Рваць ланцуг цемнаты...»

*1908*

# З ЧУЖЫНЫ

І душна, і цесна, і сэрца самлела
Мне тут на чужыне, здалёк ад сваіх...
Як птушка на скрыдлах, ляцець бы хацела,
Як хваля па моры, плыла бы да іх!

Ўзнялася б, здаецца, расінкай на хмары,
А хмары бы ветрам сказала я гнаць
Далёка, далёка, дзе сняцца мне чары,
Дзе боры густыя над Нёмнам шумяць;

Дзе пацеркай белай Вілля прабягае,
Дзе Вільня між гораў гняздо сабе ўе,
Дзе кожна дарога і крыж мяне знае,
Дзе ўсё, усё чыста вярнуцца заве!

Там я нарадзілась і вырасла ўволю,
Там першыя словы вучылась казаць.
Затое сягоння ляцела б стралою
Там з імі з усімі Год Новы спаткаць!

Ой, мілыя, мілыя, снегам пакрыты
Загоны, лясочкі, дарожкі мае!
Эх, як вы у сэрцы маім не забыты,
Як часта абраз ваш у думцы ўстае!

А вы, бледны твары, панураны ў працы,
І ты, друг мой, смутак з іх слёзных вачэй,
Прыміце сягоння прывет мой гарачы,
Каб жыць нам было ў гэтым годзе лягчэй!

*1909*

## ГРАЙКА

Граў бы я многа, ды сіл не хватае,
І рвецца за стрункаю струнка,
Хоць песня яшчэ не замёрла ўдалая,
Хоць родзіцца думка за думкай.

Граў бы я многа, ды смерць кажа «годзе!»,
Ў магілку мне ладзіцца кажа...
Эй, рвіцеся, струны, што гэта мне шкодзе?
Ў магілку супольна мы ляжам!

Можа, з той ліры вырасце іва,
З парваных струн — белыя кветкі;
Можа, вясною будуць ігрыва
У дрэўца ценю гуляць дзеткі;

Можа, хто з дзетак скруце жалейку —
Ўнучку паломанай ліры,
І так зайграе, што ўсенька зямелька
Пачуе мой водгалас шчыры!

Дзедавы струны, рана парваныя,
Зноў громка азвуцца, як звоны:
Песня, за жыцце яго недаграная,
Ў сэрцы унука дасць плёны.

А на задушкі пад цёмнаю івай
Жывое пачуецца слова,
Што песня ўстала з стотысячнай сілай,
Жыве мая ліра нанова!

*1909*

## ГАДАННЕ

Загадай, зязюля, закукуй аб шчасці,
Варажы аб долі запрапаўшай Насці:
Дзе вянок руцяны, дзе сынок ядыны,
Дзе краса падзелась з лічыка дзяўчыны?
Чаму у аковах Насці тонкі рукі?
Чаму твар скасіўся ад страшэннай мукі?

На грудзях запаўшых вузялок з зямлёю —
Усё, што з вёскі Насця вынесла з сабою.
У халодных мурах бела вяне цела;
Насця ўдвое гнецца, за год пасівела.
Замест вочак сініх — поўны слёз дзве раны;
Тварык без румянца, як папар зараны...

Ну, гадай, зязюля! Закукуй аб шчасці,
Варажы аб долі нашай беднай Насці!

...Зашумела птушка, седзячы ў вярбіне:
Знаць, што шчыра хоча варажыць дзяўчыне...

*1910*

## «ЛУЧЫНКА»

З «Лучынкай» паволі ў зімовую ночку
З хаты да хаты пойдзем шукаць,
Мабыць, забыты людзьмі у куточку,
Хлопец-сіротка дзе хоча чытаць.

Можа, дзяўчына, спраўшы кудзельку,
Будзе ў запечку маркотна сядзець
Або ў зімовую нудну нядзельку
Праз выбіту шыбу на поле глядзець.

Падойдзем да іх мы з «Лучынкай», пасвецім,
Аб роднай старонцы сцікавіма іх,—
Можа, з «Лучынкай» іскры разнецім
Ў думках і ў сэрцах сіл маладых.

І мо з «Лучынкі» іскры гарачы
Асвецяць цёмны хлопцаў куток
І распраменяць вочы дзяўчаці,—
Ахвотней сядзе прасці лянок.

Паволі, ціха, у роўнай меры
Будзем з «Лучынкай» наперад спяшаць —
З вёскі у вёску, праз кожныя дзверы
Клікаць, каб моладзь святло выйшла ўзяць.

Моладзь, вы — сіла ў кожнае хаце,
Вы — сонейка, радасць для бацькі, для маці,
Вучыцесь, старайцесь, багаццесь у сілы,
Бо жджэ вас з надзеяю край наш радзімы.

*1914*

## СІРАЦІНКА

У кашульцы чорнай, зрэбнай.
Тварык сплаканы, мурзаты;
Ані бацькі, ані маткі;
Дзядзька выгнаў з роднай хаты.

На узмежку сядзіць, плача,—
Куды дзецца — знаць не знае;
Гадок шосты пайшоў толькі...
А тут ночка... страх... змяркае...

Не плач горка, сірацінка,
Беларуская дзяўчынка!
Спяць сном вечным бацька, матка,—
Не пачуюць ця, дзіцятка,

Не памогуць твайму плачу,
Не траць сілы дарагія:
Жыта сіва спаць ця прыме,
Дожджык цёплы шчочкі змые,

Пасцель мякку трава ўсцеле,
Пырнік ножкі ўкрые босы;
Сном забудзешся спакойным,
Вецер вольны спляце косы.

Каласочак ця накорміць,
Сонка яснае прыгорніць,
Крыж расстайны будзе таткай,
Ралля чорна — роднай маткай.

Ўстань з узмежка, не плач горка,
Глянь у неба: зорка ясна,
Што найдалей свеціць міла,—
Твая гэта, твая ўласна.

Вер: не згінеш, сірацінка,
Беларуская дзяўчынка!
Ў нашым краю многа гэтак
Ў людзі выйшла сірат-дзетак...

Мы належым да народу,
Што ад свету да заходу
Кожны з гора ўтрое гнецца,
Аднак гору не даецца.

Крыжам ляжа ў крыві ўласнай,
А ўсё ж верыць зорцы яснай.
Наш народ наўздзіў трывалы!
Шмат прыдбаў чужынцам славы...

Аб сабе адно забыўся,
Толькі вось цяпер збудзіўся.
Хоць шмат латак, хоць без хлеба —
Жыць і крэпнуць і нам трэба.

Беларусы! Больш нікому
Не ўступайце вы загону
Свайго жніва, сваёй працы.

Сірацiна! страх дзіцячы
Зглушы ў сэрцы, расці жвава —
Цябе жджэ народна справа!

*1914*

* * *

Арлы-брацці, дайце скрыдлы,
Бо унізе жыць мне збрыдла;
Кіньце кожны адно пёрка,
Бо жыць ўнізе стала горка.

Хачу, арлы, ляцець з вамі
Над гарамі, над мурамі,
Крыллем хмары рассякаці,
Смела ў неба заглядаці;

Жыць ў аблоках над зямлёю,
Скрыдлы раніць ў страшным бою,
Кроў з-пад сэрца людзей піці
І ўгару к сабе ўзнасіці.

Арлы-брацці, дайце скрыдлы,
Бо між людзі жыць мне збрыдла,
Кіньце кожны адно пёрка,
Бо унізе жыць мне горка!

*1914*

* * *

Адкрый, пані, добра пані,
Цісавы вароты:
Нясуць жнейкі, нясуць жнейкі
Вянец шчыра-злоты.

Сонца грэе, сонца грэе,
Паспела пшаніца.
Ясна пані, добра пані,
Красна маладзіца.

Ой, час табе, сэрца спела,
Час вам, пшонны зёрны,
Пахіліцца, палажыцца
Пад каменны жорны.

Ой, час табе, сэрца спела,
Жарам запылаці,
І, як колас залаценькі
Ураджай нам даці.

Сэрца кліча, сэрца кліча,
Як зязюлька шэра.
На той голас адгукніся,
Наша пані, шчэра.

Сцеражыся праспаць, пані,
Веснавы дзянёчкі
І той сэрца голас ціхі,
Што заве уночкі.

Наша панна не слухае
Той далёкай весці,
Бо на што ёй свае дзеткі,
Калі нашы песціць,

Бо на што ёй свае дзеткі
І сямейка ўласна,
Калі нас, як дзетак, любіць
Наша пані ясна.

Хоць паненцы міла, люба
З намі ў добрай радзе,
Але лёс, адвечны бацька,
Скора ад нас скрадзе.

Ідзе вораг-панявольца,
Нясе злоты сеці,
Выйдзі, выйдзі, каралеўна,
Выйдзі ка мне з клеці.

Ой, як табе расці, кветка,
Расці-красаваці,
Калі гром-пярун і бура
Могуць ця зламаці.

Ой, як сэрцу маладому
Задаваць атруту,
Калі просіць, моліць шчасця
Хвіліну, мінуту.

Будзь шчасліва, будзь шчасліва,
Красуй ўсім на дзіва,
А мы пані не забудзем,
Пакуль будзем жывы.

*1915(?)*

# СВАРБА

Пасварыліся вясна з зімою, ну і давай адна адной на злосць рабіць.

— Я,— кажа вясна на зіму,— не буду з табой шмат гаварыць! За каўнер і так шпургану, што аж за лясамі ты ў мяне апынешся!

— Маўчы, маўчы,— бурчала белая зіма.— Хіба я цябе ў барані рог заганю, як сцісну, то аж табе вылезуць вочы.

Ну і пачалі адна адной наперакор рабіць. Зіма паўзе з марозам — вясна лезе з адлігай, і зноў няма парадку. Цярпелі людзі, цярпелі, а после давай сход рабіць, давай радзіць, на чыёй тут старане ім стаць. Адны казалі:

— Мы яшчэ не вымалацілі збожжа, не навазілі дроў, не адпачылі после летняй працы, хай пабудзе зіма.

Другія зноў крычалі:

— Вон зіму! Яна нас памарозіць; мы і так лапці патапталі, кажухі абадралі. Досыць нам яе; хочам вясны.

І немаведама, як то яно прайшло б на тым сходзе, каб не ўвайшоў старэнькі жабрак і не пачаў жаліцца на зіму.

Праўда: вушы былі абмарожаны, рукі пакрэпшы, світка рвана, сам ён дрыжаў ад холаду. Увесь сход закрычаў у адзін голас:

— Не хочам зімы! Хай вясна ідзе да нас!

Бедная зіма заплакала горка на людзей, слёзкі яе цяклі са стрэх, білі па абалонках [1], разліваліся па зямлі, збягалі ў лужы, з лужаў у рэчкі, з рэчак у моры, з мораў у акіяны.

А вясна смяялася, строілася ў кветкі, гарцавала па палях, песцілася па садох, шчабятала з птушкамі, цалавалася з дзеткамі, аж пакуль не пасварылася з летам.

Хто цяпер абдалее, скажыце, дзеткі, самі.

---

[1] па шыбах *(заўвага аўтара).*

# З ПРЫСКУ ДЫ Ў АГОНЬ

Аднага разу вёз гаспадар збожжа да млына. Па дарозе крыху рассыпаў. Угледзелі гэта галубы, прыляцелі і давай кляваць зярняты. Якраз на тое прыбег пявун, разагнаў галубоў і сам пачаў дзюбаць. Галубы дужа зазлавалі дый кажуць: «Мы табе шальмоўства такога не даруем, паскардзімся каму трэба».

Паляцелі да каршуна і давай на пеўня чаўпці. А каршуну была на руку гэта скарга; ён скарыстаў яе і расправіўся па-свойму: спачатку з'еў пеўня, а после закусіў галубамі.

# ГУТАРКА АСОТА З КРАПІВОЮ

— Што ты патыкаўся са мною? — крычала крапіва асоту: — Ці я табе раўня? Нічога ты не робіш; ніхто цябе не знае; ветраеш недзе ў полі сярод аўсоў. Вот я так увіхаюся: таго крапіва пацалуе, хто крапіву згатуе. Кожны крапіву знае, кожны спамінае, на кожным падворку расту я. Глядзь! ужо аж да прызбаў падпаўзла.

— Як жа,— адазваўся стары асот,— я расту далей, бачаць мяне людзі радзей, але мусіць мае шпількі дык даўжэй помняць ад крапіўкі.

Якраз на той час падслухала іх гутарку малая Марута і кажаць:

— Не хваліцеся: абое вы рабое! Матулька казала, што вас абодвух з карэннем выдзярэ.

# ЖУРАВЕЛЬ І ЧАПЛЯ

Жылі сабе па абодвух канцах балота Журавель і Чапля.

После стала ім надта маркотна жыць, і вот уздумаў Журавель да Чаплі ў сваты ісці. Ціпяху, ліпяху, сем вярстоў па маху, цераз бор ды ў Чапляў двор.

— Як маешся, Чапля?

— Здароў, Журавель.

— Ці не пойдзеш, Чапля, за мяне замуж?

— А твае ногі доўгі, пер'е каротка; дужа ты брыдкі... Ідзі сабе, дзе быў!

Журавель перабраўся ізноў цераз балота дый прыйшоў у свой двор.

Раздумалася Чапля, што за Жураўля замуж не пайшла. «Дай,— кажа,— пайду да яго і перапрашу».

Ціпяху, ліпяху, сем вярстоў па маху, цераз бор ды ў Жураўлёў двор.

— Здароў, Журавель!

— Як маешся, Чапля?

— Вазьмі мяне замуж за сябе.

— Твая шыя доўга, і сіня, і крывая, і сама ты гарбатая; такой мне не патрэбна.

Хаця было і стыдна, аднак Чапля папляла-ся цераз бор назад у свой двор.

Шкода стала Жураўлю, што не ўзяў Чаплю

бедную, і зноў пайшоў ён тою самаю дарогаю. Ціпяху, ліпяху, сем вярстоў па маху...

Так цэлы век свой хадзілі яны адзін да аднаго ў сваты, і так на абодвух канцах балота асталіся іх хаты.

# СІРАТА

Сямі гадоў асталася Настулька круглаю сіратою. Перш-наперш памерла маці з гарачкі, а праз два рокі бацьку забіла дрэва ў лесе. Прыйшлі людзі на хаўтуры, пабедавалі, а нават некаторыя паплакалі. І тым скончылася тое. Бацьку пахавалі, а Настулька асталася аднаадзінютка, як палец, на белым свеце. Некаму Настульку накарміць, ані сарочку перамяніць. Жыла яна з нябожчыкам бацькам у Саладухі Канцавога на гасподзе. Асталося крыху адзення па бацьках: кажух, армяк, ботаў прышвы, жыта з паўтары шаснасткі ды круп з гарчык. Вот і ўся гаспадарка сірацінын, а і тую разабралі за доўг.

Было лета. Людзі высыпалі на палеткі на работу. Адны дзеці ды сабакі асталіся ў вёсцы. Сіраціна села на прызбе і давай плакаць, давай крычаць:

— Тата, тата, тата!

А тата далёка, ляжыць у сырой зямлі глыбока, не чуе, як галодная дачка плача. Дзеці малыя пасхадзіліся, абступілі Настульку. Хто меў яблыка, грушку, хто кусок кашы, хто скарынку хлеба, клалі ў ручкі малой Настульцы. Будзькін Міхась пабег дахаты і ўсе свае цацкі прынёс дзяўчынцы. Але Настулька нічога не брала, нічога не слухала; яна ўжо не плакала і

не крычала, а, чыста ссінеўшы, толькі хліпала. Ажно паказалася старая жабрачка, сіва, моў галубка; ішла памаленьку, апіраючыся на кіёк. Падышла бабуля да дзетак, распыталася, прыгарнула сіраціну да сябе, пагладзіла па галоўцы, кажучы: «Ціха, ціха, тата прыйдзе, абаранку прынясе, вунь туды пайшоў, за лес, зараз прыйдзе». Выняла з торбы хлеба, сыра, накарміла, завяла пад студню, вымыла ёй тварык, зняла сарочку, ахаяла ў карыце, высушыла, прыбрала Настульку і павяла з сабою, прыгаварваючы: «Пойдзем, дачулька, да таты, пойдзем». Ніхто не пытаў: па што, куды і скуль бабуля. Сіраціны як бы і не было, як бы яна і не радзілася ў Прудзянах.

Прайшло гэта гадоў з чатырнаццаць. Нядзелькаю ўлетку павыходзілі прудзянскія на вуліцу. Старыя сабе гаварылі, маладыя гулялі. Ажно бач! Сівая каніна, запрэжаная ў каламажку, астанавілася проці Саладухавай хаты. Выскачыла маладая дзяўчынка, пекная, проста не нагледзецца, як з казкі каралеўна, ды давай вітацца з усімі, давай цалавацца з бабамі, дзяцьмі, дзяўчатамі. А тут ніхто не знае і не думае, што гэта сіраціна Настуля прыехала адведаць бацькавы магілы. Пасля толькі памалупамалу разгаварыліся так ды сяк, прыпомнілі.

Настулька расказала, што бабуля завяла яе ў вялікі горад, аддала добрым людзям, тыя яе выгадавалі, вывучылі і што цяпер яна вучыцельніцаў у Лебядзянскай воласці. Пабыла Настуля колькі дзён у Прудзянах, пагасціла і давай выбірацца ехаць назад. А вясковыя кажуць:

— Не, мы цябе не пусцім; мы табе спадабаліся, а і ты нам. Ніхто яшчэ так з намі не гаварыў добра, як ты. Аставайся! У нашай воласці такжа ёсць школа, так ты і вучы нашых дзетак.

Тым тое кончылася. Настуля пажагналася і паехала дахаты.

Прайшло лета, восень, настала зіма. Прудзянскія гаспадары, нічога не ведаючы, забралі хлопцаў і павялі ў воласць вучыць. Глядзяць: Настуля вучыцельніцай, прымае, запісвае хлопцаў як мае быць. Ато ж была радасць...

У другую нядзелю бабы, дзяўчаты, хлопцы пайшлі адведаць Настулю. Пасля Настуля стала прыязджаць у госці да прудзян ужо са сваімі вучнямі.

А старое бабулі так ніхто больш не бачыў. Скуль прыйшла, куды пайшла, дзе падзелася, бог яе знае, ані слыху!

# ПРЫСЯГА НАД КРЫВАВЫМІ РАЗОРАМІ

Быў цёплы асенні дзень. Нівы ціха адпачывалі пасля летняй працы. Цёмны лес шаптаўся ў глыбокай задуме. Буслы тужліва ляцелі на вырай.

Гэтага дня, маркотны і згорблены пад цяжкаю хмараю невясёлых дум, ледзьве-ледзьве поўз стары Мацей у поле.

— Галава баліць, рук не зняць,— бурчэў ён, падцягваючыся.— Дзяцей дагадаваўся, а адпачыць некалі і не за кім.

Так ён сам сабе жаліўся.

Праўда, у Мацея было трох сыноў: аднаго ўзялі ў маскалі, другі паехаў да Пецярбурга шукаць хлеба, трэці пайшоў за парабка да двара, а бедны Мацей з жонкаю і двума малодшымі дзяўчатамі астаўся ў хаце на сваёй гаспадарцы.

Бедната, адзіноцтва, сілы ўжо не тыя,— а рабі і рабі, працуй без канца... Мардасовічу — за лён, Бізуноўскаму — за пашу, а там і за бульбу плужы і плужы штодзень на адработках, так што сваё, хоць і вузка, але і то лында, і то няхват часу ў пару засеяць. Вось і цяпер,— суседзі ўжо даўно пасеялі і пабаразнілі, а Мацей толькі першы дзень выйшаў на сваё і то быў хворы.

Аднак, перамагаючы сябе, насыпаў жыта ў хвартух, напляваў у жменю, чарпануў зярнят і са словамі «радзі, божа» сыпануў зерне на чорную глебу.

Зярняты замільгацелі на раллі. А Мацей стаяў з пасалавеўшымі вачыма і шаптаў: «Не магу... Надта ж галава баліць і сон морыць».

І, не ўкладаючыся і не пасцілаючыся, ён, як стаяў, так і лёг, так і заснуў...

Спаў, як пласт, упоперак загона з раскінутымі рукамі. Ліцо было бледна, губы чорны ад смагі; дыхаў ён часта і з якімсь хрыпам. Здалёк выглядаў на чалавека, каторага вот-вот раскрыжавалі і прыбілі да зямлі, і так ён паволі канае...

Мацей спаў і сніў. Сніў ён, што сабралася моц народу на яго ніве: былі там і маладыя, і старыя, і мужчыны, і кабеты, і дзеці — у розных апратках, і ўсе крычалі:

— Вузка! Цесна! Мала!

А Мацею здавалася, што і ён сам стаіць пасярод гэтага народу, і што ўсе чакаюць, што і ён сам, Мацей, скажаць, і што вот-вот к яго сэрцу падыходзіць нейкі жаль, і што ён таксама пачынае крычаць:

— Вузка! Цесна! Мала!

Аж, здаецца, выбягае сусед Астап, зацісну ўшы кулакі, і крычыць яшчэ мацней ад Мацея:

— А скуль узяць? Скуль дастаць? Кажы, скуль?..

Тады захістаўся народ і зароў:

— Глядзіце, во прасторы! Во нівы, лясы, палі! Усё гэта наша!..

А Астап:

— Лжэце! Няпраўда! Не дадуць: то казённае, дворнае,— ні я, ні вы не маем права. Не дадуць, паб'юць!

Вось далей здаецца Мацею, што з цьмы народу выходзяць яго тры сыны: парабак дворны, салдат і работнік пецярбургскі і становяцца на калені і прысягаюць громка, ясна, паволі:

— Мы дамо! Мы — сіла! Мы — права!

Мацей абліваецца потам, сэрца яго б'ецца... І здаецца яму, што ўсё гэта спавіў туман: толькі разоры стаяць поўны крыві, а над імі вісяць тры скрыжаваны далоні... І раздаецца ціха ясны голас:

— Мы — сіла! Мы — права!..

*1906*

## РАЗУМНЫЯ ДЫ НЕ НА ДУРНЯ ПАПАЛІ

У Варшаве паліцыя ўнадзілася трасці людзей на вуліцах. Ідзе сабе чалавек спакойна, раптам бац! — ватага паліцэйскіх і крыкне: «Рукі ўверх!» І пайшла рыцца па кішэнях, не мяркуючы, як свіння ў гародзе. Добра, як пуста! Але як маеш якую забароненую паперку, газетку, а крый божа рэвальвер — ну пойдзе тармасаванне ад аднаго ўчастка да другога, цягаюць ад Анапаша да Канфаша, пакуль не вывяжэшся, не пусціш туману ў вочы «храніцелям парадку» або не пашмаруеш як следуе свярбячых пальцаў.

Каб доўга не развадзіцца, скажу коратка пра адно здарэнне.

Ідзе сабе вуліцай бунчучны пан. Аж торк паліцыя: «Рукі ўверх!» — крычыць. Пан шурціць да кішэні, гадзіннік у адну руку, партманку ў другую, і, як бусел з распушчанымі скрыдламі, так ён з паднятымі рукамі стаў і смяецца перад разгневаным законам.

А закон, знакам тым паліцэйскія, сярдуе, просе і ўсё прыглядаецца да партманкі, як да дынаміту або бомбы, толькі з блізшай мэты.

Перашукалі, ператрэслі — пуста! Але ўсё-такі вядуць да ўчастка. Прывялі, паставілі перад пріставам. Адзін з гарадавікоў вымае рэвальвер-браўнінг з сваёй кішэні і кажа: «Вось

гаспадзін, а вось — яго рэвальвер»,— і з гэтымі словамі палажыў яго на стол. Прыстаў падскочыў да пана ды давай: «Как ты смееш, бунтаўшчык, насіць аруж'е без разрашэння начальства? Я вам пакажу!» — і тыча кулак пад нос пану.

Але тут пан з сваёй стараны асрожыўся, адчыніў партманэ, выняў пісульку і кажа: «Вы не маеце права мяне лаяць, бо я маю дазваленне насіць. Вот яно, чытайце! А рэвальвер мой вярніце мне назад».

За рэвальвер гарадавога ды ў кішэнь. «Не маю толькі часу,— кажа,— а то б на вас паскардзіўся куды трэба...»

І выйшаў, смеючыся. Прыстаў накінуўся на гарадавога за тое, што прывёў франта з разрашэннем. А гарадавы злаваў у душы, што прывёў франта з разрашэннем, але без рэвальвера. Франт пасвістываў сабе, ідучы вуліцай. Чаму не свістаць: рэвальвер найлепшага калібру, вартасць рублёў з дваццаць пяць, сам, як з вадою, прыплыў. А смех? Смех? Авечка сярод ваўкоў, а ваўкі ані чэп!

*1908*

# НАВАГОДНІ ЛІСТ

Быў марозны вечар і кудаса на дварэ.

Настуля, падаваўшы быдлу, прылягла на печы і пачала думаць аб сваім сыне Міхалюку, каторага ўжо год як здалі ў салдаты і загналі аж у Разанскую губерню.

Ад вясны ўжо не было ніякай весці ад яго. У вёсцы хадзілі чуткі, што Міхась упаў з каня на манеўрах і забіўся. Але бацькі неяк не верылі гэтаму, хоць і часта горка плакалі,— найбольш матка. У канцы пастанавілі паслаць крыху грошай на Новы год і напісаць аб сваім жыцці.

Юзуль, значыць бацька Міхасёў, пайшоў на вёску па адстаўнога артылерыста, пісаку на ўсю ваколіцу, а Настуля асталася ўходжвацца каля худобы. Змарылася, змерзла і цяпер грэлася, думаючы аб сваім Міхасю.

«Мой ты сынок родненькі, за светамі»,— думала ўпаўголас, прыціскаючы рукі да высахшых грудзей.

— Жонка, запалі лучыну!— азваўся Юзуль яшчэ за дзвярыма.— Прывёў пана пісара.

Цераз якую мінуту ўжо ўсе трое сядзелі за сталом. Унтэр пісаў. Настуля свяціла яму, а Юзуль дыктаваў:

«Кланяемся мы табе, бацькі родныя, Юзуль Канцавы, бацька твой, і Настуля Канцавая, ма-

ці твая, і сястра яшчэ, Агата Канцавая, па мужу Караткавога, з вёскі Бульбенішкі, і ўсе тваё знаёмыя і не знаёмыя кланяюцца.

Жывём добра, чаго і табе жадаем. Зіма ў нас крэпка. Поўмястэчка згарэла на сёмуху. Ураджай быў не надта вялікі. Хлеб у нас скончыўся перад калядамі. Красулька ацялілася: пекны, дзякаваць богу, бычок, падласы. У мястэчку стражнікі пабілі людзей; усё выйшла з-за крыжа, што паставілі без дазвалення начальства. Адну кабеціну нават застрэлілі. Мацей з Юркам пабіліся за дровы. Мы купілі сабе парсючка на зельну. Цётка Каруся прасіла цябе паздаровіць; ёй вецер увосень саўсім страху садраў з хаты. Лебядзіха прыняла прымака. З Амерыкі ўцякаюць людзі, бо і там дрэнна. У воласць не маем з чаго заплаціць. А Скрабы і да гэтай пары не справілі экзеквіі па бацьку. Сталяровым аўчынкі вельмі добра вырабіў Ёсель. На куццю нам было смутна без цябе. Кісель удаўся. Маці пасля аплатка папярхнулася — пэўне, ты ўспамянуў. А вучыцель усё сядзіць у астрозе. У мястэчку яшчэ дзве манапалькі адкрылі. Бабы ўжо папралі зрэб'е, пачынаюць пачэсы. Народ не ўспакоіўся. Улетку па дварах стаялі казакі. Корму для скаціны хваце, толькі саломы дакупім з два вазы. У земскага нехта пакраў канфітуры. Куры гэтага года добра нясуцца. Сіўку падкавалі ў суботу. У Кастулі Капейчыхі ізноў дачка нарадзілася — не рады яны, бо хацелі сына. Больш нічога не было без цябе. Ага! У трэцюю Думу выбралі дэпутатаў, бо другую распусцілі: кажуць, мужыкоў там зашмат было, вельмі зямлі дама-

галіся ды нікога слухаць не хацелі. Ад новай Думы нічога яшчэ не дачакаліся. Кажуць, выбралі ад нас дэпутата, што калісьці Расію немцам прадаў.

Кланяемся табе мы, бацькі родныя, Юзуль Канцавы, твой бацька, і Настуля Канцавая, твая маці, і пасылаем табе восем злотых на боты або на што іншае.

*Пісаў унтэр артылерыі Бадрычэўскі».*

*1907—1908*

# АСЕННІЯ ЛІСТЫ

Сядзелі на прызбе, кланілі к сабе галовы, як дзве высахшыя макаўкі пад сільным ветрам, і вялі гарачую гутарку.

— Дзякуй, Сымонка, дзякуй, што адведаў ты мяне хаця перад смерцю. Рад, вельмі рад,— скрыпеў сухім голасам Сцяпан.— Гляджу на цябе і не веру сваім вачам — ці гэта ты, ці не ты?

— Мо і не я,— смяяўся Сымон,— пастукай! Толькі паволі, бо я цяпер шкляны,— гы-гы!

— Смех — смехам, а кусок часу. То ж мы з табой і не бачыліся з тае пары, як я купіў у Меера рабую карову і як прытрапілася, помніш?.. тое...

— Як не помніць? — помню.

— А знаеш, удалая была жывіна, словам не сказаць,— і ўежна, і да зімы ўладна, і на цяляты, проста гад — не карова...

Пыхаў Сымон люльку, напіхаючы тутун, і падрыгваў выблекаванымі вачыма.

— Да таго часу, ваша, камень пакаці, то пакрышыцца. А што казаць пра скаціну! Яно ж нежанатыя былі тады?

— Гавары мацней, не чую! — наставіў вуха Сцяпан.

— Нежанатыя былі! Дзяцюкі, як дубы, аж народ аглядаўся. А цяпер што? — трухло!

Вунь унуку майму трэцяму гэты год на лёсы.

— Ці ж гэта так даўно? — Падняў з задзіву Сцяпан навісшыя бровы.— А я думаў, гадоў пятнаццаць.

— Павысахлі рэчкі... хо-хо! — кепкуе бяззубым ротам Сымон,— пят-нац-цаць, дрэнна, дрэнна, ваша, лічыш! — Б'е па плячы старога.— А як мяркуеш па нас, будзе ўжо па трынаццаць? Бо я думаю, што не! Глядзі, толькі, толькі зубы выразаюцца.— Паказвае бяззубы рот.

Ускалыхнуўся вецер на сухіх галінках, быццам смерць сміганула лёгкім ценем па ліцах старцаў.

— Эй, Сцяпане, Сцяпане, старыя мы ўжо пні! Адною палавінай на гэтым баку, другою на тым. Фю! Жыццё, як тая муха, бз-з-з! і праляцела,— пстрыкае пальцамі Сымон у паветры.

— Так, так, яно-то так, праляцела,— годзіцца Сцяпан,— але як аглянешся назад, як падумаеш ды прыпомніш тыя магілы, насыпаны сваімі рукамі, на слёзы выліт... каху-каху! — папярхнуўшыся горкім словам, кашляе.— Ось спытай суседа і сведку аб пройдзенай дарозе,— паказвае скурчаным пальцам на крыж пры варотах,— усіх маленькіх пахаваў, усіх аплакаў. Не пашкадавалі, родненькія, мяне... старога, не пашкадавалі! — адно за адным, адно за адным, як пацерачкі, пакаціліся.— Згарнуўся ў кручок і кідаў жаласную скаргу ў вочы распяцця.— Ну,— заківаў галавою,— яго святая воля! Вечнае адпачыванне!..

А крыж-старавіна замшалым ліцом глядзеў на абодвух і думаў сваю думу... Разам, пэўне, з Сцяпанам свой век скараталі, разам старэлі і горбіліся. Мо не адна бура над іх галовамі шумела, не адзін гром у іх сэрца мерыў, а яны ціха смутак сабе павяралі. Нат і паходзілі адзін на аднаго: абодва шэрыя, сухія, замкнутыя ў сябе, панура глядзелі ў зямлю.

— Праз крыж твой і мукі,— выбач ім, пане! — кончыў сваю малітву Сцяпан і ўжо крыху спакайнейшым голасам вёў далей гутарку:

— Жывём цяпер толькі ўдвух. Вось сяджу часам на прызбе і думаю: а ну, хто каго пераcтаіць? Хацеў, было, падперці, але, як ужо на тое пайшло,— паглядзімо, хто каго: ці я яго, ці ён мяне? Равеснікі ж, бачыш, Сымоне, і мы з ім. Шчэ бацька мой нябожчык паставіў, якраз у той год, як я меў нарадзіцца.

І тут Сцяпан папраўляецца, сядае добра, бярэ Сымона за рукі, як ён прывык рабіць з кожным свежым чалавекам, і пачынае свой сказ, мо ўжо тысячу раз пераказаны ім у жыцці.

— Бацькі мае былі гаспадары, але дзеці ў іх не гадаваліся. Народзіцца худое, зялёнае, гадоў два-тры пакавэнчыцца ды памрэ. Перапрабавалі ўсяго чыста. Хто чаго не парадзіў: лекі, знахары, шаптухі, а скутку ні на шэлег. Знаку — ні той божа. Ходзіць гэта мая матка са мною, восьмым ці дзевятым, а пошасць,— знакам тым халера,— косіць народ, што ні радачкі. Хмарай ідзе па ўсёй старане. Людзі не згадаюць, што і рабіць: абворваюць вёскі, моляцца, на афяры даюць, крыжы ставяць. А матка гэта мая і кажа да бацькі: «Чалавечку, пастаў-

ма і мы крыж, жывучы на аднаселлі... Мо і нас бог укрые ад заразы, а мо і дзеткі стануць гадавацца!» Пасля яна-то спамінала, што быццам крыж агністы мільгануў ёй перад вачыма. Парадзіліся, пагаварылі ды паставілі злева ля варот. Праз колькі тыдняў я і нарадзіўся,— хлопец не хлопец, а цвік! так, такі дзіця-каўбук. Бабка стала купаць, зірк — і рукі адняліся... На правай лапатцы ў дзіцяці, знакам тым у мяне, чырвоны крыж, так, такі крыж — радзімы знак. Суседзі на здзіў дзівіліся: адны варажылі шчасце дзіцяці, другія — наадварот. Хе-хе! значыць, прыйшоў на свет божы ўжо з крыжам. А после, калі пасыпаліся,— так толькі крыжы, крыжы па ўсёй скуры... А душа шчымам шчыміць. Бацькі з пажару не выйшлі, няшчасце з жонкай, астрог, калецтва, а после,— як пацерачкі,— да апошняга...

Сціснуў галаву касцістымі рукамі і горка плакаў. Сівое валоссе сіратліва касмыкамі разносіў вецер. Дзеравяныя кулі пры нагах мёртва качаліся ад сударажнага плачу.

— Сцяпане! — крэпка надумаўшыся, азваўся Сымон.— Чуў, шмат чуў ад людзей пра тваё адзіноцтва, але што зробіш, жыццё трасе чалавекам... ой, рэчкі павысахлі... так трасе, так трасе, як вецер лісцем на дзераве! А мы з табою, Сцяпане, праўду сказаць, асеннія лісты, патрасе шчэ крыху намі, патрасе, і адпадзём! О-ё-ёй! рэчкі павысахлі... бз-з-з! і праляцела... А вазьмі хоць мяне: і жонка жыве, і дзяцей маю, і не калека. А дабра, што плюнуць. Палын кіпіць у грудзі, гаркаценне цераз берагі...— паказвае на сэрца.— Выгналі бацьку на ста-

расць — і жабруе. Ох рэчкі павысахлі... А што зробіш? Мусіць, там было так напісана...— Глядзіць, як гусак, адным вокам у неба.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Асенняе неба і хмарна і зімна... не адкажа вам, пажоўклыя лісточкі. Вецер толькі закалыша і знікне. Адзін звон мо па вас заплача шчыра, а зямля-маці прытуліць спрацаваныя косці. Елка або бяроза пусціць карэнне ў вашы збалелыя сэрцы, выцягне з іх усю горыч і вынясе ў вясёлай зелені суроваму свету... канец мукі.

*1910—1912*

# ЛІШНЯЯ

Па збледлым твары хадзілі хмары дум. То наплывалі густа, збіваліся ў вачах сталёвым блескам,— выглядала, што ўжо-ўжо збіраецца на буру, але шалёны спазм крыку здзержываў нейкі ясны праменьчык, выскаўзнуўшыся з кустоў лялек, і нешта чыстае, вялікае без канца і звання біла ад ліца ў алтар з запаленымі свечкамі.

Арган граў. Устаўленыя шпалерам мірты тлелі ў цёплым святле касцёла. Ішлі пары за парамі. Белы шоўк сплываў нявінна па іх гібкіх станах. Весела шаптаўся народ і ждаў...

Цікавых карагод узглядаў ткаў цень на каберцы. Акорды змагаліся ўсё вышэй і вышэй. Здавалася, што вось-вось зачэпяць за аблокі і адчыніцца неба. Міртавай дарогай рука ў руку лунае моладасць... Цвет, толькі раз цвітучы...

Першае дыханне вясны без хмарак... Ідуць, загледжаны ў сябе, а праз іх вочы сцелецца зорная дарога гэт... гэт...

Надзея ў брыльянтавым вянку над бяздоннай глыбай...

Клалі пярсцёнкі на тацу. Слабы звон золата востра перакасіў сумны твар адзінокай. Заснавалі быстра хмары чорна чарней, чорна чарней. Ясныя праменьчыкі пужліва збягалі ўсярэдзіну. Уся яна лекацела, як расхадзіўшаяся

ў берагах мора. Узарваўся ўздох; нізка пахіліліся свечы сваім полымем у старану яго. Закалыхаліся мірты. Па зорнай дарозе прайшоў гром-пярун...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Увесь абрад прыспешна скончыўся. Няскладна станавіліся ў пары. Гаварылі прыцішаным голасам. Як бы нічога не сталася, а кожны баяўся па-за сябе аглянуцца. Маладыя першымі адыходзілі. Пры дзвярах з-за хвіляр пужліва высунулася жабрачка і падала лілію маладому. Яго твар, шчэ прад мінутай так шчаслівы,— асунуўся і згас. Дрыжачай рукой заціснуў кветку і шапнуў:

— Падзякуй ёй.

А з белай лілii глядзела раса нявіннымі чыстымі слязамі...

Разбіралі мірты. Тушылі свечкі. Пакрысе выступаў шкілет пышнага хараства. Байка таяла ў тумане...

Усе выйшлі, адзін закрыстыян варочаў ключом у заржаўленым замку. Як цень, апошняя пераступіла парог касцёла, хацела звярнуць направа, але цярністая дарога маніла туды, туды..., услед карэт..., туды, дзе чарадзейка-доля астаткі байкі рвала...

Ішла і хісталася, ставала, глядзела расшыранымі вачыма ў немату ночы і пытала: «А мне?.. а я?.. а маё... дзе месца ў жыцці?» Ламала рукі, а з памятых губ рвалася не то пытанне, не то пракляцце: «Ось і свет хвалёны, вялікі, прасторны, а мне некуды дзецца на ім... забыцца». Рэха рвала жальбу дзяўчыны і

быстра насіла па халодных каменнях вуліцы. А яна біла галавой аб мур: «Адна, адна, пуста!» Хапіла сябе за грудзі: «Тут пуста! Тут рана вялікая, жывая паліць! А-а-а-а!» — войкала з болю. «Во, глядзі, божа!» — голас ламаўся ў бяспамяцтве, а хрыплая скарга біла мацней і мацней у глухаце ночы. Блуд прыступаў быстра.

Літасцівы ха-ха-ха!

Міласэрны — гу-гу-гу-гу-гу!

Прыпаднялася на пальцы і плюнула...

. . . . . . . . . . . . . . .

А высь бязмерна спакойна глядзела мільёнамі зор. Ціха было і бясхмарна.

— Маўчыш,— зашаптала,— маўчыш, маўчыш!..

Адна з ясных зор замігацела, памуцілася; залатым клубком іскар паляцела на зямлю. Упалы свет магільным воклічам падхапіла бязладная мысль збунтаванай душы.

— Мая ўпала! — крыкнула.— Мая!— і пачала ўцякаць. —Не! не! маёй зары ўжо няма. Упала... упала... няма!

. . . . . . . . . . . . . . .

Горад радзеў; пацягнуліся загоны, кусты, рака тут засінела. Дабегшы, прыкуцнула ля берага і вачыма ўставілася на ваду: «Так... так! — цяжка дышучы, загаварыла да сябе ў паўголас, як бы што ўспамінаючы: — Ага... так... убачыць яго... сказаць усё... усё...»

Услужная памяць прыадчыніла дзверы прошламу, у якіх абразах уставала яно і прахадзі-

ла прад яе вачыма, як бы на адвітанне. Мілыя, бясконца багатыя мінуты смяяліся да яе, ласкаліся веснянымі ўздохамі, аплятаді чаромхі шэптам змучаны мозг. Перажыты рай ставаў цяперашнім. Засмяялася да ігрывых хімер і паверыла абману. Краса жыцця ва ўсё! А яна ідзе шчаслівa сваім хараством, горда буйнай моладасцяй, з надзеяй, што нешта вялікае, нясказанае жджэ яе ўперадзе... Чароўнаму туману забыцця паддалася ўся, спакойна ўжо спакоем бяссільнай. Скланіла галаву над вадой. Вочы, поўныя мяккіх тонаў, блудзілі ціха па сініх хвалях глыбі. Месяц іх сляды засыпаў расою. Шэптам, віхрамі павеяў страх з яе ўзгляду. У рацэ спаткала адбіццё сваёй постаці. Як мара загробна, глядзеў на яе балесны твар. Ігрывыя хімеры ста́ялі ўміг. У вачах зазвінела золата. Полымя свечак хібанула ў кроў. З аргана грозна пасыпаліся громы. Зноў праўдавужак з дзікім рогатам прыступіла да ахвяры. І рванулася з усёй сілы і кінулася ў ваду...

Назаўтра па сіняй рацэ плыў труп; у спакойных яго вачах іграла сонейка. Следам за ім быстра надбягала рэха тужлівай песні плытніка. Гнаў дубы, спяваў і думаў, што там, у хаце, мілай сумна...

А на дне русалкам-сёстрам нова госця бы́лі складала.

*1912*

## ЗЯЛЁНКА

Курсістка Зялёнка з кожным днём нікне. Пецярбургскі клімат, шчыры валакіта, дабівае слабагрудых. Зялёнка кашляе, гарыць уся, на твары выпечаны румянец. Часам гэтак мімаходам зазірне да люстэрка: «А мамачкі мае, да каго я падобна?» — задзівіцца, ды далей за работу. На свае лекцыі бегае, у школе з дзецьмі гадзіны з чатыры працуе, а вечарамі і сама яшчэ вучыцца, чытае...

Збоку гледзячы, жыццё ідзе, роўна вада плыве. Лішэнь перад доктарам мусіла прызнацца, што ўся радня вымерла ад сухоты. А на пытанне, ці сама хварэла ў малалетку на якія хваробы, адказала, што добра не ведае, бо гадавалася ў вёсцы, а прастацтва ў дзяцей прызнае толькі такія хваробы, як падвей, перапалох, урокі, і лечыць іх хатнімі толькі спосабамі: замовамі ды падкурваннямі. Праўда, солі, помніць, драбінкі давалі глытаць, нейкія вузялкі на нясуканай нітцы насіла гэтак гадоў пяцішасці. А пасле, як помніць, то ўжо была здарова, як рыба, і толькі апошнімі часамі нейка слабасць аблягла.— Гм!..— адбуркнуў, нічога не сказаўшы, доктар і крэпка задумаўся.

Аднак слухі хадзілі аж запрошлую зіму, што Зялёнка труцілася, што выбягала, спацеўшы, у адной сарочцы на мароз, усё каб набавіц-

ца якой ліхой хваробы. І што цяпер толькі супакоілася, калі мэта стала ясней...

Зялёнка — вельмі скрытная дзяўчына.

— Якая ты цяпер высокая стала за апошні год,— дзівуюцца таваркі.

— А бывае, што ў апошні год жыцця людзі падрастаюць, толькі мо не ў рост,— горка дакончыць таварышак гутаранне Зялёнка і чуць-чуць усміхнецца куткамі спаленых губ. Чорныя косы далікатна абвіваюць дробны тварычак... У пасінеўшых кругах вочы блішчаць двума распаленымі вуглямі.

— Наша Зялёнка быццам не з гэтага ўжо свету,— перапалохаўся Мацюк — медык, спаткаўшы Зялёнку ў сталовай.

— Зялёначка мілая, я прыйду, цябе паслухаю.

— Прыйсці — прыйдзі, калега, але я не спявачка, каб вы мяне слухалі.

— Ну-ну, Зялёначка, перцу сёння зашмат з'елі.— І дактарчук адышоў, як змыты.

Зялёнка блізка што заўсёды задуманая, часта не адразу адкажа, калі яе спытаеш.

— Зялёнка, дзе ты? — часам смутна зажартуюць курсісткі.

— Тут, пры вас,— ціханька адкажа, прачнуўшыся ад задумкі.

— Ой, Зялёначка, Зялёначка! ты зусім выйшла з каляіны нашага будняга жыцця. Усё недзе блукаеш за светамі.

— Ды што з вамі? працую, як усе вы, ем і шчэ больш ад вас, сплю, смяюся... А што цяпер задумалася, так аж сорамна прызнацца да такой глуздзячыны: глянула праз акно на

асенні дзень ды гадаю, ці ўжо ў нашай старонцы лісце з дрэваў асыпалася, ці яшчэ не, бо ў нас восень пазнейшая.

— Вось табе на, куды Зялёначка паехала! Грачыха цвіце, што аж у лабараторыі пахне, а яна: ці лісце ўжо апала. Яшчэ прыйдзе пара на холад... Рыхтуй толькі футра.

Нібы смяюцца курсісткі з Зялёнчыных думак, але добра разумеюць, што гэта значыць: «ці лісце апала», бо, як пыталі доктара, то сказаў дабітне, што, пэўне, восені не перагрывае.

Паўтары нядзелі Зялёнка не паказвалася на лекцыях. Закраталася маладзёж, што станцыя ў Зялёнкі сырая і цёмная, што не кожны дзень Зялёнка абедае.

У суботу ў Зялёнкі біткам набіта. Зялёнка спярша ляжала, а пасля не вытрымала і ўстала. Усе такія ласкавыя, вясёлыя, блізкія, што аж міла глядзець — радня радней. Зялёнка крыху сланяецца, але ходзіць, загаварвае з кожным... П'юць гарбату, смяюцца. Але смех нейкі недасмеяны; гоман недагамонены. Цень скрытага смутку то тут, то там мільгне праз вочы гасцям. Усе могуцца на вясёласць. Гутарка чапляецца сяго-таго.

Украінец Хведарчук нат бандуру прывалок. Рыжаватая чупрына аж па струнах вехаціць, ён выкідвае рамёнам, запяваючы: «Ах, мамка, мамка, нашчо мене народыла?» Так галосе шчыра, што быццам сапраўдны сірата ўбіваецца на памінках роднай мацеры.

— І я шкадую, калега, што цябе мамка нарадзіла,— пагладзіў па чупрыне Вішняк-Мін-

чук: — Але маеш, пі гарачую гарбату і цешся з жыцця, покі час.

— Ха-ха-ха! верна сказана,— паддакнула Зялёнка: — Покі час... ха-ха... каху-каху! — і зайшлася сухім кашлем.

Вясёлая кампанія прыблекла, сціхла.

— Піце, налівайце,— паспяшае вінаватым голасам загаварыць Зялёнка,— шчэ неўміраю.

— Не пляціце небыліцу! — нехта буркнуў.

— А ведаеце, Сабаноўскага з хіміі асеклі,— прыдумвае Вішняк на скорую руку, каб пачаць гутарку.

— О-о-о! на апошнім экзаманце?

— Чаго-о ж? У-а! вялікая штука, байкі.

— А ля байкі сядзі зноў дні і ночы. Е-е! у кудлатага галава ўёміста: за тыдзень, другі ўсю хімію перагрызе на рэпу...

— Ага, багабоце, чуць не забыла,— перапыніла Берабейка.

— Го-го! чуць «багабоце» не забыла, а калі тое было святое ніколі, калі Берабейка помніла? Вам па галаве толькі снуюцца ноты і ноты ды біры-бам-бам-бом партэпіяна.

— Я-я, багабоце, механік такую дзіч пляце, аж вушы, багабоце, пухнуць,— Берабейка падстаўляе далонь к роту тэхнолага.— Ледач механіка — ні-ні... тс! А то за «багабоце» вочы выдзеру.

— Дык не кажыце сваёй пагаворкі, бо гэтага мала. Але калісь выйду на Неўскі і ва ўвесь голас закрычу: «багабоце! багабоце!» — і не проста закрычу, а ў кулак затрублю, аж покі вас не адвучу.

Берабейка чырванее па вушы ад праклятай

прывычкі, бо што слова, то яна ўплятае «бога бойцеся», і так скора, так гладка рве, што, з боку слухаючы, адно і разбярэш з яе гутаркі «багабоце», «багабоце»... Затое механіка сёння лішэнь азлавала Берабейка, зараз пачаў дапякаць.

— Даруй на гэты раз, пракляты чалавеча,— просіць Берабейка,— больш не буду, бо справа важная. Пасуляніс піша, багабоцеся (гы-гы), з Якуцка, што нашы, багабоцеся, галадуюць, зіма ідзе, багабоце, а іх адзенне хоць па ветры пускай.

— Ну што ж, трэба падаткам сябе абламыць і зараз выслаць хаця крыху,— параіў Мінчук.

Хто пры сабе меў грошы, зараз палез да кішэні. Зялёнка тож рубля выбрала з століка.

— А скажыце, ці хто кніжкі ў перасыльную занёс? Бо я ўзялася гэта сама зрабіць, але захварэла...

— Любви все возрасты покорны! — загрымеў густы бас за дзвярыма.

— У-у! Кульгач-сірата, паспяшай, а то Нойка самавар, як бач, у канцах забярэ!

Студэнт, грубы, у выпаланеўшай куртцы, светла-русы, як канапляны куль, уваліўся ў цесную станцыйку.

— Зялёначка, Шаляпін прыязджае! — крыкнуў адным духам.

— Цыт, басіста! заўтра іду дзяжурыць на «Дэмана».

— Любви все возрасты покорны,— спяваючы, акруціўся на пяце і кінуў шапку ў кут, аж са два разы перакулілася.

— Ты што стральбу адкрываеш?

Кульгач, ні на што не зважаючы, рукі паціраe не то з холаду, не то з радасці. Здароўем і маладасцю ад яго б'е.

— І так за тыдзень буду сядзець, як верабейка, высока, высока і дэману (Шаляпіну) біць брава-брава-ва-ва!

— Кульгачыку, калега, і я заўтра з вамі пайду дзяжурыць, зайдзіце толькі па мяне,— умаўляецца Зялёнка.

— Згода! Рэхт! толькі а пятай будзьце гатовы, трэба додніка прыйсці, а то тысяч пяць заўтра будзе дзяжурыць.

— Публіка! — бразнуў бандурай Хведарчук.— Хто пасміе таварышку Зэленку вывесты заўтра ў горыд, тай того оштрафуем!

— Аш-тра-фуем! — засвістала тоненькім галаском маладзенька бястужаўка Маня.

— Тай бога бойся, не пышчы, дытыно!

— Публіка, слухайце! — Маня стала на крэсла.— Пры мне доктар прыказаў Зялёнцы хоць паўтара тыдня не выходзіць з хаты.

— А калі так, то аштрафуем,— годзяцца ўсе з тонкагалосай Маняй.

— Аштрафуем,— рыкнуў спознена Уладзімір з прозвішчам Сібіра.

— Гэй, Сібіра, ты што спіш?

— Хра-хра,— прыкідваецца Сібіра спячым, доўгія ногі выцягнуў упоперак усёй станцыйкі.

Адзін са студэнтаў, убачыўшы, што Сібіра прымкнуў вочы, схапіў за ножкі крэсла. Сібіра паляцеў бы, каб у пару не заступілася Зялёнка.

— Сібіру дайце спакой, Сібіра часу не мар-

нуе, глядзіце, як печ нагрэў! (Хухнула ў паветра — пары ані знаку, а толькі ногі, ногі выцягнуў ад сцяны да сцяны.) Сібіра, мы скакаць будзем — месца! — засмяялася.

Шусь! — і скурчыў доўгія цыбы Сібіра. Брр-брр! — пасыпаліся яблыкі з кішэні.

— Гэта для вас, я і забыў,— засаромеўся, як дзіця, Сібіра і пачаў падбіраць.

— Мне до! во, два ўжо трымаю. Бярыце, Берабейка, Маня, Хведар.

Сібіра, здараваны, выпрастаўся, згарнуўшы густыя валасы з чала, паходзіў на зубра, замашысты мужчына, з дзіцячым немаль шчэ ліцом, дабрадушны, запусціў зубы ў яблык і пачаў кратацца каля самавара.

Сібіра з Зялёнкай жывуць у вялікай зажыласці. Усе смуткі і радасці Сібіра павярае Зялёнцы. Зялёнка нат часта дапісваецца на пісульках да Олі, дзеўчука Сібіры: «Сястра і друг вашага Уладзіміра цалуе вас крэпка, крэпка». Нейкі нястрыманы язык пусціў пагалоску, быццам сакрэтна чытаў драму, супольна напісаную Зялёнкай і Уладзімірам, што галаўная асоба ў той драме — гэта Сібіры дзед, калісь у Акатуй высланы з таго сяла, адкуль Зялёнка, недзе з-пад Нарава ці якога іншага месца; адным словам, каля Белавежскай пушчы развіваецца дзея.

Ці праўда гэта, ці няпраўда — трудна верыць на слова. Але Зялёнка і Уладзімір любяць тэатр абое, у Марыінку чорнымі-светлымі ходамі прабіраюцца.

Найпазней прыйшоў Шмулька.

— Як маецеся?

Шмулькі струкавата галава, як лахмата вольха, матляхаецца ў паклонах ва ўсе староны.

— Ці жывы, ці здаровы?

— Што ж так позна? — азываецца прыязліва рознагалосае пытанне.

— Не меў часу!

— Шмулечка, я хвора, я ўміраю, а ты вачэй не пакажаш,— прымільваецца Зялёнка да Шмулькі.

— Выбіраўся, ды ўсё работа стрымлівае, і сёння пільную кінуў, каб білет прынесці. У панядзелак пойдзем у дваранскую.

— Шмулька, на гэты канцэрт? Маніш, грэшніку... Я ўжо два тыдні таму назад была ў касе; пайшла толькі так, для пацехі, што нібы на такі важны канцэрт магу пайсці я — Зялёнка-курсістка. Ведама, аказалася такая цана білетам, што нам, вучашчымся, нат грэшна туды свой нос ткнуць.

— Во-во! гэта вам, але не мне.— Шмулька важна ўлажыў рукі ў кішэні і прайшоўся па станцыі, надуты, як індык.— Што вы, то не я! Я Шмулька, толькі за пачотным білетам згадзіўся пайсці паслухаць.

— Тгы,— рагатнулі.

А Шмулька нянздатна далей круціць, махлюе, каб Зялёнка не дагадалася, што для пацяшэння яе, хворай, Шмулька эканоміў доўга, покі сабраў, каб купіць білеты на гэты канцэрт!

— Не пытайце! не дурыце галавы!

— За што вам пачотны? — прыстае Зялёнка.

— А хоць бы за тое, што я — Шмулька,

што мой бацька — Меер, а бацькі бацька — Ёсель...

Трэба ведаць, што Шмулькі манія — гэта прапаганда музыкай, літаратурай, тэатрам народным паміж яўрэяў. Шмулька свята верыць, што яўрэі хутка зразумеюць сваю ганьбу, каторая няволіць іх запірацца ўсяго свайго роднага і падшывацца пад апраткі чужых, сільнейшых культур... Прыйдзе час,— Шмулька немаль прысягае сваім натхнёным голасам,— што яўрэі звернуць з дарогі асіміляцыі! Сам Шмулька, так сказаць, стаіць яшчэ толькі-толькі ў дзвярах храміны кампазіцыі, а ўжо задзівіў прафесароў арыгінальным узяццем біблейнага тла для сваіх твораў...

...Нездаровіцца Зялёнцы. Так баліць у правым баку, што не падняць рукі, каб закруціць валасы. Запляла і пусціла двума пляцёнкамі па плячах. Ідзе праз залу, у вачах ад слабасці ўсё круціцца.

— Косы, косы,— дзівуюцца мужчыны.

Публіка мітусіцца; скрыпяць крэслы.

— Малады ці стары? — пытае нехта з публікі.

Шмулька прысланіўся да сцяны, рукі заложыў і глядзіць некудысь у сваю думку. «Сібілія Шмульку сніцца»,— падумала Зялёнка і села на сваё месца. Задрымдзеў званок...

Выйшаў артыст, не пакланіўся, ані глянуў, каму будзе іграць. Стаіць шчэ дзіця-хлопчык, ліцо натхнёна. Паволі скрыпку падносіць на рамяно. Смычок чуць-чуць даткнуўся, азваліся струны... Ціхая мелодыя, як першы ўздых дзіцяці, палілася; ідзе, вядзе некуды ў засветныя

разлогі чыстага лірызму. Маладая душа верыць у шчаслівыя далі, узнімаецца, рвецца да іх смелым лётам. Мерапь у яе адзін за другім громы абману, зла... Змагаецца з цёмнымі сіламі прозы, б'е скрыдламі ў нябесныя скляпенні паэзіі. Бой даходзіць фазы смерці і жыцця. Белая шата паволі пакрываецца крывавай расою. Скрыдлы апускаюцца. І ўжо смяртэльна раненая моладасць плача, стуліўшыся ля варот шчыльна зачыненага раю шчасця...

— Вялікая трагедыя схоплена тонамі,— шэпча Зялёнка, тулячыся губамі да поруча крэсла.

— Пля-пля-пля! — латашыць далонямі публіка.

— Шалёная тэхніка, тэмперамент,— галдзяць.

Артыст стаіць з апушчаным смычком, прыціскаючы да грудзей скрыпку, бо яшчэ апошнія тоны толькі адыходзяць ад струн.— Пля-пля-пля! — па-хамску дабівае рэха тхнення слова божага.

Зялёнка закрывае вочы, каб дагнаць скрываўленага лебедзя-песню... Плачуць у вачах Зялёнкі свежыя росы на пракосах, папараць-кветка расцвітае... Зялёнка бяжыць успамінам да сваіх дзіцячых днёў, як кароўкі пасвіла на пожні, а маці-сухотніца калыхала малога брата-сухотніка пад снапамі зжатага жыта.

— З-з-з-з! — ізноў пачаў.— З-з-з-з! — ляцяць з-пад смычка галоўкі чырвоных сцятых руж, а артыст успінаецца ўсё вышай, вышай: па скалах, каменнях уводзіць у пустыню, спаленую сонцам, засыпаную пяском. Пустоша

дзікай гразой дыша. Зверы мруць. Птушкі нежывыя падаюць. Толькі артыст сам-самютанькі адзін упаў каленамі на распаленыя каменні, заве нахіліцца за сваім натхненнем. Жджэ аб'яўлення і дрыжыць ад страху, ці хваце яму сілы, каб увекавечыць выснены ідэал красы ў скончанай форме. Во, во, здаецца, дасца, прымкнуў векі, стрымаў дыханне. Шугнула хімерна мана скрыдламі і знікла... — І-і-ій ой-й-й! — уздыхнуў страшлівым болем.— А-а-а-а! — спачуваючы, адказвае і змаўкае скрыпка.

«Божа, якая ты страшная, творчасць! Роўна вогненна мора падыходзіць з усіх старон да апутанага табою чалавека. Бяссмертная слава такому плачу, што не згіне ў тваіх тонах!» Усё гэта думае Зялёнка і сіліцца ўстаць з крэсла. Пля-пля-пля!.. Падносяць букеты, вянок срэбны з надпісам. Шмулька стаіць, як крэйда, збялелы, упіўшыся вачыма ў артыста.

Зялёнка хустачкай абцірае губы, у вачах ёй муціца: здаецца Зялёнцы, што адплывае з залай кудысь углыб, а чырвоныя кветкі сыплюцца ёй пад ногі (кроў з рота бухае). Зялёнка нагінаецца адну з іх падняць.

— Кроў, кроў, паддзяржыце, упадзе! — крычыць нейкая пані, бегучы да Зялёнкі.

Публіка цісне цца:

— Доктара!.. вады!..

Зялёнка ўзмахвае рукамі і падае.

— Душна, душна! — азіраецца шырока блуднымі вачыма і заціхае.

— Разбілася жывая ліра,— шэпчуцца нейкія тайныя цені, збегшыяся на залу.

*1910—1912*

# МІХАСЬКА

Міхась вельмі неахвотна на гэты свет прыходзіў. Тры дні радзіўся. Людзі рукамі махнулі:

— Нічога не будзе ні з мацеры, ні з дзіцяці,— казалі.

Толькі на чацвёрты дзень:

— Угай, угай! — загаласіў на ўсю хату народжаны хлопчык.

Матка глянула:

— Божа, які ж брыдкі! Хаця б шчаслівы быў,— зашаптала бедная кабета, хацела пацалаваць дзіця, адкрыла вусны, але не стала сілы... заціхла... Заціхла так, як песня часам ціхне на найжаласнейшым сваім слове...

У хлопчыка насок з добрую бульбачку; барада — брылем закручана, праз усенек левы тварычак чырвоная пляма радзімая. Адно вочка глядзіць у правы бок, другое — у левы.

— У імя айца і сына! Ось дзе божая кара! — ледзь здолела прабалбатаць бабуля, купаючы першы раз дзіця.

Міхася-сірату запхнулі ў запечак; так ён там і рос, не мяркуючы, як тое дзікае зеллечка пад абваліўшымся тынкам.

Адзін раз зімой парасяты, гуляючы, адкінулі качаргу, памяло і розны іншы гаспадынін рыштунак. Запечатак разявіў чорны рот, а ў ім,

як белы зуб, паказался светла-русая галоўка Міхася. Сонейка на тую пару, праз акно ўлезшы, блудзіла па хаце і, убачыўшы Міхася, падумала: «Бедны хлопчык!» Улезла на прыпечак ды давай забаўляцца з Міхасём: лып, лып па галоўцы дзіцяці колькімі праменнямі. Хлопчык у кудлачках аж паскрабецца з дзіва. А сонейка лып, лып, дрэчыцца далей. Міхась пачаў лавіць сонейка за косы, а тое з прыпечка — гоц, ды за дзверы. Міхалюк у адной сарочцы ўдагонку на падворак: пазаплоткамі ляціць, цешыцца, смяецца. Ажно скуль ні вырвецца воспа; ідзе, брыдзе, пад нос бармоча; спаткаўшы Міхася, аж заіржала з радасці паганка.

— А мой ты сякі, а мой ты такі,— кінулася да Міхася цалаваць, абымаць...

— Адхініся, лупатая! — чуць не ўдарыў яе Міхась, ды лататы ў хату.

Калі распаліць пасля хлопца, мурашкі па скуры гіжаць і ў падошвы смаляць.

— Гвалт! — крычыць мачыха,— гэта ж у Міхася воспа, ён і мае дзеткі заразіць.

Што тут рабіць? Параілася, ды яшчэ глыбей Міхася ў запечак засунула.

Сколькі хварэў Міхась, хіба сам час знае ды тыя прусакі, што з хлопчыкам разам грэліся ў запечку. Толькі пасля воспы, як паказаўся Міхась на хаце, дык ажно куры закудахталі з перапуду. Певень хоць куды смялейшы, аднак стуліў і ён у трубку хвост. «Р-а-б-ы, р-а-б-ю-ю-т-а-н-ь-к-і!» — закукарэкаў і схаваўся ў падпечак, хітры. Выдзерыкуст адразу як мае быць пазнаўся на пекнасці хлапца, бо аб Міхася твар

хоць хрэн дзяры. Столькі вываратняў на ім воспа накачала.

Пачаў Міхась у поле скаціну ганяць. Чураўся ўсіх, хадзіў насупіўшыся, не верыў нікому. Як хто на яго глянуў, зараз Міхасю здавалася, што той аб ім думае: «У-у, які рабы, страшны хлопец». На тую пару якраз пасыпаліся прозвішчы ад пастухоў: «Рабы, Галдабыр, Касня...» Куды — на валовай скуры тых прозвішчаў усіх не спішаш. Міхась маўчаў, зубы сцяўшы, а ўпатайне ўсіх ненавідзеў. Кожнаму мсціў колькі мог: дзе каторага пастуха птушку асочаную з гнязда выпара, то торбачку з хлебам у балота закіне і чужую скаціну ў шкоду нажане. Жывіна таксама не зазнала ад Міхася ласкі: бізуном рэзаў кожную скуру; Мацеевamу бычку рог скруціў; падцёлцы Канцавога Лукаша збіў клуб. Нат сорамна расказваць,— такія ліхаты выкідваў.

— Пашто ты майму Рабчыку хвост адарваў, касавокі ты асмолак, гад! — сварыцца, на чым свет стаіць, старая Алена. А Міхась не-не ды новую закавыку прыдумае. А як ужо няма да чаго прычапіцца, то хоць мухі ловіць і скрыдлы абрывае.

«Вірутны чорт»,— думалі аб Міхасю людзі. Пастухі збрыдзілі, не падпускалі хлопца да сябе, як вужаку, і Міхась асобна пасвіў сваю скаціну. Праўду сказаць, і сыпалі хлопцу не раз да жывога, але Міхась неяксьці заціснуўся ў сабе, што ні піскне, што ні войкне, хоць ты яго засячы да смерці.

— Божухна, што гэта за дзіця! Проста апускаюцца рукі, ахвота прападае біць,—

скардзяца тыя людзі, каму Міхась шкоду зробіць.

Ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць, такая, пэўна, вырасла б з Міхася цацка, каб не адно здарэнне.

Была ўжо позняя восень; халодна, туманна, і дробны дожджык сыпаў імглой, і пачарнелыя поле і луг ляжалі ў нейкім моташнамёртвым сне...

Пастухі разлажылі агонь. Вялікае вогнішча рагатала, і пяклася бульба. Яська, па прозвішчу Даўгавязы, дуў з усёй сілы ў трубу: тру-тру-у-у-у... ішло рэхам па апусцелым полі, ды шчэ сумнейшай ставала восень. Міхась сядзеў адзінока пры мокрай дарозе, воддаль ад пастухоў. Галоўка яму нешта балела, палалі шчокі. Стуліўся ў клубок, быццам тая шэрая купінка, наточаная кротам. Думкі яго былі невясёлыя, поўныя слёз, бы тыя асеннія хмаркі, нявыплаканыя дажджом. Часам нават скардзіўся:

— Праўда,— казаў,— нягодны я хлопец, усім прыдумваю ліха, але хто для мяне добры? Усе як на ліхога сабаку: «А-ту... а-та-та!»

Горкія словы каціліся з дзіцячых губак, як цяжкія каменні на мужыцкую ніву. Бычок чорны недалёка хадзіў. Міхась, натрапіўшы касымі вочкамі на бычка, яшчэ горай даўся ў жаль:

— Такі чорны гад, як гэты бычок, і той мяне не слухае! Нябось іншых пастухоў баіцца: толькі крыкнуць — зараз адверне рыла ад шко-

ды, а мяне... каб з цябе скура! — Не вытрываў хлопец, схапіўся і з усяго маху сцебануў па хрыбляціне чорнага бычка. Бычок падскочыў, адбег, аглянуўся. «Павесся!» — здавалася, закляў ён сваім бычачым розумам і пайшоў да стада.

— А-а-а! паскардзіся,— крыкнуў удагонку бычку Міхась і раптам заплакаў: — Агэ-гэ-гэ!..

Не вытрывала дзіцячае сэрца ў маркотны асенні дзень, каб не пажаліцца над сваёй сірочай доляй. Міхасю стала завідна, што нават бычок і той мае да сябе прыхільнае стада...

— Дзяржы! бяры!.. Янук! Ігнат!.. лаві, а-та-та! — загрукацелі цэлай грамадой хлопцы. Беглі, гналіся ўпапярок загонаў за падстрэленым жоравам. Птушка ляцела, падала, уздымалася, бегла, з левага скрылля капала кроў. Нага была перабіта. Хлопцы нямала што ўжо хваталі за пер'е акалечану птушку, але яна не давалася, уцякала, выбіваючыся з апошніх сіл. Угледзеўшы Міхася, мо падумала, што куст або што іншае... згадаеш птушку?! Але, толькі даляцеўшы да хлапца, ударылася ўсім целам у яго грудзі.

— Кр-р, кр-р! — жаласна запішчала.

Міхасю здалося, быццам птушка просіць:

— Ратуй!.. ратуй!..

Шасць — Міхась абхінуў жорава поламі рванай світкі і растапырыў рукі.

— Аддавай, рабы! — закрычалі хлопцы.

— Не дам!

— Аддавай!

— Не дам!

— Аддавай! — крычалі пастухі, абступіў-

шы цесным кругам, турзалі Міхасём, як высахшай галінай.

— Адыдзіце... ей... не турзайце...— застагнаў Міхась,— пад сэрцам цісне... Пусціце! — Хлопец хапіўся за грудзі.— Ей... ей... што ж гэта...— не паспеў дагаварыць, збялеў, як палатно, і асунуўся ў разору.

Пастухі перапалохаліся.

— Вады! — скамандаваў найстаршы.

— Міхась, Міхаська, братка, мы табе жорава аддамо,— пачалі ўгаварваць, падымаць, калачаць.

Хлопец ляжаў, бы надломаная саломінка. Задыханы, прыляцеў Янук з поўнай шапкай вады. Адчынілі козікам зубы, улілі колькі капляў вады.

— Міхась, братка, ці чуеш?

Цераз паўмінуты Міхась уздыхнуў, губы пачалі чырванець.

— Перанясём,— азваўся каторы з хлопцаў. Асцярожна ўзялі пастухі Міхася на рукі і перанеслі да вогнішча. Міхась, як адкрыў вочы, бачыць — вогнішча палае, пастухі каля яго кратаюцца, кажушок пад галаву падлажылі, галля ў агонь падкідаюць, каб цяплей было; жораву скрыдлы падвязваюць, хлеб крышаць.

— На,— кажуць птушцы,— еш, пасля Міхась цябе накорміць ячменем.

Міхася сірочае сэрца ўлёт дабрату хлопцаў зразумела. Хоча да іх загаварыць, падзякаваць, але галоўка цяжкая, векі ліпнуць, а нешта ўнутры шэпча: после, после.

Ледзь пастухі адвялі Міхася дахаты. Жорава забраў з сабой.

— А гэта што? — накінулася мачыха і хапіла жорава за скрыллі і выкінула ў сенцы.— Ты зноў хворы? Думаеш, буду з табой цацкацца, дармаедзе?!

Міхась прысланіўся ў качарэжніку, стаіць, бы асінавы пеньчык. «Спаць, спаць!» —ласяцца думкі.

— А гыля... а гыля! — вылецела мачыха гусей адагнаць ад карыта.

Міхась азірнуўся сонна, зачэрпнуў жменю гароху з апалушак, падняў жорава і палез у запечак.

Цёмная чэлюсць скрыла дзве бяссільныя крыўды...

Пастухі ўраіліся Міхасёву скаціну пасвіць. Часам каторы з хлопцаў забягаў на птушку падзівіцца.

Птушка хутчэй папраўлялася ад Міхася; але сядзелі разам у запечку, не раз страшэнна галодныя, бо мачыха абодвух ненавідзела. Як выходзіў жораў, то зараз гналася з пожахам за ім.

— Бедны клыбачка, галодны! — літуецца Міхась над жоравам.

— Кр-р! — як бы адказвае птушка.

— Нудна табе, сірата ты мой: радня вылецела далёка, пакінула цябе аднаго. Не плач! бо і я таксама адзін, як той калочак у плоце; матулька ў пясочку ляжыць, не прыйдзе сынка хвoранькага адведаць... Як выздаравееш,— узнімемся на скрыллі і паляцім далёка, далёка... аж пад сонейка яснае... Праўда, клыбачка?

— Кр-р!

— Эх ты, жораўка, братка ты мой роднень-кі! — цалуе па пер'і хворы Міхась птушку.

Жораў Міхася слухае, аднак свой розум мае. Хутка прыгледзеўся і зжыўся з хатнім парадкам. Гаспадыні пад ногі не лезе. Парасяты, як лішне прыстаюць да малога дзіцяці, так іх зараз дзюбай карае. Над курамі стаў праўдзівым ваяводам: да парадку прыводзіць, і ні адна не адважыцца ўзляцець на лаву.

— Каб ты здохла, якая ты разумная птушка! — падчас удабрухаецца мачыха і падсуча жораву свінога цеста.

Ужо былі добрыя прымаразкі, як Міхась пачаў выходзіць на хату. Белы, як сняжыначка, нічога не баліць, толькі часам закашляе. Зрабіўся паслухмяны, спакойны, задуманы. Бульбу мачысе скрабе і дзіця гадуе, хату падмятае. А жораў — быццам хвост хлопцаў: ззаду ходзіць — не адстае.

Адной лыжкай ядуць, разам спяць. Міхась, здаецца, сваю сарочку ўзлажыў бы на жорава, каб гэта выпадала.

— Жораўка, пацалуй! — Міхась падстаўляе шчокі. Птушка грымзае дзюбай па твару, а сірацe здаецца, што яго і сапраўды цалуе. Цешыцца — не нацешыцца хлопец.— Пачакай, клыбачка, прыйдзе вясна, пажанём кароўку ў поле і скруцім дудку, будзем іграць!— жупяць — не нажупяцца сабе два хваравекі.

Час ім хутка ідзе, быццам вада плыве. Вечарам бывае, што прыйдуць вясковыя хлопцы паглядзець на жорава, казкі часам расказваюць...

Міхась пад вясну неякасць стае лянівейшым: усё яму хочацца больш паляжаць; з хлопцамі адпала ахвота кумпанства вадзіць. Работа, прызначаная мачыхай, часта ляжыць непачынанай, а за гэта мачыха часцей куксае хлопца. Міхась з жоравам вытварылі сабе нейкае асобнае жыццё, без слоў разумеюць адзін другога; з сабой не расстаюцца.

Хутка праляцела зіма; павеяў цяплейшы вецер; пачаў снег сходзіць, і мухі забарабанілі на вокнах. Але Міхась ужо не прывітаў вясны, не выбег на вуліцу. Ляжаў, як аплатачак сухенькі, таяў, як васковая свечачка. Усе ведалі, што Міхасёвы дні палічаны ўжо.

Мачысе сэрца падказвала:

— Хутчэй бы дайшоў...

Жораў не хадзіў, як калісь, па хаце, але стаяў у кутку, крыллі апусціўшы, і думаў нейкую, людзям незгаданую, птушыную думу. Не было каму птушку накарміць, не было каму з птушкай пажупіць.

У чацвер раніцай сонейка цэлай галавой укацілася да хаты.

Куры закудахталі з вялікай курынай радасці. Кот Мацей, скочыўшы з печы, пачаў мыцца. Гудзелі на шыбах мухі.

Парсючок рабенькі, разваліўшыся ля парога: рох-рох-рох,— славіў свінскім абычаем прыйшоўшую вясну.

Мачыха набільніцамі — та-та-та-та — стукала, ажно рэха па вуліцы ёй адгуквала,— ткала шарак.

— Мама! — азваўся змененым голасам Міхась.

У мачыхі сціснулася горла ад страху. «Смерць!» — віхрам праляцела ў галаве кабеты, бо Міхась ніколі яе не зваў мамай: неяк без гэтага абыходзіўся ў гутарцы.

— Мама... мамачка! — клікаў прыспешным голасам.

— Зараз бягу, Міхаська, чаго хочаш?

— Дай мне жорава.

— Міхаська, а мо хочаш малачка?

— Не, нічога не хачу, дай мне толькі жорава.

Мачыха паднесла жорава, паставіла на пасцелі, а сама бягом на вёску склікаць баб.

Пакуль сышліся кабеты, Міхась ужо ляжаў мёртвы. Жораў лапатаў крыламі, тоўкся з кута ў кут...

— Кр-р, кр-р! — жаласна пішчаў.

Куры кудахталі:

— Куд-куда! куд-куда!

— А-у-у-у!..— не вытрымаў пад сталом Лыска і жаласна завыў, і толькі падсвінак рабенькі ляжаў ля парога і радасна: рох-рох!..— хваліў свінскім абычаем вясну.

На хаўтуры сабраўся народ. Нават старая Алена, у каторай калісь Міхась Рабчыку хвост адкруціў, стаяла пры мачысе ды адчытвала аванэлю па нябожчыку Міхасю.

— Бедная ты, суседачка, ато ж табе смутак, гэтакі хлапец удалы быў. Гэта ж жарты? каб ён каму грушачку зглуміў або агурочак вырваў...

Жораў, забіўшыся ў качарэжнік, прымкнуў вочы. Хто яго знае, ці ён спаў, ці яму было брыдка слухаць Аленіных слоў... а мо хацеў сабе запамятаць ноту хаўтурнай песні.

— Вечны пакой яго душачцы! — загула ўся хата.

Прыкрылі станом дамавіну і пачалі выносіць на могілкі. Жораў зварухнуўся, азірнуўся па ўсіх кутах і выйшаў за дамавінай. Людзі дзівам задзівіліся і далі дарогу птушцы. Сумна, важна, як сплаканая маці, жораў першы пайшоў за Міхасём.

— А-у-у-у!..— завылі бабы ад птушынай мудрасці. Пастухі цеснай грамадкай дзяржаліся ўсю дарогу паблізкасці жорава.

Прыйшлі на могілкі і апусцілі дамавіну з Міхасём у выкапаны дол. Пачалі засыпаць.

— В-е-е-чны па-а-кой...— застагнала песня над свежай магілай; жораў задрыжэў, колькі разоў пахіснуўся на нагах і лоп-лоп... узмахнуў шэрымі крылямі і ўзняўся да палёту.

Паволі, цяжка птушка падымалася ў воблакі, бо несла з сабою вялікі жаль зоркам ясным, хмаркам белым...— Кр-р, кр-р!..— скардзілася гарачаму сонейку,— кр-р, кр-р!..— расказвала напатканым брацейкам-жоравам...

Цяпер могілкі параслі ўжо дзёрнам, і там зялёна кругом. Як вокам сцяць — густы лес шуміць. На магілцы Міхася крынічка стаіць, і завецца яна «Жураўліныя слёзы».

Асенні вецер гудзе, казку сумна нясе.

Жоўты ліст сцелецца зямлёю і ціха, ціха на задушкі ў цёмную ночку шэпчацца з крынічкі вадою. Я падслухала гоман той пажоўклага лісця з крынічкі з чыстай вадой і цяпер вяду сказ, як калісьці жыў Міхась у запечку нашых хат — беларус малы, брат.

*1914*

# ЗВАРОТЛІВЫ

Хто я — даліпан не прызнаюся, людцы хрышчоныя! Быў на возе, пад возам, упапярок, уздоўж; насіў лапці, боты, гамашы, апоркі, а цяпер — дык у шнураваных, на фасон бабскіх, чаравіках скрыпаю. Нічога не парадзіш, людцы добрыя,— такая мода выйшла.

Калісь-то круціўся фельчарам — нікога не вылечыў, наняўся вучыцелем — нікога не навучыў, папаў у стражнікі — нікога не арыштаваў; начальства знецярплівілася, дало воўчы білет і адправіла.

— Ад гэтай пары, кажа, працуй рукамі сваімі ў поце чала твайго, Грышка; мазгаўніцай тваёй годзе ўжо «причинять вред государству».

Даліпан, не з паўрэчы сказала. Ось ужо каторы год наняўся ў вінны склад бутэлькі паласкаць. Работа, як мокры каўбак на агні, гарыць, кіпіць.

Слухаючы мяне, пэўна, падумаеце, людцы: ну і кручоная штучка з цябе, Грышка! Барані, бо! Ані то, ані гэта: ціхі сабе, спакойны, рахманы і... як гэта сказаць?.. каб ты згарэла! круціцца на языцэ... ага: пяцідзесяцілетні дзяцюк. Бачыце, як не ажаніўся, та і не ў пару чалавекам звацца.

Горка, ой як горка, дзяўчаткі, саколкі ясныя, на старасць дзецюком славіцца. І імя маё — не Грышка, а куды пякнейшае, далікатнае, пястотнае. Адгадайце, дзяўчаткі! Пранук, кажаце? не; Якуб — не; Антон — то, ды не то, але зусім блізка: Хвядос! Іш, аж падскочылі. Спадабалася?! Толькі з прозвішчам, сястронкі, дык зусім не па божаму закону выйшла. Цяжка прызнацца. Пачакайце, крыху пераваду дух. Настаўце вушка, хіба шапяну: Курта. Ага, аж збялелі, не бойцеся — не ўкушу; Куртай толькі клічуць; Куртай клікалі дзеда, Куртай — прадзеда, Куртай — бацьку. Да канца свету будзе наш род гібець Куртамі. Дзеля гэтага мой прадзед нічога не дабіўся; дзед змарнеў; татка родны — з радасцю памёр, а я сам ад гэтага самага паганага прозвішча з воўчым білецікам цягаюся.

Бывала, выпрастаюся — дзяцюк, як жэрдка; тонкі, высокі; твар — кроў з малаком; вусы, моў, жаўток, затоплены ў смятане, прыперажу шаблю — жлін, жлін па каменнях, здаецца, увесь свет я зваюю, а тут ні скуль, ні зсюль, з-за якога вугла — як не звягне якая лядачына: «Курта! на-на-на!» Лёдам усё нутро скалыхнецца! Прападай, думаеш, ты ўсё.

Дзяўчаты праманулі круціць сабачыя міны, спаткаўшыся са мной, быццам гэта я Курта,— цюцька значыцца. Проста адпадае ахвота; хай, думаю, усё растрасецца да скутку! На якое ліха начальства! Шаблю бразну вобзямлю, сяду ў кут, горка разважаю: на якую такую балячку мяне маці-нябожчыца на свет нарадзіла? На якое ліха зямелька выкарміла?

Бадзяйся цяпер чалавек па свеце, як выдраны альховы куст па мокрым ройсці.

Скажыце, людцы: от жа размяк Хвядос, як пераспелы казляк. А-гэ! добра вам цвярдымі быць! Ось і цяпер можаце спытаць, адкуль я родам, а мне ўсё роўна, што суседзяў папарыць устыдам. Ну, але хай ужо так будзе: з-пад Менска я, з-пад Менска! але!.. калі птушачкай ляцець да роднай вёскі, то тры мінуты; калі канём ехаць, то паўдня, цвярозы чалавек за адзін дзень зойдзе, а п'яны за тры не дакоцінца. Больш ні слова! Хоць абцугамі за язык рвіце.

Ось аб горадзе Бердзічаве, дзе цяпер жыву,— магу сказаць. Рэдкай пякноты горад! Сам Магамет Бердзічава парога не пастыдаўся б.

Каля тынаў перац расце; цынамон сцелецца ў пазаплотках; кармазін пахне; слонямі ездзяць; салаўёў на вячэру пякуць. А вялікі, вялікі горад! Народ у ім не месціцца: большая палова жыве пад голым небам — быля ў Бердзічаве.

Я сам дзесяты год ужо ў ім паную — значыць, бутэлькі мыю. Мілая работа! Адно толькі: смруд ад гэтай праклятай гары! Дзіўна мне, як яе людзі галгочуць? Мне ад аднаго толькі яе паху нос распух, пачырванеў і ківаецца, як спелая грушка.

Такрок прашпарт мяняў; у прыметы ўпісалі: «Вялікі нос». Паночкі,— прашу,— гэтага не пішэце. Мой нос малюсенькі, дзюбаценькі; гэта толькі часовая штука: распух, бо пры такой рабоце стаю, а кіну работу, нос адыдзе, бульбінкай асядзе, дык яшчэ арыштуюць, што

пад чужы прашпарт падшываюся; агітатар, скажуць, сіціліст. Не губеце,— сірата я круглая: ані бацькі, ані маткі, ані жонкі — адзін, як палец, на свеце. Разгаварыся з дурнямі! — за дзверы выпхнулі. Цяпер воляй-няволяй жыві ў Бердзічаве. Шчасце, што горад на дзіва слаўны.

Дзесяць гадоў выбіраюся пад Менск да кума-лесніка Яхіма, ды ўсё Бердзічава жаль. Ось толькі ўчора кажу: Хвядос, дурны ты асталоп, ці тваё намачыла? ці тваё, дзяцюк, зарадзіла? Вольна птушка! Яхім-кум чакае — едзь! Еду, кумочак, еду. Хоць ты патопа хлыні — ткі еду, чакай, Яхімка!

Балазе, знаёмы унцер білет салдацкі купіў — дарога танней абыдзецца. Трэці званок. Кандуктар у вагон пасадзіў. Машына сунулася. Народу — жмыр; хоць бы пры якім далікатным сесці,— усё ж будзе ехаць мілей. Вуньдзька прымашчуся — каля тае прыгожае пані. А бо! Без кап-ту-ра нарадзіўся — не вытрываю; як бач усё нутро ўверх нагамі выверне. Каб яны са свету счэзлі, усё гэтыя пахі! Пашто і на якое ліха яна так напарфунілася? Войвей! — не вытрываю, аж у горле пячэ і галава млынам пушчаным круціцца... Гвалт! ізноў вынімае бутэлечку,— будзе паліваццa. Вось яго ліхачка! На чужое дабро які ласы — у акулярах — пэўна, купец: аж падсунуўся на бліжэйшую лавачку; сапе, у нюхавіцу парфуну цягне.

Хай ты затані, людская натура, колькі ў ей рознага паскудства!

Во, якраз добра, што ўспомніў: махорку вя-

зу для кума Яхіма; папрабую закурыць, мо развядзе крыху, пасвяжэе...

— А-а-а! — прачнуўся ды яшчэ пазяваю... што значыць моцна заснуць — як рукой адняло. А мая паня, пакуль я спаў, стапнела, як лёд, на нейкай станцыі. Ось цяпер-то добра ехаць: на ўсю лаўку адзін; хоць ногі папрастуюцца,— выцягнуся.

— А-а-а-а,— пазяваецца; што гэта значыць: ні разу білетаў шчэ не пыталі; мо выйшаў які маніфест, каторым дарма сягоння машынамі пруць. А шкада: білет за нішто прападае.— А-а-а-а! — праспаўся так добра, а зноў пазяхаю.

— Білеты вашы, білеты! — Дзякуй богу, білет прыдасца.

— Ваш білет?

— Зараз, паночку, падам, недзе ў кішэні замахрушыўся; маю, як жа, маю; пэўна, што па прошанаму не ехаў бы ў госці да кума Яхіма. А восяка знайшоў шэльму.— Кантроль глузды вытарашчыў — мусіць, навічок — да білетаў не прывык.— Білет ваш няважны,— загрымеў страшным голасам.— Не я друкаваў,— такі ў касе выдалі.— Вы не салдат, білет няважны.— Не, братка, гэта ўжо завострыя жарты! Кажы каму іншаму, што забыў салдатчыну, я ж буду помніць яе, канаючы.

— Білет салдацкі для салдат у форме.

— І гэта, паночку, маю — толькі пад сподам. Бачыце, нясккладна выпусціць на шнураваныя чаравічкі; а шапку — у куфэрку вязу на гасцінец куму Яхіму. Зараз, як піць даць, пакажу ўсё.— Высадзіць! — засоп на малод-

шага кандуктара. Ані апомніўся: машына паляцела на станцыю — высадзілі.

— А бадай жа вас немач! ды што ж я цяпер параджу? якраз на паўдарозе: направа — Менск; налева — Бердзічаў; ні туды ні сюды. Аж нос з бяды скорчыўся; чаго добрага, арыштуюць. Ні з месца не рушуся. Зацялася душа! Упапярок рэльсаў лягу — рэжце, дратуйце хрышчонага чалавека! Святкуйце на маіх касцях! Нябось дарма вам не зойдзе, салдацкую шапку надзену. Ага! добра, што ўспомніў: маю ў кішэні для сына Яхіма спранжыновага сабачку-брахалку,— выму, прыцісну да сэрца, няхай склікае народ, няхай людзі ўбачаць вашу справядлівасць хоць на прым-апрыля!

*1914*

# ГУТАРКІ АБ ПТУШКАХ

*(Жаваранак)*

Сцюдзёна яшчэ малым дзеткам у хаце: большую палову дня жэўжыкі шыюць каля печы. Праўда, дзед штодня цешыць унукаў, быццам вясна ўжо блізка, што вось-вось ужо за гэтым лесам вялікім, што за рэчкай стаіць.

— Ужо прыйшла б, — кажа дзед,— але надта змучылася, ідучы здалёку, дык прылягла крыху на прыгорку і адпачывае.

— А як, дзядок, вясна выглядае? Да каго падобна? — дапытваюцца зацікаўленыя ўнукі.

— А такая маладая, пекная паненка ў зялёнай сукенцы; таваркі яе — розныя кветкі, пакорныя служкі — галасістыя птушкі. Ось, хутка прышле да нас некаторых з іх, прымерам,— жаваранка-песняра і кветку-пралесачку.

— А калі ж, дзедулёк, жаваранак прыляціць?

—А тады, як вы, жэўжыкі, па тры боханы хлеба з'ясцё.

— Дзедка, то мы будзем завіхацца.

— Вядома, завіхайцеся: на зарок не адкладайце.

«Але, мусіць, то дзед жартуе,— думаюць дзеці,— бо якая тут вясна ідзе, калі дзед апранаецца ў кажух, на рукі пхне суконныя рукавіцы».

Нездарма сямілетні Юзюк, учарэпіўшыся дзеду за шыю, пытае:

— Ты, дзядуля, мусіць, апрануўся так цёпла, каб зіму хутчэй спудзіць?

— Э-э, будзеш і ты, жэўжык, калісьці таксама на старасць цёпла ўхутвацца, як і твой дзед, а цяпер адчапіся ад маёй шыі, бо ты ж не званок, а я не конь!

— Але затое ж я твой унучак,— бойка адказвае Юзюк,— і як прычаплюся да тваёй, дзедулёк, шыі, то так прырасту, як бародаўка да крызога носа.

— Ой, божа мяне крый ад такога гумзака, як ты, Юзючок!

— Ну, то купі мне боты, дзедулёк.

— Што-о? боты?

— Але, боты такія, як у музыкі Банадыся.

— Ох, які ты здагадлівы, унучак! Вясна, як піць даць, стане на дварэ, мо ўжо жаваранкі заўтра запяюць, а ты ботаў захацеў.

— Дзядуля, дзедулёк, купі, купі,— ужо хліпаючы, прыстае ўнук.

— Цыц, дзіцятка! утры нос і перастаць хліпаць; як будзеш добры, паслухмяны, то мо жаваранак сам здагадаецца і прынясе табе боты.

— І мне, мне! — свіргоча дзіцячая драбяза.

Марыля, Настка, Казюк чапляюцца за калені дзеда.

А дзед ходзіць па хаце, як стары баравік паміж суравежкамі.

— Дзядуля! як той жаваранак прыляціць, то няхай мне хустачку прынясе чырвоную,— просіць Марыля.

— А мне — дудку і коніка,— ласіцца Казюк.

— Добра, дзеткі, добра; зараз выйду на падворак і гукну, каб усё маім унучкам малым жаваранак папрыносіў.

Дзед выходзіць скаціне даваць. Дзеці гуляюць па хаце і чакаюць яго. Дзед варочаецца:

— А што, дзядулю, ці сказаў жаваранку?

— Не, дзеткі, жаваранка я і не бачыў, бо толькі выходжу з хаты, манюся яму загадаць, ажно мароз, такі сівы, з вялікай, доўгай барадой,— цап мяне за рукі: «Не смей,— кажа,— клікаць жаваранка, абудзіш вясну, і зара маю ўсю работу папсуе гэта нягодная баба. А ў мяне цяпер,— кажа,— найважнейшая справа ідзе: мост будую цераз вашу рэчку».— «А што мне за дзела да твайго моста,— адказваю, узлаваўшыся,— мне мае ўнукі бліжэйшыя, я для іх хачу жаваранка клікнуць».— «Ціха, пачакай,— кажа мароз,— я тваім унукам лепшых цацак пекных нарысую на вокнах, а жаваранак няхай яшчэ пасядзіць за морам».

— Дзедулёк! то жаваранак за морам? раскажы нам, дзе ён?

— Раскажу пасля, цяпер не маю часу: трэ дровы на вячэру сеч. А вы, дзеткі, пакуль што пагуляйце, маткі слухайце, старшыя малодшых не крыўдзіце, а я зара вярнуся.

* * *

На дварэ сцяплела. Вада з стрэх капае. На полі лысеюць праталіны. Дзе якое дзіцянё вы-

рвецца з хаты, шмыргае босае па вуліцы. Вераб'і кошкаюцца на сметніку. Слонка бліжэй глядзіць з неба. Дзед, чутно здалёку, шкулдыкае ў вялікіх ботах: шлэмб, шлэмб. Перад дзедам ляціць Юзюк: крычыць, пішчыць, рукамі, нагамі выкідвае, галавой круціць, усё роўна, як той жарэбчык-пярэзімак, сарваўшыся з прывязі.

— Жаваранак! Жаваранак прыляцеў! — крычыць.

— Ціха, не вый! Усё роўна, што жару ў горла нахапаў,— сцішае маці, высунуўшы галаву праз дзверы.

Дзеці меншыя, як мышы, каторае бокам, каторае скокам, выкульваюцца ў сені.

— Пайшлі дахаты. Перамерзнеце, хварэць будзеце, бахуры.— Маці ўпіхае дзяцей у хату. Крык і піск.

— Унучаткі, рыбачкі мілыя,— загоджваючы справу, адзываецца дзед,— чаго плачаце?

— Жаваранка хочам убачыць!

— Пакажу, жэўжыкі, пакажу, толькі слухайце маткі і сыпце ў хату, акно вам адчыню. Паволі лезьце, дзеці, на лаву, не папіхайцеся. Юзюк! не штурхай Казюка. Пачакай, Марылька, я ця падсаджу. Ну, ціха цяпер, дзеці, слухайце.

— Пяе! Во!— Казюк паднімае ўгару пальчык,— ціры, ціры, ці-і-ір, цір, цір... Ай, як пяе!

Як ад іскры, загараюцца тварыкі дзетак. У дзеда свецяць вочы, моў залатыя дукаты.

— Птуль мой, даўно жданы,— шэпча старавіна,— будзіш народ да працы, звоніш над нашым краем...

— Дзедулёк, во, во — ужо над нашай хатай пяе... чуеш, дзедулёк?

— Чую. Ужо чацвёрты год, як усё той самы да нас прылятае. Але годзе, дзеткі, надта холад верне ў хату, трэ акно зачыніць.

— Яшчэ, яшчэ, дзедулёчак, хочам паслухаць хоць крышку...

— Годзе, унукі, годзе: лепш я вам раскажу аб жаваранку, толькі адыдзіце ад акна.

— Але, але! раскажы нам шмат, шмат...

— Гэта, дзеткі, залежыць ад вас: будзеце сядзець ціха — раскажу вам больш, а пачнеце выкручвацца — скажу менш. А цяпер — гыля ад акна!

* * *

— Дзядуля, ужо мы ціха сядзімо... чакаем...

— Зара, зара, вазьму толькі плашкі, лучыны нашчапаю.

Стары дзед сядае, дзярэ лучыну, а дзеткі, збіўшыся ў кучку, ужо і губкі разінулі.

— Ось, слухайце, унучкі. Жаваранак — невялічкая, як ведаеце, птушачка з чорнымі жвавымі вочкамі; сама шэранькая, зямліста-бурага колеру, дык пёрачкі падыходзяць якраз пад колер зямлі; так што здалёку, калі жаваранак сядзіць на зямлі, то трудна і прыкмеціць, а гэта шмат яго бароніць ад напасці; бо трэба вам ведаць, дзеткі, што жаваранак мае шмат ворагаў, ой, шмат; а найгоршы паміж іх — гэта добра вам знаны... ну, жэўжыкі, каторы з вас першы згадае?

— Сабака!

— У-га! якраз стрэчны брат яго. Адгадвайце яшчэ.

— Воўк! Воўк!

— І не ён.

— Ну, то і не ведаем! Хто, дзедулёк, хто?

— О-ёй, унучкі, добра толькі падумайце; я вам памагу: вусаты, на кілбасы ласы, на прыпечак сядзе — мыецца...

— Кот! Кот!

— Так — ён, гад, шмат марнуе жаваранкаў. Цягаецца, шэльма, па полі, а як жаваранак прыкурне на раллі, кот падгледзіць, падкрадзецца: цап-лап, хмурлык — і птушачкі як не было. Дрэнна, што жаваранак аблюбаваў весціся па нізкіх месцах, бо дзеля гэтага яго можа з'есці і крот, і мыш, і лісіца, і шмат іншых звяркоў і звяроў; угары — у лёце — жаваранка ловяць меншыя і большыя каршуны. Хоць і губяць жаваранкаў розныя ворагі, аднак ён не хаваецца: больш, чым жыццё, міла яму свабода, дык жыве на прасторы, пяе людзям на ўцеху, а ворагам на прыманку.

Для гнязда свайго выбірае жаваранак заўсёды ў адной і той самай ваколіцы роўнае, адкрытае месца: сенажаць, папар або жытнюю ніву; выкашкае там сабе ямачку пад каменьчыкам ці грудкай зямліцы, назносіць туды саломінак, сухой траўкі, саўе гняздо, акругліць яго, а каб было аздабней і цяплей у хатцы, то яшчэ высцеліць усярэдзіне конскім валоссем. Віць гняздо жаваранку памагае і жаваранчыха, а як ужо пабудуюць яго, тады яна пачынае несці маленькія зеленаватыя або чырванаватыя з бурымі крапінкамі яечкі. Нанясе іх штук

чатыры-пяць і садзіцца на пятнаццаць дзён, але час ад часу падмяняе сядуху сам жаваранак. Як выйдуць дзеткі, крыху падгадаваўшы, вучаць іх бегаць і лётаць, а пасля і пушчаюць у свет. Але пакуль далей расказваць, закуру перш люльку, а вы, унучкі, пабегайце тым часам, ножкі папрастуйце.

* * *

— Ну, пабрыкалі, і годзе; сядайце, будзем гутарыць далей. Як толькі бацькі-жаваранкі пераканаюцца, што іх дзеткі ўжо розуму набраліся і самі сабе могуць даць рады на свеце, пачынаюць закладваць другую сямейку; падчысцяць, падправяць гнёздачка, самка накладзе туды зноў чатыры-пяць яечак, супольна — па чародцы — грэюць іх, ажно пакуль зноў не пакажуцца голенькія, брыдкія, з вялікімі галоўкамі, сляпыя, мала чаго большыя ад добрай бабіны, дзеткі. Пачынаецца новы клопат: трэба ж кожнае ў пару накарміць, зважаючы, каб аднаму не было многа, другому мала, ды пасцельку даглядаць, каб заўсёды была ў парадку і чыстасці, ды ад ворагаў — колькі змога і сіла — бараніць сваю сямейку, словам, гультаяваць некалі; але ў іх мамка на татку, татка на мамку, не здаюцца; каб усё ў парадку было, абаім трэ добра завіхацца; затое і дзеткі хутка і здорава растуць. Праз некалькі тыдняў глядзі — бацькам палягчэнне ўжо ў працы ёсць: павыскаквае моладзь з гнязда, куды ў каторы бок параспаўзаюцца ды самі сабе ўжо стараюцца харчоў. Спачатку, праўда, туга ідзе

праца: угледзеўшы, напрыклад, дзе якую мушку ці кузюрку, здаецца, і добра прырыхтуецца, як мае быць прыцэліцца, носікам — дзюб,— мошка паляцела, а сам паляўнічы ляжыць дагары і ножкамі перабірае. Ну, але гэта байкі — чаго на свеце не бывае,— страпянецца, ды зноў за работу.

Падкачаюцца гэтак дзеткі і пайшлі сабе ў свет, а старыя тым часам, калі восень добрая і цёплая, яшчэ справяцца і трэцюю сямейку выгадаваць, абы яды хапала.

— Дзедулёк, а куды ж жаваранкі на зіму адлятаюць?

— За мора, дзеткі, за мора, у цёплы край, дзе зімы няма...

— То і там яны, дзедулёк, гнёздачкі робяць і гадуюць дзетак?

— Не, жэўжыкі мае, не. Голад і холад толькі заганяюць жаваранкаў у тую цёплую, багатую і пекную краіну; але як бы яна ні была пекная, а для жаваранкаў яна сумная, бо чужая. Там яны не толькі не гадуюць дзетак, але нават песенькі сваёй залацістай чужынцам не пяюць; свой галасок, усю сілу яго для нас з вамі, жэўжыкі, пакідаюць, для свайго роднага краю.

Затое паслухайце жаваранка тут: які голас, голас! Проста сляза божая! Хоць, праўду кажучы, не ўсе яны аднолькава пяюць,— от, не раўнуючы, як у людзей: адзін цягне грубей, другі — цяней.

Ось, напрыклад, жаваранак, што сягоння пеў — гэта сярэдняй рукі спявака; а той, што на Мацеевых гонях вядзецца — проста перлы

сыпле з-пад сінявы нябеснай. І як толькі яны вытрываць могуць столькі пець, бо трэба ведаць, што жаваранкі спяць толькі гадзіны дзве-тры, а рэшта праз увесь час найбольш песнямі забаўляюцца. Пяюць толькі жаваранкі-самцы, а жаваранчыхі — вядома, гаспадыні — усялякія хатнія клопаты маюць, ім не да таго.

Каб не жаваранкі, нашыя палеткі шмат гінулі б ад усялякага паскудства: нападаюць на наша поле ўсялякія жучкі, мошкі, кузюркі, рабакі; але дзе ўжо завядзецца сямейка жаваранкаў, там у блізкасці гэтаму паскудству няма жыцця: высткнуў рабак нос — смерць; прысела мошка на кветачку — капут; жучок узлез колас глуміць — квіт.

Апошні раз усё гэта падчысцяць каля сябе жаваранкі, дык пасля прыходзіцца ўжо і далыш лётаць за пажывай. Ну, але як прыцісне холад, тады ўжо рады няма — трэ выбірацца з роднай старонкі...

Слухаючы, як жаваранкі ад світа да змяркання ажно заходзяцца, пеючы свае песні, хто б падумаў, што ім заўсёды добра і вясёла жывецца. Тым часам бывае ўсяк. Апроч бяды ад ворагаў, аб якіх я ўжо спамінаў вам, дзеткі, жаваранкі яшчэ і паміж сабою не заўсёды складна жывуць. Праўда, жаваранак з жаваранчыхай, калі ўжо дабяруцца да пары, то праз усё жыццё сваё разам трымаюцца, і ніколі паміж імі нават сваркі не бывае, але з іншымі — суседзямі — то часам так сварацца, ажно чупрыны кураць. Прычыны да звадкі розныя бываюць, вядома, як у суседстве: то за месца

на гняздо, то за яду, а найбольш, калі часам жаваранчыха дзе згіне, а застанецца толькі сам жаваранак. Такому ўдаўцу, разумеецца, жыць сумна — няма куды прытуліцца; вось і стараецца ён усялякімі спосабамі як-колечы прыснасціцца да суседняга гнязда; але гэткай помачы не патрабуюць; гаспадар і гаспадыня няпрошанаму госцю так усыпюць, ажно пёркі ляцяць.

Туляецца гэтакі ўдавец без работы з месца на месца, пакуль не трапіць на жаваранчыху-ўдаву, да каторай з радасцю ідзе ў прымакі...

Ну, але што гэта, бахуры, заўзяліся вы дзеда мучыць, ці што? Цьфу! ажно ў горле перасохла. Што я вам — млын ці дзед? Хоць бы вы жаваранaчка любілі, але дзе ж вашым гарбузіным галоўкам зразумець такую рэч...

— А я зразумеў,— круцячы галоўкай, пахваляецца Юзюк.

— Што ты, шпунт, зразумеў?

— А тое, што жаваранак вельмі карысная птушачка: яна нам пяе і шкоднікаў нашых ніў паядае.

— Маладзец! За гэта я цябе на печ, Юзюк, закіну.

— Не, не ўздужаеш, дзедулёк, не ўздужаеш,— падхопліваюць грамадой усе дзеці і чапляюцца дзеду на шыю.

— Ну, ну, толькі не ўсе разам, а то ў дзеда галава сухая: адкруціце яе, як даспеўшую макаўку, і ўсе казкі высыплюцца.

*1914*

# З ДАРОГІ

## *Еду лячыцца*

Выпечаны румянец на твары, кашаль сухі і схварэлае цела адразу людзям кажуць пра маю цяжкую хваробу. Пасажыры ахвотна ўступаюць месца. У вачах іх я бачу, што шкадуюць маёй маладосці. Закрываю векі. Не хачу відзець іх жаласці, бо веру, што ашукаю ваш жаль, людзі добрыя, што змагу цябе, смерць лютая, а цвёрдае жыццё вазьму ў свае рукі і буду з яго прасці доўгую нітку быцця, унізываючы, як белымі перламі, працавітыя дні неслухмянай долі...

## *У вагоне*

Стукае машына; калышацца вагон, еду ў чацвёртай класе праз Нямеччыну. У вагоне публіка — усё немцы: работнікі, дробныя мяшчане, адзеты чыста, гаворадь ціха, зважна, не кураць. На ўсенек вагон толькі дзве лаўкі стаяць ля сцен, а так вагон цэлы пусты; публіка стаіць або сядзіць на сваіх багажах. Цягнік (поезд) у тры разы шыбчэй ляціць, чым у нас. На станцыях затрымліваецца на мінуту, пасажыры ледзь паспеюць ускочыць у вагоны, а машына ўжо далей прэцца, як разгуляны вецер у полі.

Праз акно відно нямецкія вёскі і поле. «Божа, што за лад!» — зайздросна шэпча да сябе чалавек. Ва ўсіх вёсках брукаваныя вуліцы, дамы пекныя, сады чысценькія, гародчыкі ўпраўленыя, і нідзе ля хаты ні дрывотні не відно, ні лужы пры карыце, і навокала ўсё падворка градкамі абкопана; на градках — засеяны кветкі, засаджана варыва, і праз падворак толькі бягуць вузенькія сцежкі.

Дзеткі чыстыя, адзеты, абуты ідуць у школу.

Дарогі, дарожкі ўсе шашэйныя, на іх масты жалезныя, з абодвух бакоў абсаджаны грушамі, яблынямі, сліўкамі. Ніхто там галля не ламае, фруктаў не рве. Праўду сказаць, закон нямецкі добра сцеражэ гэтых дрэваў: напрыклад, падарожны, ідучы, можа з'есці колькі хоча, але няхай толькі спрабуе хоць адзін яблык палажыць у кішэнь, зараз заплаціць вялікую кару або сядзе ў арэшце.

Нідзе, едучы праз Нямеччыну, не ўбачыш скаціну на полі. Усюды сенажаць прагноена і густой шчоткай высыпаецца трава. Немец заміж нашых трох кароў трымае толькі адну, затое круглы год корміць яе ўброд гатовым кормам. Хлеўчык відны, чысты, на падлозе, праветраны. Скаціна шчоткай вычасана і — такая кароўка дае ў тры разы больш малака.

Закрываю змучаныя вочы і бягу думкай у родную старонку да вас, кароўкі нашы палавенькія, замучаныя голадам... Кажуць людзі, што адзін раз у год на куццю, а дванастай га-

дзіне ўночы, жывёла гаворыць людскім языком. Гаспадарыку, суседзе, пайдзі да хлева і паслухай, што табе твае кароўкі скажуць.

### *З Нямеччыны*

Хоць доктар забараніў затрымвацца на дарозе, казаў ехаць проста на мора, але я не вытрывала, каб не паглядзець на горад Дрэздна. Вельмі пекны горад над ракою Эльбай.

Суботні вечар перад урачыстым святам. Званы гудуць. Кірхі стаяць побач з касцёламі. Іду на пляц тэатральны: з аднаго боку — каралеўская катэдра, уся прыбраная разьбой, з другой — вельмі пекны гмах тэатра і з трэцяй — вялізны палац Цвінгер-музей.

Заўтра пайду туды глядзець Сікстынскую мадонну.

Сядаю на лаўцы, гляджу на творы рук людскіх. На душы стае сумна і радасна: надзея жыцця змагаецца с(а) страхам смерці. Неба чыстае, па ім плывуць стады белых авец-аблакоў, такія самыя як калісь, калі я маленькай дзяўчынкай была і гусі ганяла ў поле, не ведаючы яшчэ нічога аб смерці.

Думкі сілай ціснуцца да галавы: «Жыць, жыць!» «Памрэш»,— нейкі жалосна слабы голас адказвае з хворых грудзей.

Ах, чаму я ведаю аб сваёй хваробе! Варта было мучыцца, дабівацца, вучыцца, каб цяпер свядома ўміраць. Ха-ха-ха...

Медыцына, а чаму ж для мяне ты такая мсцівая? І ці не за тое мсціш, што я хацела цябе пазнаць, зглыбіць, каб пасля лячыць сваіх

бліжніх. «Вылечы перш сябе»,— адшэптывае нейкі таемны голас у сэрцы. «Не! Я буду жыць, я не хачу ўміраць! Чуеш, медыцына? Не хачу ўміраць... Дай раду, пашкадуй маёй маладосці».

Старая маці ўбіваецца, прадучы кудзельку, як неасвечаная прастацкая мысль. Нават не можа абхапіць той далі, на каторай цяпер плача дачка-едыначка; але беднае старое сэрца чуе і, пэўна, таксама плача.

О мамачка, чуе твая душа справядліва, як калісьці чула, калі я была смяртэльна галодная і ты мне зашывала ў цвікель сарочкі, каб паслаць праз людзей, што ішлі ў Кальвару.

Мамачка, павароту не... Смерць блізка...

### *Дрэздна*

Дзень сягоння пекны; усякі і ўсячына купаецца ў праменнях сонца поўнымі прыгаршнямі.

Дзіўна мне, што я так учора раскісла. Няведама адкуль такі страх узяўся. Я ж не такая ўжо кволая.

Мамачка, я яшчэ табе цэлы свет заваюю, усе з яго скарбы кіну табе пад ногі...

Толькі ты там па начах не плач: я не хачу, каб на выбалелых разорах твайго старэнькага твару слёзы сплывалі... Мамка, я буду жыць... Гукаю да цябе,— хай вецер вольны занясе мае словы праз выбітыя шыбы.

*Нядзеля. 10 гадз.*

Мамка, ужо маё сэрца чуе, што ты супакоішся. Я ўжо абышла берагі Эльбы і цяпер пайду ў музей глядзець на ўвесь свет слаўныя малюнкі.

Музей яшчэ зачынены, народу мала. Усе, як відна, мясцовыя, чужынцаў мала.

Культура! Тут работнік часць свайго святочнага дня праводзе, гледзячы на бяссмертныя творы.

Работніку, і ты, кожан просты чалавеча. У сэрцы тваім крыецца доля ўсясветнага змагання, яна гэта і творыць хараство жыцця, з яе то і родзяцца ў суме ўсясветныя геніі чалавечаства.

Музей адчынілі, народ рассыпаўся па зале, і абвіслая целам нека тлустая дама, учапіўшыся за падпаху высокаму мужчыне — арыстакрату, голасна крытыкуе малюнкі. Дзве паджарыя француженкі шпарка абягаюць залі, здаецца, быццам яны іх абнюхіваюць, вылецяць пасля на вуліцу, забалбочуць... Ніякая вялікая творчасць не ў сілах затрымаць гэтых жвавых маламысльных у сваім жыццёвым бегу жывін. Кудлаты, абарваны, у кутку сядзіць малады хлопец і ні то булгар, ні то якой іншай нацыі, і вачыма ўпіўся ў тыцыянаўскага «Фарысея». Расказала б, апісала б гэты абраз, каб льга было словам абняць той абшар у ім векавога дабра і зла.

Душа мая яго разумее, але вусны не ў сілах выказаць, толькі родзіцца думка:

— Бачу, як абквечанымі палямі ў далёкім часе ідзе малы хлопчык-дзіця. За сінім небам ад нізін зямлі сабіраюцца хмары... Гром у патайне грыміць.— Дзіця адно ў полі... Страшная бура ідзе, збліжаецца... З дзіцяці вырастае чалавек-гігант, аж пад самае неба...

Гэта самая думка, а абраз зусім іншы.

Сікстынская мадонна. Малюнак — абраз сусветнай славы, для маёй душы не мае чароўнага слова. Яшчэ калісь, як была я ў Рыме, каля твораў Рафаэля прайшла з сэрцам спакойным, затое перад Анджэла Буанароці і Леанарда да Вінчы анямела ўсімі сваімі чуццямі, думкамі склепілася і стаяла гадзінамі, акамянелая з задзіву...

## *Дрэздна*

Дзікія горы, скалы, кручы, пропасці, птушку кінуць, здаецца, не даляцела б, забілася б; а машына ляціць берагам гор — то ўскаквае, то выскаквае з тунеляў, глуха скіргіча, віхры гудзяць у пасівеўшых мохам тхланях. Паразрываныя хмары таўкуцца на небе; холадна, і людзі неспакойна сядзяць на лаўках. Зараз будзе тунель Сенгатарскі, найдаўжэйшы на свеце. Розумам ніхто не баіцца праз гэты тунель ехаць, аднак чуццём, як і я, так і другія, бачаць перад сабою ў сваіх гáдках высокую дзікую сцяну пакрытых вечным снегам Альп; а за гадзіну ці за дзве наш цягнік, як рабак, упаўзе ў нетра гэтых снегавых гор і выйдзе толькі з другой староны Альпаў, дзе зусім іншы характар краю; кажуць, што там ужо ўпалы, цытрыны

спеюць, мігдалы цвітуць, а з гэтай стараны пуста, дзіка, глуха, ледзь пачынаецца канец зімы.

Мы ўжо ў тунелі, электрычаства гарыць, тук-тук машына стукае востра, рве шпарка, вово здэцца, калі не вырвецца ў гэту мінуту на прастор, то разарвецца на кускі, разляціцца, задушыцца.

Часць пары пранікае ў вагон; блядыя твары пасажыраў у мутным святле двояцца; людзі глядзяць, па сабе стараюцца адзін у другога адгадаць думкі. «Гг-ух, гг-ух!» — уздыхнула лакаматыва, знаць, ужо вырвалася на волю.

Праляцелі Альпы; баюся адкрыць вочы: людзі, а як гэта ўсё казкі, што вы мне казалі... А я хворая, сухотніца, адна ў маткі, мне патрэбна цяпло, мора... Страшна...

## *У вагоне*

Мамачка! Мама! Я буду жыць, буду!.. Няхай ластаўка нясе табе весць дарагую, кінь верацяно, слухай, даражэнькая, твая Анелька будзе жыць.

У цябе за акном мяцеліца вые, мароз трашчыць, а тут лета. Кветак дзірваны, вінаград, імшары.

З поўначы снегам горы пакрытыя стаяць; у далінах рэчкі шумяць, пальмы, мірты растуць. «Гг-ух! гг-ух!» — спяшыць машына хутчэй тваю дачку на мора завезці, ад смерці выратаваць...

Мамачка, няпраўда, твая Анелька памылілася, як скардзілася табе, што свет суровы, што людзі нягодны.

Мамачка, і свет пекны, і людзі добрыя, і варта жыць, радзіцца, каб убачыць красу, рассыпаную па шырокаму свету.

### *Генуя*

Кашляць перастала, гарачка меншая, сілы больш. Цэлыя дні ляжу на скале над морам. Цёпла, сонечна.

Блізка, што нікога не маю знаёмага. Не хачу траціць сіл на пустыя гутаркі знаёмасці. Жыву з морам і часта табе, мамачка старэнькая, апроч лістоў пасылаю на мора хвалях жывыя словы; бачу, як яны да цябе шпарка плывуць белымі лебедзямі, як перамяняюцца пасля ў шэрыя зязюлькі і кукуюць за рэчкай у дуброве.

Наша старэнькая хатка паміж белых расцвіўшых вішань адчыняецца, і ты, мамка, стаіш на парозе, глядзіш на вішні і ў кожнай кветачцы іх бачыш тварык сваёй Анелькі.

Мамачка, Анелька здарова, Анелька вернецца. Старасць ты сваю глыбокую датчэш на Анельчыных руках, апошні вузялок табе Анелька завяжа, гарачай даччыной слязой яго абалье...

### *Ментона*

Ліст ад цябе, мамачка, дастала. Дзякуй богу, што ён спакойны.

Твой, мамачка, ліст спакойны, як спакойнае сягоння мора, ляжыць яно ціха, як дзіця пасля купелі, лагоднае, як твой, мамачка, погляд, сі-

няе, як Анельчыны вочы. А што ж, мамачка, ці ж не пекнае мора?

Мамулечка дарагая, дай хоць у думцы пацалую твае сумныя вочы.

Мамачка, каб табе лапаць стары паказалі і ўверылі, што ён да мяне падобен, то і той быў бы для цябе пекны.

Але мора, мамачка, сапраўды пекнае: мяняецца яно кожну мінуту. Колькі я тут жыву, яшчэ ні разу не бачыла, каб яно было адно і тое.

То гладкае, гладкае, як мае шчокі, і праменні сонца ўздоўж па ім кладуцца і спяць залатымі ніткамі. Неба, адбіваючыся, тчэ ўзоры ўсягусенькія. Караблі бяспечна ідуць па ім, моў твая, мама, Анелька; помніш, як ты палола лён, а я хадзіла па роўнай дарожцы, на каторай цвілі белыя густыя румянкі, і я іх расхіляла, каб не патаптаць.

Гэтаксама карабель ідзе, белай пенай ваду разгортвае, яшчэ не адыдзе, а ўжо за ім вада спакойна спіць.

Але як падымецца бура, страшна тады глядзець на мора, уся публіка ўцякае з берага, і я адна астаюся.

Не гневайся, мама, і не бойся, бо мне нічога ліхога не стане, я люблю глядзець, я люблю слухаць, як хвалі стогнуць, шумяць, рагочуць. Усенек бераг заліты; скала, на каторай сяджу ў спакойную пагоду, тады недзе далёка хаваецца пад вадой кіпучай. Пена рве высокі слуп марской ліхтарні; здаецца, што знішчыла б яго, каб цемнату зрабіць і пасля свабодна гарцаваць па сярдзітаму мору.

Але ліхтарня не падаеца, яна ўпорна кідае снапамі святло на мора, каб караблі, захопленыя бурай, маглі ўгледзець бераг і шукаць ратунку і прыстанішча.

### *Ніцца*

Мамачка, варочаюся да цябе іншай дарогай і не чыгункай, а морам; кожную мінуту ўсё бліжай і бліжай да цябе.

Мора цікавае, лётаюць белыя чайкі, падаюць грудзьмі на сіняе мора, падплывуць, зноў узнімуцца, ляцяць; выглядаюць, як тыя лілеі, што калісьці ў гарачцы мне сніліся.

Помню ты, мамачка, недзе плачаш, седзячы на канцы ложка; хачу я да цябе рукі выцягнуць, не магу — сыплюцца кветкі-лілеі мне на твар, на грудзі, на рукі, ужо поўнае ложка, сыплюцца на зямлю, устаюць, падлятаюць, ізноў падаюць...

Каля мяне сядзіць жыдовачка з Гродны, ехала ў Амерыку, але забракавалі вочы. Не пытаю, чаму назад варочаецца такою крутою дарогай. Гледзячы на гэту дзяўчыну, мамачка, відна адразу, што лёс яе таксама круты, як і яе паваротна дарога. Яшчэ маладая, а будзе нешчаслівa; чаму нешчаслівa, не магу, мамачка, сказаць, як не магу сабе сказаць, калі прадчуваю сваю будучыню або як адгадваю яе іншым людзям.

Мамачка, твая Анелька-чараўніца вернецца да цябе, зараз стане весялей у хаце.

З старой, згорбленай мамкі зробіцца вясёлая маладая мама.

Вераб'ёў наляціць на наша падворка; сабака схудзелы прыб'ецца, кот-прыблуда замяўкае ля парогу.

## *Трыест*

Мамачка, хачу нешта табе сказаць, але не паверыш так адразу пасля маіх лістоў, дай хіба вушка: мамачка, нідзе так не пекна, як у нас. Прымерам, калі сядзімо мы з табою на нашым прыгорачку ў даліне, ля рэчкі, бягуць загоны сівага аўса; па ручаю ляжыць палоска бела-ружовай грачыхі і ніжэй вусаты ячмень упіраецца пазалацеўшымі загонамі ў канюшыну. Або як бульба наша сінімі кветкамі ківаецца на сонцы. Чырвоныя шчаўі бягуць межамі. Мядункі, смалянкі, іскры гудуць пчоламі; купальскае зеллечка кругом пахне, сіняя мацярдушка ў купінах крые свае лекі; сардэчнікі чырвонымі ніткамі пераскакваюць ручайкі, а васількі ў нашым жыце.

Тут іншая краса, там іншая, а ў нас, мамачка, яшчэ іншая — свая, мясцовая.

# УСПАМІНЫ З ПАЕЗДКІ Ў ФІНЛЯНДЫЮ

## *У дарозе*

У палове сакавіка, перад ад'ездам у Фінляндыю, прыйшлося пабываць у Вільні і Мінску. Нішто: дожджык трусіць, зіма-старушка рушыла з месца, толькі астаткі снегу дзе-нідзе ляжаць па стрэхах. Балотца, праўда, плывае па вуліцах, але не так ужо блага, можна з бяды чакаць лепшага часу — вясны.

А вось селі ў цягнік і праз ноч з Вільні ў Пецярбурзе апынуліся. Або... якая страхата! Пекла вірутнае: чалавек чалавека, упоруч ідучы, не бачыць: туман, дождж, імгла нейкая ліпкая, клейкая чалавека абсядаець. Людзі панурыя, згнобленыя, паморшчаныя, як тры дні не еўшы, кудысь ідуць, едуць, спяшаюць.

Хацелі і мы затрымацца — думаем — сталіца: што ні крок, то міністар, сенатар або якая іншая вялікая шышка пад бокам, толькі пальцамі ткнуць, і Гасударсцвенная Дума свянцоны хлябок есць; шмат чаго цікавага можна даведацца, пачуць, але куды! Так неяк гэта захмуранае неба, гэты густы мокры туман ды казённыя высокія дамы чалавека пужаюць, гнятуць, што ахвота адпадала надаўжэй затрымацца ў гэткі перадвясновы час.

Ледзь здолелі перавязці клумкі з аднаго вакзала на другі і ўскочыць да вагона.

Едзем у Фінляндыю. Кандуктар ветла (гжэчна) спраўджае білеты. Вагоны чысценькія, меншыя за нашы, толькі вокны непамерна вялікія, а ў іх праз усю велічыню ўстаўлена толькі адна шыба — гэта, каб рамы шмат месца не займалі і каб, як хто едзе ў Фінляндыю, мог як найболей убачыць край і яго людзей.

Цягнік бяжыць крыху барзджэй, як у Расеі. На станцыях затрымліваецца карацей.

У вагоне едзе колькі фінаў мужчын і адна жонка з дзецьмі. Усе светла-русыя, вочы сінія, нізкі лоб, куксаваты твар, здаровыя. Цікавасць, ці ўсе фіны такія? Кабета выйшла з вагона вады ўзяць; дзіцянятка пачало плакаць, мужчыны ўсе цопнуліся дзіця забаўляць, адзін нават узяў на рукі.

Пэўна, фіны дзяцей любяць; у нас так пасажыры не дбаюць аб чужых дзецях.

На станцыях стаіць шмат звожчыкаў, коні ўсе невялічкія, каштанаватыя, санкі маляваныя розна, малыя, пекныя; вазніцы адзеты ў шэрыя самадзялковыя марынаркі і порткі, на галовах шапкі баранковыя, пацягненыя шэрым сукном, з вушамі, з патыліцы — цёплы брыль і спераду брыль; агулам кажучы, шапка выглядае, як каптур.

Зіма цвёрдая, снегу многа, кажуць — па вялікадні за тыдні два зіма толькі рушыць. Во як позна: у нас ужо цяпер на прагалачках трава зеляне. Мы чулі, што ў Фінляндыі цяпер найлепшы час для тых, хто хоча адпачыць або палячыцца, бо прымаразкі яшчэ стаяць, а слонка ўжо свеціць, цёпла, паветра здаровае і спакойна старонка. Праўда, праз вокны вагона па

Пецярбурзе Фінляндыя нам выдаецца, як іншы нейкі свет. Снег — беленькі ўсё пакрывае, слонка па ім густымі праменнямі коўзаецца: лес і лес, як вокам сягнуць.

Даліны з горкамі пераменьваюцца, скалы вісяць, а раўніна замерзлых азёраў вылынае.

Трэба ведаць, што Фінляндыя — гэта старонка лясоў, азёр і скалаў. На адной станцыі цягнік затрымаўся на некалькі часін, каб у буфеце, калі хто хоча, закусіў. Высыпаліся і мы з вагона. Станцыя вельмі чыстая. Два сталы пекна накрыты, застаўлены ядой, якую толькі здумаць: там і мяса, і рыба, яйкі, сыры розных гатункаў, малако, гарбата, квас, піва. Як толькі падходзіш да стала, мусіш заплаціць марку, фінскую манету вартасці 38 капеек. Пасля, калі хочаш, еш, колькі душа прымае, а не — крошку палажы на зуб — плата аднолькава: там жыватоў людскіх не мераюць; — такі звычай укараніўся пэўна дзеля таго, што ніхто з фінаў не мае ў натуры сваёй, каб карыстаць болей за тое, чым плаце. Фіна не трэба пільнаваць, ён сам у сябе стаіць на стражы. Дзеля таго на станцыі фіны ядуць паволі, не спяшаючыся, як у сябе ў хаце за сталом.

Але было некалькі расейцаў, дык тыя завіхаліся каля яды, ажно папацелі. Аб сабе трудна сказаць: лепш відна збоку, аднак, мушу прызнаца, што добра-такі пасіленай вярнулася ў вагон, ажно цяпло па жылах разышлося,— весялей стала: усе закускі былі вельмі смачныя...

Прыехалі да горада Віпуры,— па-расейску Выбарг, гэта найбліжэйшы вялікі горад у Фін-

ляндыі ад Пецярбургу. Не затрымываемся ў Віпуры — адкладаем гэта на пасля — з паваротам, бо цяпер маем яшчэ праехаць колькі станцыяў, а адтуль фурманкай да аднаго гаспадара ў нейкую вёску Лоттала. Да аднаго тамтэйшага гаспадара далі нам адрас — казалі, танна бярэ, яда гаспадарская, добрая, здаровая, так што можна адпачыць і паправіцца, а разам з тым прыгледзецца да вясковага ў фінаў жыцця.

Мусім гадзіну чакаць на іншы цягнік, каб ехаць далей. Аглядаем вакзал новапабудаваны: вельмі пекны — як палац, выкаваны з шэрага каменю. Адразу відно, што фінскі народ дэмакратычны: стараецца, каб усе былі роўныя, дзеля таго на вакзале 1, 2 і 3-я класы ўсе аднолькавы: такія самыя крэслы, такія самыя сталы, такая самая чыстасць усюды; не то што ў Расеі: у першай класе крэслы аксамітныя, канапы плюшавыя, а ў трэцяй — сметнічак...

Купілі кніжку з фінскімі і расейскімі словамі, будзем з помачай кніжкі гаварыць, бо, як бачымо, фінчыкі па-расейску не разумеюць, хоць і блізка жывуць, а куды ж нам — беларусам з сваёй гутаркай цопацца да іх: мы, народ, дальшы ад фінаў, і мала ім знаны.

Пераселі ў іншы цягнік. Едзем. Лес і лес: нідзе людскіх сяліб не відаць. Вучымся словы: хлеб па-фінску лейпа, масла — войта, малако — майта. Хоць каб крыху падвучыцца, а то чаго добрага не разгаворышся з фінчыкамі і прыйдзецца хоць назад аглоблі павярнуць. Пры навуцы час праляцеў хутка, і не агледзеліся, як прыехалі ўжо на сваю станцыю.

### *На станцыі Ганілля*

Цягнік затрымаўся, ледзь толькі мы выскачыць ды чыноўнік пошту аддаць — здолелі, як машына ўжо засвістала і пайшла. Станцыя малая; ніхто не прыехаў, акрамя нас. Вечар блізка, а да таго Лоттала, куды нам трэба ехаць, яшчэ вёрст дванаццаць. Якую тут раду чыніць, каб каня дастаць? Шукаем у кніжцы, як будзе па-фінску конь, нашлі: хэвонен. Хай сабе і «хэвонен», але далей што? Ажно бачым, паводдаль нейкі чалавек на воз збаны ад малака пакуе. Мы да яго: і рукамі, і нагамі, і носам гаворым, выкручваем, паказваем на мігі, што нам патрэбна фурманка. Чалавек уважна паўглядаўся на нашы гігі-мігі, нешта забарматаў па-свойму і пайшоў кудысь спакойна.

Думаем: справа дрэнная — яму не да нас — сваю работу, пэўна, мае. Вярнуліся на станцыю: праз аконца сівенькі чыноўнік у акулярах выдае газеты; дзетак, як жмыру, набралася; кожнае падыходзе ў чарод, пекна паклоніцца, возьме газеціну, зноў паклоніцца і выбягае са станцыі. Куды ж ізноў да так занятага чалавека падыходзіць і дурыць галаву, ды яшчэ не ўмеючы гаварыць па-фінску. Як тут даць рады? Ажно дзверы скрып — той самы чалавечак, у катарага мы пыталі, ды яшчэ з нейкім высокім ні то чыноўнікам, ні то панам пекна ўбраным, ідзе, на нас рукой паказвае. Пан падышоў да нас і, вельмі дрэнна па-расейску гаворачы, стаў дапытываць, чаго нам патрэба. Значыцца, той чалавек, аб каторым мы

думалі, што і ўвагі на нас не звярнуў, пабег да гэтага пана і прывёў, каб ён з намі разгаварыўся. Мы сказалі, што нам патрэбна фурманка; пан растлумачыў чалавеку па-фінску, а той зараз зноў кудысь скрыўся. Праз мінут дзесяць пад'ехаў малады хлопец. Пан нам сказаў заплаціць тры маркі — цана сталая. А той чалавечак, што столькі фатыгаваўся для нас і ў наш бок не глядзеў — ізноў свае збаны пакаваў у воз, не чакаючы ніякога дзякуй. Усе фінчыкі такія, як мы пасля праканаліся. Кожны фінчык лічыць абавязкам сваім, а не ласкай — памагчы бліжняму ў патрэбе, усё роўна якой ні ёсць веры або нацыі.

Нам раней сказалі, што фінчыкі вельмі не любяць рускіх, бо правіцельства страшэнна іх прыціскае, але яны, відаць, бачаць розніцу паміж правіцельствам расейскім і расейскім народам, а калі і маюць што ў сэрцы, то культурнасць іх душы ім не пазваляе абысціся груба з госцем — чужынцам, прыехаўшым паглядзець на іх край і народ.

Мы селі ў санкі, падзякаваўшы фінам за іх увагу да нас, і паехалі. Зараз звярнулі ўправа. Пачаўся лес. Дарожка вузенькая адна толькі ішла, каторай мы ехалі, а так ні дарожкі, ні сцежачкі, ні следу людскога. От, барані бог, завея, а чалавек мала абазнаны з мейсцам папаўся ды збіўся з дарогі — аман у гэтых лясах. Дзіўны край, думаем у душы, а вочы з цікавым пералякам разбягаюцца ўвокал. Хочацца як найшырэйшы абраз гэтага фінскага лесу захаваць для ўспаміну ў хвіліны, вольныя ад працы...

Наш хурман сядзіць, як шэры каменьчык, твар халодны, спакойны, светлыя вочы нерухома глядзяць на скалы. Дасталі цукеркі, пачаставалі фінчыка. Узяць — узяў, але неяк машынальна, як бы то нічога яго не абходзіла.

Пачало цямнець. Лес ані крышку не змяніўся, толькі здалёк паказаўся чырвоны вугол нейкай будыніны.

— Лоттала,— ткнуў пальцам вазніца.

Мы ажно прыўсталі на санках. Конік борзда ўзбег на горку; перад нашымі вачыма вылынаў фальварачак; дом вялікі ў цёмна-вішнёвы колер вымалёваны; вокны вялікія з зялёнымі аканіцамі; сам дом на два канцы; ганак ашклёны, на гары такія ж вялікія вокны і малы ганачак; далей будынкаў з восем увокал параскіданы.

— Дзяў-дзяў! — выскачыўшы, пераняў нас сыты, маленечкі жоўценькі сабачка. Гэткія самыя сабачкі блізка што ў кожнага гаспадара мы пасля спатыкалі; чуткія яны, звяглівыя, але не кусаюцца.

Ад'ехаўшы з паўвярсты, мы зноў такі ж самы фальварачак убачылі, а там — справа, злева — на вярсту, а то і далей, і бліжэй усё фальваркі і фальваркі. Дарожка — вуліца пайшла крута, так што блізка міма ўсіх сяліб прыйшлося праязджаць. Сэрца — тук-тук — адзывалася мацней каля кожных варот; здаецца, гаварыла: тут-тут затрымаемся, але вазніца, нерухома сядзячы, далей вёз і далей. Дарожка вузенькая то ўправа, то ўлева паварочвала; адны сялібы хаваліся за горкамі, другія — выхіляліся з-за далінак. Перад сабой убачылі

мы за якую вярсту вельмі пекны дом на гары пасярод высокіх дрэў. Дом усё блізіўся і блізіўся, а мы набіралі пэўнасці, што дык жа там жыве Кюмеляйн, да каторага едзем. Ужо, па праўдзе сказаць, нават смакавалі, як гэта будзе цёпла, добра і пекна. Раптам хлапец скруціў улева на малое панадворка пад паветку.

— Кюмеляйн! — паказаў рукой на шэры дом у другім дзядзінцы вазніца. Зразу спужалася думка, хоць дом Кюмеляйна вельмі добры быў — проста фальварковы нашага багатшага шляхціца. Нечага чакаць — хоцькі не хоцькі вылазім, хоць усё паглядаем яшчэ на гэны пекны дом, каля каторага мы перш былі пэўны, што затрымаемся; стаіць ён усяго ад нас на якіх крокаў сорак і як бы дражніцца. «Вязі, вязі!» — нешта ўнутры быццам просіць вазніцу. Але ён ужо з нашымі клумкамі стаіць на парозе і чакае, пакуль мы не падыдзем, каб разам увайсці ў хату.

Адчынілі дзверы, увайшлі: хата цёплая, відная, пpасторная міла прывітала нас. Людзі за сталом сядзяць, каву з булкай п'юць. Машына краўцоўская стаіць, сталярскі варштат. Пачынаем гаварыць; ніхто ні слова, бачыма, не разумее, у кніжцы пачынаем шукаць слоў фінскіх: натыкаемся, як па-фінску будзе ас званковы, як называюцца розныя дарагія віны, як лёкай, але як папрасіцца на начлег — такіх слоў няма: мусіць, то кніжка толькі для вялікіх паноў пісана. Толькі малая паўтарагодняя дзяўчынка, здаецца, найлепш нас разумее: засмяялася, кіўнула галоўкай, узяла ад

нас цукерак, смокча і зычліва ў наш бок паглядае. А так — усе спакойна сядзяць, ядуць, як бы не чужыя падарожныя людзі сюды ўвайшлі, а толькі крыху халоднай пары цераз адчыненыя дзверы ўвярнула і ўсё тут. Адно да другога толькі часамі памалюсеньку скажа якое слова. А тут цямнее; думаем: вазніца зараз ад'едзе, — начуй пасля хоць у лесе.

Пачынаем мігамі паказваць на ложка, што хочам спаць, на хлеб на стале,— што хочам есці. Нічога! Проста людзі нейкія бязбожныя, без сэрца, ані варушацца з месца. Адно бабы памалу кратаюцца каля гаспадаркі: адна нешта пачынае варыць, другая выйшла з вёдрамі па ваду.

Як жа тут вам паказаць яшчэ, думаем, што мы хочам у вас застацца? Плацім возніку і паказваем, махаючы рукамі: «Ганілля, Ганілля»,— значыцца — едзь сабе, едзь, а самі сядаем на свае куфэрачкі і мігамі кажам, што на іх будзем спаць. Кабета, выйшаўшая з вёдрамі, вярнулася, падышла да старога дзядулі і нешта сказала, на нас гледзячы. Тады старэнькі ўстаў, узяў нас за рукі, нешта па-свойму загаварыў і павёў нас з хаты праз сенцы ў другі канец дому.

Адчыніў дзверы, і мы ўвайшлі ў два пакоікі чысценькія, цёпленькія, як вуллі пчаліныя; сцены выклеены блакітным паперам, падлога памалявана, камоды, крэслы стаяць, на стале шыдэлковая сарвэта, у вокнах фіраначкі. Бухае агонь у печах, адна кабета ложкі нам сцеле, а другая — нясе каву, масла, пірагі, вараныя яйкі. Вады прынеслі мыцца, ручнікі

чыстыя павесілі; відно, што ўсё нарыхтавана ўжо для нашага начлегу.

Яшчэ не ўспелі мы пасіліцца, як увайшла бабуля, прывіталася з намі па-расейску ды кажа: «Кюмеляйны па мяне прыслалі, каб з вамі разгаварыцца, бо яны не ўмеюць па-расейску, а я дзесяць гадоў таму назад служыла ў Пецярбурзе за кухарку — дык крыху прылажылася».

Зараз уся сямейка Кюмеляйнаў сабралася. Мы ўсе паселі, бабулю пасадзілі пасярэдзіне, дзядуль падкінуў у печку дроў, і пачалася гутарка. Найперш гаспадары сказалі праз бабулю, што годзяцца, каб мы ў іх жылі, абяцалі тое, а тое даваць есці і столькі, а столькі назначылі плаціць. Цана была такая малая, што прыйшлося толькі зразу згадзіцца на яе і пекна падзякаваць. Пасля расказалі, колькі ў іх сямейцы чалавек і хто дзе жыве. Даведаліся мы, што старшы сын у Амерыцы, паказалі нам яго фатаграфію. Бацька, гэты самы дзядуль, аб каторым раней успаміналі, стукнуўшы пальцам у партрэт сына: «Хюве пойка!» — сказаў,— харошы хлапец, значыцца. Маленькі хлопчык Таўно, думаючы, відаць, нам дагадзіць, спранжыновагаваўчка пусціў. Прынеслі цукеркаў поўную талерку, бо, як пасля даведаліся, стары Кюмеляйн трымае крамку. Бабуля-каваліха адвітаўшыся запрасіла да сябе ў госці, а калі патрэба будзе аб чым пагаварыць, то каб па яе падсылалі мы, але хіба такой патрэбы не будзе, сказала на астатак, бо вернецца дачка Кюмеляйна, што паехала да мястэчка, а яна ўмее крыху гаварыць па-расей-

ску: у іх з Харкава так рок жыла нейкая паненка — Мар'я Васільеўна, дык ад яе Мары навучылася.

Праўда, і стары дзядуль Янко некалькі слоў знаў па-расейску, ды відаць яшчэ хацеў павучыцца, бо, ходзячы па пакоіку, тыкаў пальцам у кожную рэч і дапытаваў: «рускі?» Мы казалі: печ, стол, лямпа, крэсла; а ён нам па кожную гэткую рэч называў па-фінску. Пасля — на дабранач, сказаў: «Хювэсці!» — значыцца — усяго добрага, і выйшаў.

## *У Кюмеляйна*

Назаўтра нас абудзіў сланечны ранак. Выглянулі мы праз акно — лес блізка стаяў, улева — замерзлае возера. Вуліцай хлопчыкі і дзяўчынкі з кніжкамі ў торбачках да школы беглі. Мары, вярнуўшыся з мястэчка, прасунула галаву праз дзверы: «Хуомэнта»,— дзень добры аддала і стала дапытываць: «Кофе, кофе? хоцэце? хоцэце?» Мы патакнулі галавой, што хочамо. На тацы, накрытай сарвэткай, прынеслі каву, жбанок паранага, гарачага малака, яйкі, масла і смажаную кабаніну з бульбай паранай.

Паснедаўшы, мы выйшлі абглядзець будоўлю і ўсю гаспадарку Кюмеляйна. Хата, дзе самі жывуць Кюмеляйны, у каторай учора мы былі, але ў такой тарапаці добра ўсяго не разгледзелі, на падлозе, чатыры вялікія акны, пяць вузенькіх драўляных ложкаў стаіць на вішнёва памаляваных, нанач яны расцягваюц-

ца — шырокімі робяцца. У старых — коўдры аўчынкамі падбіты, у маладых — вайлаковыя.

Дзве шырокія нізкія бэлькі ідуць праз усю хату: адна — уздоўж, другая — упоперак; на іх вешаюць адзенне, калыскі, кладуць гаспадарскія прылады, як сякеры, свідры, гэблі; у покуццю дзве да сцяны прыбітыя шафкі, у іх ляжаць кніжкі, газеты.

Такая ў старане ціхая вёска, як Лоттала, мае два разы на тыдзень пошту; кожны гаспадар выпісвае газету, а то і дзве; каторая газета дарагавата, то згаворываецца двох-трох суседзяў, што бліжэй жывуць ад сябе, і выпісываюць газету супольна. Чалавек сумысля наняты круглы год, прыносе пошту два разы на тыдзень; разам з тым ён прадае маркі, адкрытыя пісулькі, забірае напісаныя лісты.

Цікавы такі фінскі паштальён якраз ось прыйшоў. Вялікая раменная торба набіта туга газетамі, лістамі; развозіць ён гэту газету на «келках».

Келкі — гэта такія саначкі: два жалезныя палазы з паўтараця аршына даўжынёй; на палазах умацована крэсла, на каторае паштальён кладзе свае клумкі, сам апіраецца на поручы крэсла і стае нагамі на палазы; адной нагой полаз падпіхне, значыцца падтаўкне, каб келкі крануліся з месца. А як у Фінляндыі дарога няроўная — з горкі на горку, то як дзе разгоняцца такія келкі, дык шпарчэй шыбкага каня бягуць. Шмат фінаў на торг, вакзал, да кірхі гэтак едзе. Жонку нават часта або дзіця пасадзіць на крэсла, сам стане на палазы і гайда ў дарогу; пад горку, праўда, прыходзіц-

ца адной нагой падпіхаць, але затое з горкі як ляціць!

Паштальён прывёз газету, ліст з Амерыкі ад сына Янко, выпіў кавы і паехаў на келках далей. Мы кончылі абглядаць хату. У шафцы шмат кніжак гаспадарскіх. На месцы нашага ложачніку — каля парога — стаіць шафка з суддзём: сподкі, кубачкі, талеркі, паўміскі, відэльцы, толькі кілішкаў няма, бо фіны не п'юць ніякіх трункаў. Найцікавейша — печ: вялікая, высокая, ажно пад столь, толькі адзін кот туды можа ўзлезці, а фін, хоць і мае зіму ў паўтара разы даўжэйшую і зімнейшую, чым у нас, аднак на печ ніколі не лезе. Падпечку таксама няма,— куры зімуюць разам са скацінай у хлеве. У печы фінляндка-гаспадыня паліць раз у дзень — зрання; нічога ў ёй не варыць, толькі хлеб або пірагі пячэ. Усенек жар выграбаецца ў прыпечак; прыпечак у сярэдзіне пусты, зверху накрыты таўстой бляхай з фаеркамі; да жару дроў падкідаецца, на фаеркі ставяць гаршкі, варыцца страва. Пад прыпечкам ніколі агонь не гасне, кава праз увесь дзень стаіць гарачая. У фінляндцаў ёсць звычай кожнага прыйшоўшага чалавека пачаставаць кавай. Усё роўна як наш чалавек, увайшоўшы ў чужую хату, зараз закурывае люльку, так у фінаў свежы чалавек зараз сядае за стол і каву п'е.

Сенцы на падлозе, пры сенцах камора таксама на падлозе, пры сценах каморы паробленыя палічкі, шуфлядкі, панасыпаныя крупамі, мукой; вада ў цэбры стаіць, абрусікам накрыта; ганак — з лавачкамі. Напроць хаты стаіць

з ганачкам свіран даўгі, раздзелены на колькі станцяў; да кожнай з іх вядуць асобныя дзверы. У адной станцаі фін хавае збожжа, у другой — куфры, адзенне, у трэцяй — ложкі, дзе летам спяць; болей на хатнім падворку нічога няма; на другім упоруч падворку стаяць вазоўня, стайня, хлеў. У хлеве Кюмеляйн мае шэсць каровак, бычка, двое цялятак; у малым хлеўчыку — з дзесяць авечак. Скаціну дагля-даюць толькі кабеты; мужчыны — коней. Кароў кормяць трасянкай, у каторай больш сена, чым саломы, бо сенажацяў маюць фіны даволі, а збожжа сеюць нямнога — трудна там зямлю адваяваць у скалаў і азёраў. Пояць скаціну ў хлеве пойлам: вада, падкалочана мукой. Ваду на саначках з недалёкае студні падвозяць: адна кабета саначкі цягне, другая — падпіхае.

Мы кабетам на падмогу падаспелі — саначкі ажно забурчэлі.— «Харасо, харасо!» — пахвальвае нас Мары. Напаіўшы, пачалі кароў часаць згрэбламі. Каровы так прывыклі, што самі выцягваюць шыі яшчэ здалёк.

Хлеў мае тры вокны ашклёны. Падсцілаюць жывёле насушаным улетку торфам. Зімой толькі гэты торф рэжуць у спецыяльнай сячкарні. Мы і торфу памаглі нарэзаць. Кабеты — як мага — разгаварыліся. І дачка Кюмеляйна Мары завецца і сынавая — Мары. А муж Мары — значыцца сын дзядулі Янкі — завецца Іван. Іван тут жа каля коняў пахаджвае. Пытаем, а ці б'юць у вас мужчыны кабет? — «Эй-эй! — не-не!» — адказваюць з нейкім не то дзівам, не то страхам: як то мужчына асмеліўся б на кабету руку падняць?

Пасля, як мы ўбачылі, фіны таксама і дзяцей ніколі не б'юць. Дзіця проста не разумее, што гэта знача, калі на яго замахнуцца або дзіцяці пагразіць. Толькі ж і дзеткі, праўду сказаць, іншыя зусім там, як у нас: дзіцяці нават у галоўку не прыходзіць, каб яно магло старшага не паслухаць або са старшым дражніцца.

Пасля абгледзелі мы яшчэ лазню, па-фінску — «саўна». Стаіць за гародам; нішто хатка — з комінам, з вокнамі; усярэдзіне палок зроблены. Печ каменная, яе награваюць, пасля мокрымі венікамі пырскаюць на распаленыя каменні, пара бухае, і лазня гатова. Фін вельмі любіць лазню; парыцца ў ёй разоў тры на тыдзень; нават дзяцей малых-аднагодкаў з сабой забірае. Парачыся, фін не раз выскача на мароз, астыне, пасядзіць на снягу, ды зноў у лазню і гэтак гартуюцца. Фін дроў не шкадуе, бо мае лесу даволі.

Саўна яго ўжо ад паўдня паліцца, каб да вечара добра нагрэлася. «Саўна! Саўна!» — кожны раз дзядуль Янко нас заахвочываў у лазню. Мы са смехам пыталі: «Што, дзядуль, ізноў лазня?» — «Ю-ю-ю!» — Так, так,— ададказваў, смеючыся.— «Хюве! Саўна!»

### *Будні дзень у фінаў*

У Кюмеляйна, акром дачкі Мары і сынавой Мары, ёсць яшчэ сястра незамужня — Катры і старая 96 гадоў цётка, бабулька сухая, зморшчаная, скручаная, не мяркуючы, як лупіна з

цыбулі. Глянеш ды падумаеш: от чалавека і смерць забыла і жыццё не хоча.

Дзеці, унукі паўміралі, асталася адна; прадала гаспадарку за 10 000 марак і ў братняга сына свой доўгі век дажывае. Жыве ў пачоце, нічога не робіць. Малая Галена штораз бярэ бабулю за спадніцу і вядзе да стала есці. Абедзве нічога не робяць, часам нат супольна забаўляюцца.

Малодшыя кабеты ў хаце Кюмеляйна, як і ўсе фінкі, найбольш часу свайго трацяць на дагляд скаціны: трасуць трасянку, пояць, дояць каровак, а ў кожнага гаспадара іх штук шэсць, а то і больш. Масла ў фінаў вельмі добрае, тварог смачны, але сыраў няма звычаю рабіць — так і з'ядаюць тварагом, а то найбольш квасным млекам або выпіваюць салодкім.

Шмат часу займае папратванне ў хаце: мыццё пасуддзя, чышчэнне гаршкоў; штосуботу мыюць падлогі ў хаце, каморы, сенцах; пасцелі на падворку ветруцца; мядзяныя імбрычкі вычысцяць, як люстэрка, хоць ты прыбірайся перад імі.

Каля дзяцей таксама шмат работы; але ж і гадуюцца яны там па-панску. Каптурчыкі гафтаваныя, кашулькі з анталяжамі, у панчошках, чаравічках, сукеначкі кароценькія. Калысачка, або ложачка, чысценькае; каўдэрка белай посцілкай падшыта. Толькі падушкі шмат горшыя ад нашых: малыя, як кулачкі, напханы курыным або дзікіх качак пер'ем, і то, здаецца, нядраным.

Фінскія кабеты блізка што зусім не прадуць; лён там не родзіць. Воўну калісь пралі

на сукно і ткалі, але цяпер карысней аддаваць яе на фабрыку, дзе за невялікую плату пераробяць на сукно, каторае вельмі падобна да нашага самадзялковага сівога сукна, але крыху цянейшае.

З сукна толькі мужчыны робяць сабе адзенне, кабеты апратаюцца ў крамнае. Кожна гаспадыня — кабета мае ножную машыну да шыцця. Дзяцей і сябе абшывае сама. Панчохі і рукавіцы робяць у хаце і ўжо на іх прадуць воўну самі на калаўротах — лежаках. Праснііцы прыладжаны да калаўроткаў; на праснііцах некаторых шмат выразана ўзораў.

Мужчыны зімой найбольш працуюць у лесе. Рыхтуюць дровы на цэлы год, матэрыял на будову, платы папраўляюць, бо кожнага гаспадара-фіна лес навокал абгароджаны; улетку ў ім скаціна пасецца без пастуха. Папраўляюць будынкі, упражку, гаспадарскія прылады: вазы, драбіны, граблі, вілы і т. п. Сена прывозяць з сенажацяў далёкіх, бо сенажаткі фінскія знаходзяцца паводдаль ад сяліб, на іх пабудаваны адрыны. У Фінляндыі вельмі кароткія вясна і лета,— людзям тады нельга часу траціць на звозку сена да хаты.

Улетку фіны з сяліб выязджаюць усе на поле — там днююць і начуюць. Хат толькі старэнькія ды дзеці пільнуюць. У Кюмеляйна ёсць таксама такая хата за вёрстаў чатыры ад Лоттала, стаіць у ёй стол, два пустыя ложкі, шафа, печ. Кругом цягнуцца ніўкі. Малоцяць збожжа ручной малатарняй, спярша падсушыўшы яго ў сушнях.

## *Што ядуць фіны*

Фіны-сяляне куды лепш ядуць ад нашых сялянаў-беларусаў. Фін разы з чатыры на дзень п'е каву. Штосуботу пякуць пірагі. Зімой мяса ядуць тры разы на дзень: снеданне, абед і вячэру. Найчасцей мяса падсмажваюць з бульбай або вараць з рыжовымі крупамі. Фінкі-гаспадыні кілбасаў не робяць; вяндліны, а таксама сланіны і сала на лета ў запас не прыгатаўляюць. Усё мяса з'ядаюць за зіму, а летам толькі малаком жывяцца. Фін запасу з яды рабіць не любе: што мае — тое зараз спажывае.

Зімой на снеданне робяць каву, смажаць мяса, параная бульба і кваснае млека. Ніколі абіранай бульбы з соляй не вараць. На абед — каша з рыжу, мяса, млека кваснае, салодкае, паранае і капуста або рэдзенькі з журавін кісель. Яду заўсёды фін запівае або малаком параным, або квасам хлебным. Хлеб пякуць маленькімі булачкамі, як пірагі, такія смачныя. Пасля абеду — на падвячорак — каву п'юць з млекам, часам з булкай і маслам, часам толькі чыстую каву. На вячэру зноў мяса, млека кваснае, бульба.

Без млека, асабліва без кваснага, фін не сядае за стол. Быў калісьці час, што фіны толькі квасным млекам і жылі. Каровак у кожнага гаспадара даволі.

## *Нядзеля*

Дзядуль Янко сядзіць у адным кутку і чытае біблію ўголас, а Мома — цётка дзядулі, аб каторай ужо і смерць забылася — столькі мае гадоў бабуля — у другім куточку не чытае, а пяе ўголас з бібліі. Голас выходзіць ні то з-пад зямлі, ні то ката ў мяшку, але ніхто не смее закпіць з бабулі; я не вытрывала і — каб не засмяяцца, ледзь уцякла з хаты.

Кабеты ідуць на сход таварыства біблейскага. Моладзь робіць платныя вечарынкі, з каторых даход адкладаецца на новую школу ў Лоттала. Хочуць зрабіць сад пры вучылішчы, каб дзеці заахвочываліся і ў сябе садзілі дрэўкі, бо дагэтуль у Фінляндыі няма садоў — клімат надта суровы. Аднак некаторыя фруктовыя дрэвы маглі б і тут радзіць. Дык усё сяло Лоттала хоча і ў сябе ў будучыні завесці сады.

Аднае нядзелі папрасілі мы каня, каб паехаць да кірхі. Іван закратаўся; сам прыбраўся ў сівое адзенне суконнае. Мне далі суконныя барлячы, рукавіцы. Паехалі. Дарога санная — як люстра...

Да мястэчка Яські 14 вёрст. Лес і лес. Вёска Лоттала даўжынёй вёрст з восем цягнецца. У Фінляндыі няма такіх вёсак, як у нас. Там каля скалаў асобна сялібы папрычэплены; пасярэдзіне часам ляжаць азёры; адны да адных ездзяць у госці на чаўнах.

Прыехалі ў Яські. Вялікі жалезны мост перакінены праз раку Вуоксу. Рака быстрая;

ніколі не замярзае. Берагам рэчкі конікі пастаўлены, панакрываны цёплымі гунькамі, ядуць аброк з торбаў. Да коней фінскіх не падходзь: надта злыя — гатовы ўкусіць; большая часць — каштанаватыя.

Увайшлі ў кірху. Напалена цёпла. Сама кірха чысценькая — летась толькі аднавілі. Уся застаўлена лаўкамі. Народ — хлебаробы, ніводнага капелюха не відаць. Кабеты найбольш у белых хустачках, у чорных бурносах. Мужчыны ў шэрае сукно адзеты. Большая часць фінляндчыкаў светла-русыя, крэпкія, здаровыя, шчокі румяныя; маладыя хлапцы нізка стрыгуць галовы; старыя мужчыны носяць валасы даўгія пад скобку, як нашыя палешукі, наперадзе раздзелены.

У кірсе ўсе пяюць псалмы. Фіны ўсе лютэраны. Адзін пастыр адпраўляе імшу пры алтары, адзеты ў даўгую чорную сукню, як ксяндзоўскую сутану, толькі з фалдамі на плячах. Сам барадаты, таўсты. Другі — з амбоны казанне гаварыў; гэты — голены — падобны да ксяндза. Народ — як сцяна, спакойна слухае, ані вокам не міргне — і не спазнаць, што ў яго на душы робіцца, аб чым ён думае... Пяюць страшэнна нудна, аднастайна, як скала стогне, калі ў яе размерна біць молатам. Ажно галава закруцілася нам, не прывыкшым да такога пяяння.

Як выйшлі па набажэнстве, дык кожны адразу ў санкі сеў і «но, кося, дахаты!». Крамы ў свята зачынены, піўных — няма, гарэлкі — анізвання.

У нашага каня адляцела падкова, як толькі з вярсту ад'ехалі ад Яськаў. Іван зараз завярнуў каштанчыка; заехаў да аднаго каваля — няма ў хаце, заехаў да другога — няма; тады павярнуў управа, і паехалі мы да вёскі за вярсты дзве ад Яськаў — да сваякоў Кюмеляйна. Там нам зараз далі кавы; каню прыбілі падкову. Крыху пагрэліся. Першы раз напаткалі такога фіна: стары — гадоў 60, відно, бывалы і мову расейску добра знае, але не хацеў гаварыць па-расейску,— сказаў, што не любе. Мы яму растлумачылі, што мы не расейцы, паглядаў на нас жычліва, прасіў есці, піць, але гаварыць — не гаварыў — роўна запрысягнуў гэтай мовы не ўжываць. Адвіталіся і ўжо ўва ўсёй спраўнасці паехалі.

Трэба ведаць, што фін вельмі ацэньвае тую карысць, якую прыносе яму конь, і дзеля таго, як сябе самога, так даглядае каня. Пугі — ніколі не ўжывае. Конь падкаваны, вычышчаны, накормлены, накрыты, стайня цёплая.

### *Фінскі народ*

Фінляндыя гэтаксама ляжала паміж двума дужымі суседнімі гасударствамі, як і наша Беларусь.

Адзін сусед супольны быў і нам і фінам — гэта Расея. Другім суседам у нас была Польшча, а ў Фінляндыі — Швецыя. Фінаў, як і нас, то адзін сільны сусед браў у свае жалезныя рукі, то другі. І абодва суседы паводле свае

сілы і змогі стараліся быць дабрадзеямі-апекунамі. Швецыя раней стала панам у Фінляндыі; фінская шляхта паволі паперамяняла свае прозвішчы на манер шведскіх і ашведзілася. Мовы свае зраклася, пачала гаварыць па-шведску. Чыноўнікам туды і дарогу лёс клаў, каб у сільнейшага шукаць наград, чыноў і высокіх пенсій. Духавенства таксама стала на старане сільнейшых. Адзін народ толькі, учапіўшыся сваімі ніўкамі да цвёрдых скал, астаўся верным прадзедавай мове і прадзедавым звычаям. Ён, зліўшыся ў вялікую аднастайную народную масу, зажыў асобным сваім жыццём.

Фін, гледзячы ў дны сваіх чыстых азёраў, на светлае блакітнае неба, наяве сніў аб долі лепшай: у казкі, песні ўплятаў сваю мінуўчыну, слаўных дзядоў сваіх рыцараў, песціў несмяртэльнымі ўспамінамі ў сваіх сэрцах.

Гадоў сорак таму назад уся інтэлігенцыя смяялася, як над нечым дзяцінным, нязграбным і вельмі неразумным, над старадаўняй фінскай мовай. Але сыны фінскага народа, дабіўшыся да святынь высшай школы, дастаўшы высшую навуку, сказалі: не! Мы не дзеля таго дабіваліся аб сухім хлебе і вадзе, каб потым вам, паны, яе прадаваць за срэбнікі Юды! Мы — сыны мужыцкага народа, мы — унукі дзедаў — рыцараў хлебаробаў, каторыя адкладалі саху набок, пакідалі дзетак галодных, хапалі за меч і баранілі перад шведамі незалежнасць свае роднае старонкі: аб іх сведчаць

нашы цвёрдыя скалы, аб іх пяюць нашыя народныя песні. Мы праўнукі іх, мы з народу і застанёмся з народам!

І пайшлі да сваіх айцоў, матак, сёстраў, братоў з жывым свядомым словам: мы фіны — сумаляйны (значыцца: жыцелі балотаў, азёраў), мы любім свае балоты і возеры, скалы і горы, мы да іх падобны, наша мова да іх падобна. Мы — як усё цэлае — прадстаўляем характэрны цікавы куток і народ між іншымі краямі і народамі.

І фіны ўзяліся свядома да працы. Не адзін з торбай на плечах пайшоў па краю збіраць песні народныя, казкі, легенды. Як толькі гэты матэрыял быў сабраны і аддрукаваны, шляхта ажно здзівілася вялікаму багаццю душы народнай.

Бяздоннай крыніцай паэзія біла з песень, з казак, з легенд; жалезная сіла і любоў да роднага краю з народных твораў вызірала. Тады зразумелі, што гэта не забава, што з гэтай сілай трэба лічыцца. Вось дзе пан і гаспадар краю: хлебароб, што сэрцам прыпаў да каменнай глебы і працай любоўнай просіць ад яе хлеба.

Фінляндскі народ цяпер займае шчытнае месца паміж культурнымі народамі. Фінляндскі універсітэт штогод з сваіх сцен выпушчае маладую армію сыноў хлебаробаў, каторыя ідуць у народ і працуюць з забыццём шчасця свайго *я*. Народа шчасце — іх шчасце. Фінляндскі народ першы ў Еўропе прызнаў роўныя правы кабетам. Кабета-матка — свядомая

фінляндка-патрыётка — яшчэ ў калысцы пачне навучаць свае дзеткі любіць родны край, родны народ, любіць і паважаць справядлівасць роднага народа. І ніякая сіла перарабіць цяпер фінскі народ на іншы капыл — ужо не здолее, бо свядомасць народа, культурнасць яго стаяць вышэй усякай сілы.

*1914*

# ЯК НАМ ВУЧЫЦЦА

Цёмны наш народ тутэйшы, цёмны мужык-беларус. Часта бацькі праз цямноту сваю не хочуць даць дзеткам навукі, не хочуць пасылаць іх вучыцца ў школу, а і школ у нас нястачa — хоць бы і хацеў, то ўсіх дзяцей у іх памесціць не зможаш. Даўно ўжо шчырыя прыяцелі народу стараліся і стараюцца шырыць навуку між цёмных людзей. Цяжкая была іх праца, цяжка вучыць без школ — каб адкрыць школу для дзетак, трэба было мець дазваленне ад начальства, а начальства не кожнаму давала яго.

Але цяпер настaлі лепшыя часы: зразумела і правіцельства, зразумеў і сам народ, што, каб палепшыць цяжкое жыццё ўсіх працуючых, трэба перш-наперш даць ім навуку, даць можнасць вучыцца ўсім нашым дзеткам, каб пасля кожны мог добра чытаць і карыстаць з таго, да чаго дадумаліся і што напісалі вучоныя людзі. Правіцельства прыгатавала праект устройства агульнага абучэння, каб усе ў нас былі граматныя — і кабеты, і мужчыны. Дзеля таго кожны, хто разумее карысць навукі для народу, павінен добра падумаць і сказаць сваё слова аб тым, якія мусяць быць новыя начальныя народныя школы, што правіцельства будзе адкрываць.

Усім добра вядома, што ўжо многа лет, як правіцельства прыказала, каб у народных школках іначай не вучылі, як толькі па-расейску. Хацела яно гэтакім парадкам абрусіць усе народнасці і палажыла запрэт на навучанне ў іншых мовах. А якая з таго карысць — кожнаму ведама. Усюды дзецям цяжка навучыцца чытаць, але ў нас горш як дзе — і не дзіва. То ж нашы дзеткі-беларусы маюць у школах адразу дзве работы: адна работа — гэта пазнаць знакі-літары, навучыцца складаць з іх словы, а другая работа — адначасна навучыцца разумець і гаварыць па-расейску, бо ў школе вучыцель усё тлумачыць толькі па-расейску, а гэтай мовы дзеці не знаюць, ніколі ў хаце ад бацькоў не чулі, яна для іх чужая. Вось і выходзіць, што пакуль дзіцё не пазнае расейскай мовы, то ў школе нічога не разумее, што кажаць вучыцель, і сядзіць, як баран. Ходзіць да школкі год, два і тры, а як скончыць яе, то ледзьве-ледзьве чытаць можа, дый то скора забывае.

Так вось, калі пачнуць у нас увадзіць новыя начальныя народныя школы, трэба, канечне, каб дзяцей у іх навучалі па-беларуску, каб тлумачылі ім усё па-тутэйшаму, па-свойму, як дзеці гавораць у хаце з бацькамі і як ім найлягчэй разумець. Тады дзеці і чытаць скарэй навучацца і пазнаюць лягчэй іншыя мовы — расейску ды польску. Дзеля таго ўсе беларусы і ўсе, хто хоча даць народу праўдзівую навуку, павінны дамагацца для беларусаў *беларускай начальнай школы.*

Цяпер, як народ дастаў крыху свабоды,

кожная народнасць стараецца скарыстаць з яе як найбарзджэй і як найшырэй. Літоўцы, палякі, жыды і ўкраінцы — усе збіраюцца з сіламі і заводзяць свае школы на роднай мове: палякі — польскія, літоўцы — літоўскія, жыды — жыдоўскія. Адны мы, беларусы, неяк кепска стараемся аб сваіх школах. Нашы дзеткі ўсё яшчэ вучацца не вельмі панятнай для іх мове; розніца толькі тая, што каталікі цяпер ахвотна пасылаюць дзяцей да польскай школы, праваслаўныя — па-стараму — да расейскай. Чаму ж няма ў нас сваіх беларускіх школ?

Доўга мы, беларусы, цураліся сваёй мовы і, як кажуць, хаваліся з ёю за печ перад чужымі людзьмі. Вось і зладжылася нейкая дурная пагаворка, што наша мова хамска, брыдка, што на ёй не можна гаварыць з вучоным чалавекам, ані пісаць кніжак, як на іншых «далікатных» мовах. Але гэта толькі выдумка. То ж дзве-тры сотні гадоў таму назад усе законы і ўсе казённыя паперы пісаліся ў нас няйначай, як на нашай мове. Во і цяпер бачым, друкуюцца кніжкі, выходзіць ужо другая газета, ідзе перапіска з вучонымі — усё па-нашаму. І ніхто не смяецца, ніхто не плюе на нашу мову — наадварот, суседзі-літоўцы, палякі, украінцы спрыяюць нашай справе і жычаць спору ў рабоце.

«Шмат было такіх народаў,— кажа пясняр беларускі Мацей Бурачок,— што страцілі наперш мову сваю, так, як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай, белару-

скай, каб не ўмёрлі! Пазнаюць людзей ці па гаворцы, ці па адзежы, хто якую носе; ото ж гаворка, язык і ёсць адзежа душы».

Можа хто спытаецца: а ці ёсць якія кніжкі да навукі? Вото ж скажам, што ёсць — праўда, мала, небагата, але не забывайце, што толькі першы год, як нам, беларусам, дазволілі друкаваць кніжкі па-нашаму, такімі літарамі, якія нам патрэбны — і польскімі, і рускімі (раней дазвалялі друкаваць толькі рускімі). Мала кніжак, праўда, але яны ўсё прыбываюць, і цяпер ужо можна вучыць чытаць дзяцей па-нашаму, бо ёсць і «Лемантар» і «Першае чытанне для дзетак беларусаў» (друкаваныя і польскімі і рускімі літарамі), а, дасць бог, хутка будзе болей, каб аб усім, што чалавеку патрэбна, можна было прачытаць у сваёй роднай мове.

*1906*

# БЕЛАРУСКАЯ ВЕЧАРЫНКА Ў ПЕЦЯРБУРЗЕ

*(Ад карэспандэнта «Нашае нівы»)*

Наша нацыянальнае адраджэнне расце, і крэпне, і з кожным днём ідзе ўперад усё больш і глыбей, далей і шырэй. Разам з тым і працы нам прыбывае ўсё болей і болей. І вось бачым, як лучацца беларускія культурныя сілы і пабратняму дзеляць між сабой тую вялікую працу для роднага краю: хто бярэцца за гісторыю Беларусі, хто — за этнаграфію; іншага цікавіць народная літаратура, іншы зноў хоча засесці да філалогіі і археалогіі, а той працуе над пазнаннем эканамічнага палажэння краю. Што з гэтага выйдзе, цяпер трудна сказаць, шмат ёсць толькі ахвоты, надзеі, веры, планаў,— і работа ідзе.

Ідзе работа цяжкая, мазольная. Возьмем хаця б тыя вечарынкі і ігрышчы, што апошнімі днямі рабілі беларусы ў Вільні, Слуцку, Гродні, Пецярбурзе. Гэта не былі звычайныя гулянкі: гэта была сур'ёзная культурная праца. Гуляць адно для забавы, быццам матылёк на сонцы, можа толькі народ з вялікай культурай, бо ён мае ўжо арганізаваныя тэатры, аркестры, хоры, музыку. А беларус што меў дагэтуль?

Вось у Пецярбурзе, закінутыя далёка ад роднай староնкі, беларусы не мелі нават апраткі сваёй. Дык кожны нёс, што меў, на першае

беларускае ігрышча: хто паясок з Магілёўшчыны, хто світку з Віцебшчыны, хто сарочкі з Гродзеншчыны,— і гэтак прыадзеліся. І дзіўна было і радасна, што блізка з кожнага куточка Беларусь прыслала свайго сына з дарам. Праўда, у дарах гэтых многа было латаў, дзір, дзёгцю, але столькі сэрца, столькі ахвотнасці, а нават і смеху! Напрыклад, прыходзіць перад ігрышчам старэнькі шавец і прыносіць шапку з паломленым брыльком ды капшук да тытуню. Усе смяюцца і кажуць: «Дзядзьку, мог бы ты нам боты прынесці?» — «Не маю,— кажа,— што бог даў, тое аддаю. Васемнаццаць гадоў, як стуль... А што будзе, пэўне, надта смехатлівае прадстаўленне папросту?» — і круціць галавой старэнькі, не верачы, што пекна выйдзе.

А выйшла, праўды, пекна. Як загрымеў хор песню народную «Ой, пайду я лугам, лугам, дзе мой мілы арэ плугам»,— заплакаў стары: «Пекна,— зусім так сястра Ганна пяяла. Памерла ў тым гаду».

Першае сваё ігрышча сыгралі ў Пецярбурзе беларусы 19-га лютага (февраля). Насамперад пайшла камедыя Крапіўніцкага «Па рэвізіі». Пасля хор з 65 чалавек прапяяў некалькі народных песень. Тады выйшла беларуская паэтка Цётка і вельмі добра гаварыла вершы «Мае думкі», «Грайка», «Родны край». Далей пекна ігралі на віяланчэлі, на скрыпцы,— ізноў была дэкламацыя і песні, а закончыўся канцэрт беларускімі народнымі танцамі. Добра скакалі «Юрку», «Лявоніху», «Качара».

Народу было многа, як беларусаў, так і чужых гасцей. Найбольш спадабаліся ўсім хор, дэкламацыя і танцы, бо для беларусаў гэта было роднае, а для гасцей — першыня. Але і іншыя нумары праграмы былі вялікай артыстычнай вагі.

*ПЕЦЯРБУРГ*

# ЗБІРАЙЦЕ МАТЭРЫЯЛЫ АБ БАТЛЕЙЦЫ!

Вялікую заслугу зрабілі б людзі для народнай беларускай літаратуры, каб запісалі ўсё, што ведаюць аб батлейках, яслях, казе, мядзведзю, цыганах і т. д., у каторых адбілася і этнаграфія нашага краю, і гумар, і псіхіка нашага народа. Як на цяпер і пара да гэтага, бо падыходзяць каляды. Адкладываць гэтай работы нельга, бо батлейкі, яслі, мядзведзі, цыганы і т. д. выходзяць ужо з моды, а з імі сходзіць з народнай сцэны наш дагэтуль адзіны беларускі народны тэатр.

Вось на якія пытанні просім адказаць і прыслаць у рэдакцыю «Нашае нівы»:

I. Калі з батлейкай ходзяць?

а) у якую пару года і як доўга гэта трывае?

б) у якія дні і ў якую пару дня?

II. Як батлейку носяць?

а) ці на руках?

б) ці на колках?

в) ці на возіках?

III. Хто з батлейкай ходзіць?

а) якога веку: старыя ці маладыя?

б) якога стану (саслоўя)?

IV. Ці адзяваюць для гэтага асобнае адзенне?

V. Які даход дае батлейка?

а) ці цэны за прадстаўленне напярод назначаны раз назаўсягды?

б) ці ў форме гасцінца ад публікі?

VI. Апісаць саму батлейку:

а) як батлейка выглядае зверху?

б) у сярэдзіне?

VII. Памераць батлейку:

а) даўжыню;

б) шырыню;

в) вышыню.

VIII. Форма сцен, страхі, ганку, вокнаў, дзвярэй і колькі ёсць дзвярэй?

IX. Сколькі мае паверхаў (этажэй)?

X. З якога матэрыялу зроблена?

XI. Якія мае аздобы?

а) з якога колеру тыя аздобы?

б) які рысунак (арнамент) аздоб?

в) з якога матэрыялу аздобы?

XII. Ці ёсць абразы?

а) дзе яны панаклеіваны?

б) каго абразы прадстаўляюць?

XIII. Сцэна (надта важна апісаць падзел сцэны).

а) ці сцэна толькі адна?

б) ці мо падзелена на дзве часці, так што і на адной і на другой палавіне ідзе ігра лялек?

в) а мо ёсць тры: адна, выклееная абразкамі (неба); другая — для ігры лялек; трэцяя, адкуль выходзяць чорт, смерць і др. (пекла).

XIV. Лялькі:

а) з якога матэрыялу, колькі іх, ці ўсе з адзінакавага?

б) мо чорт, смерць і другія з горшага?

XV. Ці хатняй работы ці куплёныя: загранічныя, краёвыя?

а) якія: з чаго і якога цвету вопраткі?

XVI. Калі ёсць наклееныя бароды, вусы, валасы на галаве, то з чаго і якога цвету?

XVII. Кудою і якія лялькі ўходзяць і выходзяць?

XVIII. Мо апроч лялек і жывыя асобы граюць, дык апісаць іх лічбу, выгляд і вопраткі.

XIX. Запісаць, што гавораць у батлейцы (тэкст), слова ў слова, не змяняючы,— хоць будуць спатыкацца словы непанятныя — без толку.

XX. Як словы перадаюцца: спевам, расказам?

XXI. Хто іх кажа?

XXII. Ці словы запісаны, ці гаворацца з памяці?

XXIII. Да якога стану, сказаўшы агульна, публіка належыць (шляхты, паноў, мужыкоў)?

XXIV. Да якой забавы батлейкі можна прылічыць: вясковай, дворнай, мястэчковай, школьнай?

XXV. Адну і тую батлейку, калі можна, запісаць з розных часоў з усімі пераменамі.

XXVI. Запісываць і цяперашнія батлейкі і даўнейшыя.

XXVII. Запісываць хоць адрыўкі, часці даўнейшых батлеек, хоць толькі апавяданне (успамін) аб іх са слоў старых людзей.

XXVIII. Запісаць імя, прозвішча, век, заняцце, вёску расказчыка і запісчыка.

XXIX. Калі хто можа, дык вельмі добра сфатаграфаваць батлейку, зрысаваць арнаменты, зрабіць план. Запісваць яслі, казу, цыгана, мядзведзя трэба таксама, як батлейку,— значыць, усестаронна, не прапускаючы нічога.

# ДА ВЯСКОВАЙ МОЛАДЗІ БЕЛАРУСКАЙ

Вясковая моладзь беларуская! Хлопцы і дзяўчаты. Маладыя працаўнікі!

Пэўна, вось і цяпер стаіцё пры якой працы. Хлопцы, калі трымаеце цэп у сваіх руках, пастаўце яго набок! Калі рэзгіны, пачакайце накладываць трасянку! Дзяўчаткі, адсуньце ад сябе на хвіліну прасніцы! Пастушок, не спяшай каровак паіць! На мінутку станьце і паслухайце зважна.

Не такія ўжо вы цёмныя, як аб вас людзі кажуць. Не такія закарэлыя, як суседзі думаюць. Глянь толькі на сябе, вясковая моладзь беларуская: вочы ў вас усіх сінія, жывыя, бліскучыя; твары румяныя; чупрыны русаканапляныя. Хлопцы — ростам моў дубочкі, а дзяўчаты — так, як мальвы. Чым сваёй красой яны горшы ад дзяўчат у іншых краёх? А таксама, калі глянуць на вас пры рабоце ў полі вясной або ўлетку: работка гарыць-кіпіць у вашых руках, сошка пяром зямлю піша, каса гуляе ў густым лузе, серп, як брытва, знімае спелу ніўку. Песня кругом гудзе. А якія ўзоры на кроснах ткуцца — плаценкі, ручнікі, кужэлі! Або казкамі-пагаворкамі калі пачнеш між сабой перасыпацца — колькі ў іх розуму, жыцця!

Моладзь вясковая! Няпраўда: ты не закарэлая, не цёмная. Здароўем ад цябе і радасцю

лунае. Цікава ты пазіраеш на свет: шмат чаго хацела б ведаць, пазнаць, зразумець. Не хватае табе толькі навукі: навукі свабоднай, навукі зразумелай, навукі ў тваёй роднай беларускай мове, каторая табе паказала б, раз'ясніла б, хто ты такая, беларуская моладзь, да якога ты належыш народу і краю. Чым твой Народ Беларускі быў, чым цяпер ёсць і чым можа быць у будучыні. Што ты, вясковая Моладзь Беларуская, можаш вялікага, цэннага, дарагога зрабіць для свайго Народу і для свайго Краю апроч заворвання і засявання палеткаў.

Моладзь Беларуская — вясковая! Хатка твая цесная, ваконцы ў ёй затуманены імглою. Няшмат Ты маеш святла. Дзеля таго да Цябе будзе прыходзіць гэта «Лучынка». Павэдлуг сіл сваіх і можнасці будзе яна старацца пасвяціць Табе, адгадаць Твае думкі, падглядзець, чым Ты найбольш цікавішся, і даць на ўсё адказ, растлумачыць розныя з'явы прыроды, каторыя выдаюцца Табе часта таемнымі. «Лучынка» пазнаёміць Цябе з жыццём зямлі, з багацтвамі ў яе нетрах, скажа, адкуль узяліся рэкі, возеры, моры, і пакажа, якія скарбы ў сабе крыюць горы, як якія зверы, птушкі, расліны жывуць.

«Лучынцы» прыйдзецца часта гаварыць аб чалавеку, каторы стаўся панам і валадаром зямлі. Лік людзей усё больш і больш павялічываецца. Дабыванне куска будняга хлеба робіцца цяжэйшым,— і розум людскі шукае выхаду з цяжкага палажэння. Жывая мысль бурліць і рвецца ўперад. Кожны дзень прыносіць но-

выя адкрыцці. З кожным днём запрагаюцца новыя сілы прыроды да працы для чалавека. «Лучынка» Цябе, Моладзь Беларуская, будзе аб гэтых здабычах навукі паведамляць.

Ёсць такія народы і краі, каторыя ўжо патрапілі скарыстаць з усіх здабыч навукі. Там голад, цемната і несправядлівасць ужо не маюць для сябе шмат мейсца, і там людзі працы гаротныя злучанымі сіламі ўмеюць пастаяць за сваю лепшую долю. «Лучынка» будзе прыглядацца да болей цікавых момантаў у жыцці такіх народаў і прыносіць аб іх весці Табе, Беларуская Моладзь вясковая.

Але перад усім і над усё «Лучынка» будзе старацца заглянуць у кожны куток нашай роднай Беларускай Старонкі, пазнаць усе яе балючкі, паказаць іх Табе, Моладзь, і растлумачыць, якім спосабам можна з гэтых балючак вылечыць Родну Старонку.

А Ты сама, Беларуская Моладзь, прыгатуй сваё сэрца, душу і рукі да працы для роднага Народу.

Пазнай і зразумей, хто Ты такая, Моладзь, што Ты можаш зрабіць, якія твае сілы, якая мэта твайго жыцця,— які Ты можаш і які павінна даць адвет перад новым пакаленнем, што ідзе за Табой, і перад вякамі гісторыі.

Беларуская Моладзь вясковая! Гледзячы на цябе, верыцца, што жыцця свайго не змарнуеш, што патрапіш пастаяць за долю свайго пакрыўджанага Народу і працай штодзённай паложыш падваліны пад лепшую, яснейшую яго будучыню.

# ШАНУЙЦЕ РОДНАЕ СЛОВА!

Роднае слова!

З малых дзён чуем мы цябе з матчыных вуст. Ты нам тлумачыш усе дзівы свету, якія дзіцячае вока бачыць навокал сябе першы раз. І табе выказваем мы свой дзіцячы жаль, крыўду, жаданне, радасць...

Што можа быць даражэй сэрцу чалавека, як у сталых гадах пачуць цябе, роднае слова, у чужой старане? Здаецца, быццам з далёкай чужыны пераносіш ты нас у родны край — родну вёску, дзе мы ўзраслі, дзе першыя думкі складалі, дзе гора і радасць першы раз спазналі...

Чаму ж, роднае слова, гэтак часта забываюць цябе людзі — нават тут, між сваімі? Чаму сыны нашага народу так лёгка адракаюцца ад матчынай гутаркі?

Кажуць: бо цёмны нашы беларусы. Але гэта няпраўда: забываюць родную мову, адракаюцца бацькоў і братоў сваіх найбольш тыя, хто дайшоў навук, выйшаў у людзі. Яны няцёмны: яны пераймаюць чужое — дзеля карысці.

У сэрцы такіх людзей загасла любоў да свайго народу і роднай мовы. Дачэсная карысць, жаданне пашаны ў чужых, смешны го-

нар — усё гэта заняла мейсца ў апусцеўшай іх душы. А за іх прыкладам і наша вясковая моладзь, наламываючы сябе, пачынае праз несвядомасць чурацца таго, што яе выдзяляе з паміж іншых народаў, пачынае глядзець на ўсё сваё, роднае чужымі вачыма, думаючы, быццам гэта добра, калі людзі «вышэйшых станаў» так робяць...

Але няма на свеце такіх скарбаў, што б вечна цешылі нашае сэрца. Хваробы, калецтвы, смерць паказываюць, якую малую цану маюць дастаткі, гонар, высокае становішча. Здрада, ашуканства — вось адплата за прыязнь і любоў да вышэйшых ад нас. Чым больш пазнаем мы свет, тым меншую цану маюць для нас яго скарбы, тым болей бачым благога, болей здзеку, крыўд і слёз...

Бедны той, хто, апрача грошы, апрача багацця, каторае пры першым няшчасці счэзне дазвання, не мае скарбаў вечных — скарбаў душы. Такі скарб, каторы ніхто і ніколі адабраць ад нас не здалее, гэта любоў да бацькаўшчыны, да свайго народу, да роднай мовы,— гэта вялікае мілаванне чалавека — слабога, пакрыўджанага.

Яркім полымем гарыць такая любоў у душы, саграваее яе, асвятляе дарогу ў жыцці. Хто любіць свой народ, хто ў кожным бачыць брата-чалавека, той не сагнецца перад крыўдай, перад здзекам: ён бачыць навакол сябе мільёны падобных сабе, і яго думкі, яго жаданні зліваюцца з думкамі і жаданнямі вялікай людской грамады. Такі чалавек ніколі не будзе адзін — самотны і пакінуты.

Але поруч з любоўю да сваіх братоў патрэбна яшчэ нешта, што злучае людзей у суцэльны народ — гэта родная мова.

Яна, быццам цэмент, звязывае людзей. Яна дае ім найлепшы спосаб разумець адзін аднаго, адной думкай жыць, адной долі шукаць. Хто адрокся мовы бацькоў сваіх, хто ўздзеў чужую апратку — той адышоў ад народу далёка-далёка. Ён чужы ў роднай вёсцы, у сваёй сям'і. І на яго браты глядзяць, як на чужынца...

Да нашай моладзі звяртаемся мы з гэтымі словамі. Вы, маладыя, найчасцей пападаеце між чужых людзей, што вашай мовы не шануюць, «простай», «мужыцкай» завуць. З вас часта насмяхаюцца, калі гаворыце па-свойму. І вы, чуючы гэта, пачынаеце саромецца матчынай мовы, свайго народу, сваёй радні. Так разрываецца тая жывая звязь, што злучае вас з беларускім народам. Аб ім вы забываеце. Чужых багоў прымаеце: чужую гутарку, звычаі, чужое імя.

Для сваіх вы прападаеце. Адны служаць чужым — бо свайго бога не маюць, бо ад вялікай грамады народнай адарваліся, як галіна ад дрэва. Другія — затым, што добрую плату даюць ім... Але няма такой заплаты, што дае забыццё ад здрады. Юдавы срэбнікі не ўцешаць іх, калі, змогшыся жыццём і няшчасцямі, захочуць яны знайсці спакой душы, сагрэць яе чыстай любоўю.

Быў у нас пясняр, што ў час спячкі народнай першы адважыўся клікаць беларусаў, каб шанавалі мову бацькоў і дзядаў сваіх. «Не кі-

дайце мовы сваёй, каб не ўмёрлі»,— пісаў Мацей Бурачок да беларусаў. І гэты вокліч збудзіў прыспаныя сэрцы. Народ прачнуўся. Ён пазнаў, хто ён. Родная мова яго — загнаная, пагарджаная — паднялася высока і стае ўжо поруч з «панскімі» мовамі. І здабывае пашану ў людзей: людзі бачаць, што мы яе шануем, што яна для нас мае вялікую цану,— ды самі пачынаюць інакш глядзець і на нас, і на яе.

На вас — моладзі — ляжыць вялікая павіннасць: развіваць далей родну мову, узбагачываць свой народ знаннем і культурай. Вы здабываеце навуку для сябе, дык дзяліцеся ёю з тымі, хто для вас цяжкай працай здабывае кусок хлеба. Толькі не кідайце роднай мовы: бо запраўды для свайго народу тады вы ўмёрлі!

Мейце сілу і адвагу дзяржацца роднага слова. Мейце смеласць усюды голасна казаць па-свойму. І, гледзячы на вас, асмеляцца і іншыя, зразумеюць, што шчырае сэрца беларускае б'ецца не толькі пад мужыцкай сярмягай, паверацъ у ўласныя сілы свае і пойдуць цвёрдай ступой да лепшай будучыны, да ясных зор шчасця народнага.

# ГАЗА

Праз шмат сталеццяў у нас, на Беларусі, свяціла лучынка. Яшчэ і цяпер дзе-нідзе па вёсках збіраюцца на папрадкі з кудзелямі дзяўчаты, маладзіцы; песні пяюць, казкі баюць. Найстаршая з кабет або каторае з дзяцей сцеражэ дзеда-лучніка: то вугаль абатрэ, то свежую лучынку ўшчэміць. Мігацяць іскры па хаце. Пры пламенку лучынкі складна родная песня плыве, казка баецца...

Але апошнімі часамі і зручней, і чысцей, і танней абыходзіцца людзям свяціць сабе газай (карасінай), каторая разам яшчэ з іншымі карыснымі рэчамі дабываецца з неачышчанай газы. Вось дзеля таго і пагутарыма крыху аб неачышчанай газе.

Аб гэтай неачышчанай газе ведалі ўжо дзве тысячы гадоў таму назад грэкі і рымляне і ўжывалі газу або як лякарства, або як свяцячы матэр'ял; у Паўночнай Амерыцы індыяны таксама знаді газу і ўважалі яе за найважнейшае лякарства.

Калі адкінуць з тысячу гадоў назад, то і на Каўказе мясцовыя людзі з выкапаных ямак або самародных крынічак бралі неачышчаную газу на шмаравідла да вазоў, налівалі ў чарапкі і, зрабіўшы кнот з нітак, свяцілі газай; гаілі ёю розныя балючкі.

Але для ўсясветнага ўжытку за неачышчаную газу ўзяліся толькі гадоў з 50 таму назад, як ужо людзі навучыліся добра ачышчаць газу і дабываць яе соткамі мільёнаў пудоў.

Найбольш неачышчанай газы маюць Паўночная Амерыка, Каўказ і, як нядаўна яшчэ паказалася, Японія; праўда, ёсць яшчэ і ў іншых краях неачышчаная газа: у Італіі, Румыніі, Малдавіі, Галіччыне, але ўжо не ў такой вялікай меры.

Неачышчаная газа дабываецца з зямлі. Пад зямлёй газа ў адным месцы глыбей, у другім — плыцей стаіць цэлымі сажалкамі, а нават часам возерамі. Дно гэткіх сажалак ці азёр глiністае і ўжо праз сябе не прапускае газу глыбей пайсці ў зямлю.

Каб дабыць з зямлі газу, трэба часам выкопываць вельмі глыбокія студні.

Ведама, як нялёгка ідзе гэткая работа нават у нас, калі хочам дастаць звычайную ваду і капаем студню толькі на якіх сажняў 5 углыбіню, ну дык што ж меркаваць такую работу, дзе трэба капаць студню, каб дабываць газу, не ў 5 сажняў глыбінёй, а ў сто пяцьдзесят або ў дзвесце.

Жартачкі — блізка на палову вярсты глыбіні! Для гэтакай работы патрэбны ўжо асобныя прылады. Дзеля гэтага над тым мейсцам, дзе маняцца капаць студню, ставяць аграмаднае — на чатыры бакі (як вяндлярня) рыштаванне; на гэта рыштаванне кладуць вал, на каторы наматываюць... ланцуг і да ланцуга прымацовываюць сцержань жалезны даўжынёй з паўсажня, а да сцержня прычапляюць

долата вагой з 15 пудоў. Пры рыштаванні ставяць паравую машыну, з помачай каторай круцяць вал з ланцугом, прычэпленае долата, то падымаючыся, то апускаючыся, дзяўбе ў зямлі студню; каб жа бакі гэтай студні не абсыпаліся, дык зараз устаўляюць у выдзеўбленую часць студні шырокую жалезную трубу. І чым глыбей ідзе работа студні, тым глыбей уціскаецца-забіваецца і сама труба; а калі ўжо ўся труба ўвойдзе ў зямлю, тады на гэту трубу ставяць другую трубу, пасля трэцюю, чацвёртую і т. д.

Пры рабоце, як толькі надзяўбецца зямлі столькі, што ўжо нельга больш дзяўбсці, тады адчэпляць долата, прывешываюць вядро і вядром выбіраюць і ачышчаюць са студні накапаны пясок; вычысціўшы, ізноў прывешываюць долата і далей дзяўбуць.

Такое капанне студні цягнецца некалькі месяцаў; але часам трапляецца, што трэба капаць год або і два, як долата пападзе на скалісты пласт зямлі. Капанне студняў абыходзіцца дзесяткі, а іншым разам і сотні тысячаў рублёў, гледзячы па рабоце.

Часам, калі газа залішне сціснена пластамі зямлі, то долата яшчэ не дойдзе, як ужо газа сама вырвецца наверх, долата, як трэсачку, адкіне ўбок і пачынае біць угару на 50—60 сажняў. Людзі на прыпадак гэтага здарэння ўвокал маюць загадзя выкапаныя сажалкі. Газа, падаючы з гары, трапляе ў сажалкі, адтуль ужо газу вычэрпываюць. Такая сілай вырваўшаяся газа часам можа даць вялізны капітал: напрыклад, у 1899 годзе фабрыкант Нобель

адзінаццаць мільёнаў пудоў начэрпаў з адной гэткай сілай вырваўшайся студні. Але, калі ў тую пору прытрапіцца агонь (што часта бывае), страхата тады, людцы! страхата! Полымя б'е аж пад самыя воблакі; дым чорнымі хмарамі закрывае неба; зямля ўвокал напаліцца; цёмна, душна, горача, проста нейкае пекла!

Але, як студню ўдасца пры капанні добра скончыць, тады мест долата прычапляюць вядро, у каторае лезе дваццаць — трыццаць пудоў газы, і гэтым вядром пры помачы паравой машыны чэрпаюць газу. За гадзіну, кажуць, вёдраў з сорак патрапляюць выцягнуць. З вядра газу выліваюць у вялізныя жалезныя кадушкі, каторыя могуць у сабе змясціць пудоў дзвесце пяцьдзесят газы. У кадушках газа адстойваецца: вада, пясок і іншыя зямлістыя часці асядаюць на дно. Пасля такую адстояўшуюся газу адводзяць трубамі часам нават ажно ў іншы гарадок за колькі вёрст (іншым разам гоняць газу больш дзесяці вёрст); там з трубаў пераходзіць у катлы.

У катлах неачышчаную газу моцна награваюць, каб яна кіпела і паравала, бо толькі парай ад газы аддзяляюцца ўсе яе...

Неачышчаная газа мае з дваццаць дадатковых часцей. Гэтыя часці бываюць і жыткаватыя (рэдкія), і густыя, і газавідныя, т. е. падобныя на паветра.

Некаторыя часці неачышчанай газы барзджэй награваюцца і аддзяляюцца, іншыя пазней. Напрыклад, пры 100 градусах гарачыні аддзяляецца *бензіна*, а за ёй ужо пры 200 гра-

дусах гарачыні аддзяляецца звычайная газа — *карасіна*, каторую мы палім у лямпах. Тады застаецца ўжо толькі гушча неачышчанай газы, з каторай дабываецца *мазут*. Мазут вельмі важная рэч, бо ім апальваюць фабрыкі, караблі, чыгункі.

Дальш — з астаткаў неачышчанай газы дабываюць розныя шмаравідлы, а ў канцы астаўшаяся гушча дае асфальт, каторым выліваюць вуліцы ў гарадах.

Неачышчаную газу ў катлах награваюць не толькі спадсподу і бакоў, але яшчэ і ўсярэдзіне. Катлы з неачышчанай газай пераплятаюць трубамі і праз гэтыя трубы прапушчаюць перагрэтую пару — такую пару, якую мы бачым над гатуючымся гаршком або самаварам, толькі пару перагрэтую прыгатаўляюць там асобным спосабам, і яна куды гарачэйшая ад звычайнай пары. З катлоў па прызначаных для сябе трубах аддзяліўшыяся парай ад неачышчанай газы часціны ідуць у халадзільні, там стынуць, і пасля ўжо іх развозяць у розныя стораны свету для ўсялякага людзям ужытку.

Цяперашнімі часамі надта шмат расходуецца неачышчанай газы; ведама, расшырыўся на свеце фабрычны промысл; звялічылася параходства; пайшлі ўсюды чыгункі; дзеля таго адзін Каўказ дабывае да пяцісот мільёнаў пудоў кожны год. І калі б гэту ўсю газу выліць у сажалку, то сажалка будзе мець вярсту даўжыні і шырыні, чатыры сажні глыбіні. Па ёй, значыцца, маглі б смела хадзіць параходы.

Каб жа вывезці з Каўказа ўсю дабытую газу — трэба на гэта семсот тысячаў вагонаў. Калі б гэтыя вагоны паставіць у рад адзін за другім, то яны занялі б даўжыню чатыры тысячы дзвесце вёрст. Гэта столькі дабываецца неачышчанай газы ў год на адным толькі Каўказе, а колькі ж па ўсім свеце? Падумайце, людцы!

Не дзіва, што і зямля плаціцца, дзе дабываецца газа, дарага. Дзеля прымеру раскажам аб адным чалавеку, каторы купіў сабе на Каўказе кавалачак зямлі за 500 рублёў. Зямля была дрэнная, нічога не радзіла, жонка пілавала чалавека, што патраціў дарма грошы, знаёмыя смяяліся. Але вось пачалі непадалёку дабываць газу; зараз накруціўся купец да чалавека і адкупіў зямлю за тысячу рублёў; праз колькі месяцаў купец перапрадаў зямлю за дванаццаць тысячаў; а яшчэ праз некалькі месяцаў гэты самы нягодны кавалачак зямлі прадалі за паўтара мільёна рублёў! Колькі ж мільёнаў дасць газа, дабытая з *гэтага* кавалачка зямлі?

Тое мейсца, дзе ёсць газа, можна лёгка пазнаць, бо ў крыніцах, возерах, сажалках вада тлустая, а з патрэсканай зямлі выходзіць газавая пара, каторая вельмі лёгка запальваецца: напр., на тым жа самым Каўказе, у мястэчку Сурганах, ёсць нават пабудавана святыня ў чэсць агню; туды калісь прыходзілі агняпаклоннікі з розных старон Азіі (людзі, што за бога прызнавалі агонь), бо на тым мейсцы, дзе пабудавана святыня, у зямлі было шмат газы, а з яе пара праз шчыліны выходзіла наверх і за-

гаралася, а людзям здавалася, што ў тым мейсцы жыве іх бог і даець ім знакі.

Цяпер пагаворымо, скуль узялася неачышчаная газа ў зямлі і з чаго яна. Аб гэтым шмат кажуць вучоныя. Адны вучоныя, а між імі вядомы Мендзялееў, кажуць, што зямля наша — гэта растоплены клубок, куля руды і што ў гэтай ёсць шмат растопленых цяжкіх металаў, як жалеза, срэбра, золата, медзь; але што найбольш з усіх металаў сюды ўходзіць вугляродзістага жалеза, каторае вельмі падобна да чыгуну. Клубок—зямля паволі з вякамі астывала, цвярдзела, на ёй парабіліся горы, акіяны, рэкі, моры; выраслі лясы і т. д., але ў нутры сваім зямля і дагэтуль растоплена. Дык вось калісьці ў прадвяках вада зверху прасочвалася ў нутро і даставалася ажно да растопленай руды. Ад гарачыні вада перамянілася ў пару і раздзялілася на вадарод і кіслярод. Свабодны вадарод пачаў адбіраць ад вугляродзістага жалеза вугаль; вадарод, злучыўшыся з вуглем, стварыў неачышчаную газу. Спярша неачышчаная газа была парай, пасля, падымаючыся ўгору, астыла, зрабілася такой, якой яе цяпер дабываюць з зямлі. Другія вучоныя зноў не годзяцца на такое паўстанне газы і кажуць, што неачышчаная газа — гэта ёсць тлустасць, астатак розных звераў і звяркоў, згінуўшых у глыбіні зямлі.

Абедзве стараны далей працуюць навукова, каб дабіцца нязбітай праўды: з чаго неачышчаная газа паўстала. Канца іх работы яшчэ няма, але спадзяёмся, што ў скорым часе навука нам дасць адказ праўдзівы.

15 Зак. 2885

# АБ ДУШЫ МАЛАДЗЁЖЫ

Хто можа згадаць, якія скарбы крые ў сябе душа дзіцяці, што — узросшы — дадуць маладыя пакаленні? Хто ацэніць тую шкоду, якую робіць смерць без пары, ці жыццёвыя злыбеды маладым душам?

У польскага пісьменніка Даніловўскага ёсць дзіўнай красы аповесць «З мінуўшых дзён». Светлымі, цудоўнымі фарбамі рысуе артыста абраз душы дзіцяці-героя.

Дзесь у тайзе халоднага Сібіру памёр смелы ваяка за лепшую долю братоў сваіх. Счэс чалавек, быццам і не было яго. Але не счэзлі вялікія ідэалы, за каторыя аддаў ён сваё жыццё: у душы сына-хлапчаняці з малых дзён збудзілася любоў да людзей, міласць да ўсіх, каму цяжка жывецца ў працы непасільнай, каго скрыўдзіла доля ліхая.

Дзіця расце між людзьмі, каторым ненавісна ўсялякая крыўда. І ў гэтай атмасферы буйна расцвітаюць заложаныя ў душы яго зярняты, даюць багаты ўраджай. Хлопчык з болем у сэрцы глядзіць на волікаў, што пад цяжкім ярмом аруць зямліцу на карысць людзям. З слязьмі ў вачах слухае ён аповесць аб тым, як бедныя кітайцы на спякоце працуюць, збіраючы гарбату, каб мы мелі што піць. Жаль знімае душу яго, і так хочацца памагчы гэтым

няшчасным, даць ім хоць крыху адпачынку і ўцехі.

Гэтыя думкі рояцца ў дзіцячай галоўцы, і вось родзіцца ў ёй смелае жаданне: знайсці цудатворную кветку папараці і таемнай сілай яе даць шчасце ўсяму жывому на зямлі.

Калі па вёсках народ спраўляе свята Купалы, калі скрозь палаюць вогнішчы і пануе радасць між людзьмі,— у цёмную ночку, усхапіўшыся з цёплай пасцелькі, цішком прабіраецца ў лес малы хлопчык. Гарэць яго вочкі, рукі самі выцягваюцца ўперад — да кожнага агеньку, што мігнуў між зялёнымі зараслямі. Скачуць агенькі і вабяць хлопчыка глыбей і глыбей у гушчар, у топкае балота. Але ён не глядзіць ні на што: светлая думка развейвае цемру ночы, разганяе ўсялякія страхі, што сцерагуць заклятай кветкі купальскай.

Скачуць вогнікі — раз блізка, то ізноў далёка. І радасць дзіўная напаўняе сэрца дзіцяці: ён бачыць кветку, ён дастане яе, і не будуць ужо волікі цягаць ярма на плячах, і не будзе ўжо кітаец надрываць свае сілы, абліваючыся потам!

Скачуць вогнікі, слабеюць сілы дзіцяці. Вязнуць ногі яго: балота цягне ўглыб, туліць і вабіць у мяккую пасцельку сваю.

Хлопец утануў у балоце: яго ахвяра прапала дарэмна. Смерць затушыла яго вялікі будучы светач!

Чытаючы апавяданне аб тым хлопчыку-герою, родзіцца ў душы думка: колькі гэтых светачаў тушыць не балота, а жыццё? І пачынаеш неспакойна шукаць спосабу, каб заха-

ваць на ўсё жыццё тыя добрыя светлыя ідэалы і жаданні, што напаўняюць сэрца моладзі.

Няма такой ахвяры, каторай у маладыя гады мы пашкадавалі б дзеля святой справы. Ніхто так не прымае горача да сэрца крыўды людской, як маладзёж. Але цяжкае жыццё, змаганне за кусок хлеба, крыўды і несправядлівасці, якія спатыкаем мы на сваёй дарозе,— усё гэта, быццам тое балота, забівае ў нас найлепшую частку душы: *любоў да чалавека.*

Ад цяжкай працы грубеюць рукі і грубеюць душы. Замест гарачага жадання працаваць дзеля сваёй бацькаўшчыны, аддаць усе сілы сваім братам і змагацца за лепшую долю людзей,— у сэрцы нашым, змучаным усялякімі злыбедамі, аказваецца халодны камень. І ходзяць людзі па свеце, быццам жывыя нябожчыкі. Холад магільны ідзе ад іх і марозіць усе жывыя расткі, хаця жывуць яны ў шчасці і дастатку: нішто не сагравае іх, апрача думкі аб сваёй карысці...

Глядзіш на нашу моладзь і згадваеш: колькі вас з часам ідэйна замрэ для грамадзянства? Хто ўдзержыцца на той дарозе, што цяпер злучае нас усіх у вялікую братнюю сям'ю? Хто дзеля багацця, дзеля ўзвышэння над сваім братам адрачэцца ад светлых думак моладасці або горай: будзе аплёўваць іх і ваяваць з тым, у што верыў калісь сам, за што гатоў быў аддаць жыццё? «Жніво чакае, а работнікаў мала»,— гэтак заўсёды вядзецца ў грамадзянскай працы. І каб сілы нашы прыбывалі, каб усё болей і болей працаўнікоў выходзіла на работу на ніве народнай, трэба рупіцца аб тое,

каб маладзёж наша развівала ў сабе ўсе лепшыя зачаткі, якія ў душы яе змалку заложаны.

Развівайце ў сябе *любоў да чалавека,*— і для вас заўсёды будзе дораг родны край і народ, цёмны, бедны, забыты богам і людзьмі.

Развівайце *любоў да народа,*— і сэрца ваша ў сталыя гады будзе адклікацца гарачым пратэстам на кожную крыўду.

Развівайце *міласць да слабых і загнаных,*— і ніколі не забудзецеся ў шчасці аб нядолі, што на свеце пануе, і ніколі не паложыце рук, кажучы: «Мы сваё адпрацавалі,— няхай іншыя становяцца на работу!»

У чыстых сэрцах моладзі няма месца на благія інстынкты. Захавайце ж сэрцы вашы чыстымі на ўсё жыццё і памятайце, што светлыя сны вашы аб волі, роўнасці і брацтве збываюцца, што з усходам сонца яны не рассейваюцца разам з цемрай начной, а становяцца праўдай жыццёвай. Гартуйце душы вашы, каб халодны сівер іх не замарозіў, каб вечна аставаліся маладымі, і ніякая сіла не здолее забіць у іх жадання працаваць для святой ідэі.

Будучыня дзержыцца на вас, моладзі,— будучых грамадзянах сваёй старонкі. Дык пільнуйцеся, каб гразь і балота жыццёвыя не затапілі ў глыбіні сваёй усе лепшыя светлыя думкі вашы, зводзячы з дарогі да цудоўнай кветкі купальскай, што суліць шчасце і долю і рабочаму-кітайцу і пад'ярэмным волікам...

# ДА ДЗЯЎЧАТАК

Дзяўчаткі! Агляніцеся кожная ўвокал сябе: колькі расце каля хатак вашых крапівы, палыну ды рознай іншай дзікухі! Толькі дзенідзе рукой працавітай рупнай дзяўчынкі ў гародчыку пасаджаны кветачкі.

Ах, як міла апынуцца каля такой хаткі! Яшчэ не падышоў, а ўжо жоўты кракос вясёлым вочкам прыязна табе падміргівае; чырвона вяргіня важна ківаецца ў паклоне; сіва пахучая мята апусціла аслабелыя ад спякоты лісточкі і як бы кажа: «Выбачай, што не магу прывітацца»; дробнымі гузічкамі смяецца нізкі румянак суседкі мяты; толькі павітуха фасоля не мае часу: перавесілася праз тын у чужы агарод варыўны і гутарку вядзе з бацвіннем.

У такі гародчык выйдзе нядзелькай рупная дзяўчынка: галоўка ўчэсана, сарочка белая, спаднічка хвалдавана; сама як кветачка жывая між сястрычкамі гародчыку.

Шкада, што не ўсе такія рупныя дзяўчаткі, як гаспадынька пекных красачак! Трапляюцца між вамі і такія, што пры спатканні хоць вочы ў кішэнь хавай: зязюлька — не зязюлька, ні то дзяцел пярэсты: у латачкі, крапінкі, шчочкі мурзаты, ручкі брудны, ножкі закарэлы, але яшчэ не канец усяму, зазірнеш у хату

такой дзяўчынкі — курачкі шпацыруюць па стале, на лавах хоць ячмень сей — такі чарназём, цюцька пасуддзе чысце...

Часта бацькі або суседзі рукой махаюць: байкі, кажуць, падростак, за два гады не пазнаеце — так выгладзіцца, нябось тады і стол вышаруе, як будзе спадзявацца сватоў.

Надзеяй пацешым сябе ды больш ні слова — чаго добрага, разыдзецца дрэнная слава...

Верым, што выйдзе дзеўка, як звон, але покуль што ўвокал хаты лебяда расце, бадылі крапівы аж у шыбы стукаюць. Непрыемна каля такой хаткі праехаць ці прайсці.

Дык вось, покі вясна, зварочваемся да ўсіх дзяўчатак нашых з просьбай: засявайце, сястронкі, свае гародчыкі кветачкамі, а братоў папрасіце, каб пекна абгарадзілі. Што важнае, за якія два адвячоркі тынок можа быць гатовы. Самі ўбачыце, як пасля добра пасядзець у такім гародчыку святочным днём. А ўвосень мы ўжо ад сябе звернемся да вашых братоў, каб дрэвачкаў пасадзілі.

Калі з ахвотай адны і другія адклікнецеся на нашу просьбу, то за рок самі здзівіцеся, што так вёска перамянілася: уся будзе ў кветках, дрэўцы пасаджаны; чужынец, едучы, падзівіцца, свой чалавек, праходзячы, пацешыцца.

Рэдакцыя ж «Лучынкі», даведаўшыся праз сваіх чытачоў, у якіх дзяўчатак пякнейшыя гародчыкі, прышле ім гасцінца — насенне розных кветачак.

# НАША НАРОДНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ

## *I*

Наша народная песня вылілася з сэрца, вуснаў і фантазіі ўсяго народу беларускага і дзеля таго называецца — *народнай.*

Гэту песню наш народ складаў вякамі ў розных хвілінах свайго жыцця; ён як бы выкаваў шчырымі словамі ў вузкія рамкі песні — усе свае радасці, свой смех, сваё гора, долю і нядолю, слёзы жыццёвыя. Песня народная шчырымі словамі, не раўнуючы, як працавітымі пчолкамі, сабрала ўсё багацце красы і праўды для сваіх узораў.

З пакалення ў пакаленне народ ад дзеда — унуку, ад унука — праўнуку перадаваў у песні глыбокую і праўдзівую навуку тым, перад каторымі яшчэ слаўся няпройдзены цяжкі жыццёвы шлях.

Толькі кожнае новае пакаленне да дзедавай навукі-песні дадавала яшчэ ўласнымі губамі свой уласны погляд на жыццё, свой боль, свой жаль, свой смутак і сваю радасць.

Затым то для нас *народная* песня так зразумела, так родна, так блізка сэрцу, бо ў ёй мы чуем і слёзы памершай маткі, і радасць брата, надзею сястры, і залатыя свае ўласныя сны. Затым то наша песня *народная* так гудзе ўлетку пры кожнай працы — ці то на полі, ці то на лузе, ці ў лесе, ці ў садочку. А прыйдзе зіма —

заштурмуюць сіверы — народная песня разам з намі туліцца пад страху — у цесную нашу хатку, жыве *ў ёй разам з намі,* з нашымі думкамі, жаданнямі. Сэрцу нашаму песня дае пацеху, а дзеткам, слухаючым яе,— жывую навуку.

### *II*

У зімовы вечар, калі муж-гуляка доўга не варочаецца з мястэчка, маладзіца, прадучы кудзельку, услухоўваецца ў глухую даль, глядзіць сумнымі вачыма недзе ў мінулыя дні дзявочы і не-не ды запяе:

> О, каб я жа знала,
> Што за мужам ліха,
> Часала б я, седзячы ў матачкі,
> Косаньку па валаску ціха...

Паволі слязінка за слязінкай з яе тварыку збягае і падае на срэбную ў пальцах льняную нітку, а маладой кабеты ўскалыхнуўшаеся тугой сэрца далей пяе ўжо іншую — прабабчыную навуку-перастрогу:

> Пойдзеш ты замуж —
> Ды трапіцца ліхі муж:
> Лічкаю твайго наджане,
> Косак тваіх надарве,
> Слёзак тваіх разліе...

Тут успамінаецца маладзіцы жыццё дзявочае, жыццё свабоднае, вясёлае, калі яна ў сваёй матачкі, як кветачка ў гародчыку, цвіла, недарма, бывала, дзецюкі, пеючы песню:

> А ў гародзе губкамі ружа вілася,
> А ў каго ж ты, маладая
> Таклюсенька, удалася? —

зыркалі ў старану Таклюські, штурхаючы адзін другога пад бок, і смяяліся.

Смяяліся дзецюкі, смяялася і дзяўчына Таклюся; а родная мамка глядзела на дачушку і цешылася з удаласці едыначкі...

Іншыя думкі маладзіцы вычароўваюць і іншую зусім песню з памяці; яе звонкі голас ажыўляецца дзявочым веснавым успамінам:

Ды ці чула, мая матка,
Як я ў цябе была,
Як сівая зязюлечка
Пад акном гула...

Але глухая цішыня, моцны вецер у пустым коміне жыва адрываюць маладзіцу ад вясёлай думкі; яна ізноў сябе бачыць адзінокай, пастарэлай непамерна; прыпамінаецца ёй, як матачка родная прыехала да яе першы раз у госці, глядзела доўга-доўга на збляднелы тварык дачушкі, пасля, не кажучы ні слова, горка-горка плакала...

І гэта не першыня ў нашым жыцці. Таклюсечка ў нас не першая і не апошняя. Прабабчына песня пяе:

Ой, дзе ж ты, маё дзіця,
Сем нядзель ляжала?
Як ужо твая ружа-кветка
На вадзе завяла...

Дачка ў гэтай песні адказывае:

Не ляжала, мая матка,
Ні дня, ні гадзіны,
Папалася ў ліхі рукі,
У няверной дружыны.

## III

Не толькі кабеце часта не ўдаецца з мужам жыццё; мужчына гэтаксама, хоць і радзей, размінаецца з шчасцем.

Ой, знаці, знаці, што ажаніўся,
Учарнеўшы, уцямнеўшы,
З ліца змяніўся.

Не дзіва, што ўчарнеў, уцямнеў; можа, нават на вуліцу прыкра выйсці, бо, хто ні гляне, ні спаткае,— зараз прыкмеце, спытаецца:

Чаго ты, малойчык,
Сумны, невясёлы?

Як інакш адказаць, калі сэрца баліць, не міла ўвайсці ў хату; куды ні гляне — маладзіцы спрытна ўвіхаюцца пры вясновай рабоце; усе, як каліны ды маліны, пяюць, шчабечуць, як птушачкі,— падступіць жаль да сэрца, мо нават зайздрасць — не вытрывае і пажаліцца:

А як жа мне жыці,
Вясёламу быці,
Ды чужыя жонкі
Так, як перапёлкі —
Мая ж няўдалая,
На свет нягодная.

Шкада яму, ой як шкада тых дзянькоў шчаслівых, калі ён спадзяваўся і верыў, што будзе шчаслівы, ажаніўшыся, і не адзін ён верыў, але і другія — радня, прыяцелі раілі, у сваты выпраўлялі:

Каліна, не стой — распускайся
Ды ў белы цвет раскладайся,

Ды на цвяток ды бялюсенькі;
Ды, Хведарка, не сядзі ды размысляйся,
Ды чы сваты пашлеш, чы сам паедзеш?

Эх, сядзеў бы лепш я макам чырвоным у гародзе, чым тады паехаў у сваты!

Трудна справа скончана — былога не вернеш...

## *IV*

Але не ўсе нашыя песні такія сумныя, не ўсе Таклюсечкі і Тадоры такія нешчаслівыя. І ў нас, на Беларусі, ёсць пекнае прыкладнае жыццё, каторае можа свяціць сваімі чыстымі праменнямі іншым народам. Аб ім таксама пяе народная песня:

Пад дубінаю пад зялёнаю
Сядзіць голуб з галубіцаю,
Правым скрылечкам скрываліся.
Выехаў татарын з Чорнага мора,
Забіў галуба, галубка — удава.
Сыплю пшаніцы, стаўлю вадзіцы,
Не плач, галубка, малада ўдавіца.
— Як мне не плакаць, як не тужыць,
Няма галубка, не магу жыць...

З гэтай песні відаць, што кабеце страшэнна цяжка забыць мужа: не ў галаве ні яда, ні сон, туга, як іржа, уядаецца ў сэрца.

З іншай зноў песні ўбачымо, што мужчына выбірае смерць разам з мілай, чым жыццё без яе:

Свякроў нявехны не ўспадабала,
Кубак атруты нагатавала;
Сын віна не піў — пад каня выліў,
А тую атруту з жаною выпіў...

Адно сэрца, злучанае каханнем з другім сэрцам, разам пайшло на спатканне смерці.

Яшчэ такому сэрцу, каторае не вытрывала болю і пэнкла, як крышталёвая чара, перапоўненая святым бальзамам, наш народ ахвяраваў несмяртэльны памятнік-песню, з каторага мы, унукі, а мо праўнукі, ці нават далей — прапраўнукі даведаемся аб дарагім чалавеку, каторы ўтапіўся — як? чаго? — аб гэтым песня маўчыць; мо ратаваў свайго бліжняга? Адно пэўна, што сам рук на сябе не налажыў, бо ў такім выпадку не пахавалі б на свянцоным мейсцы...

З песні даведаемся, што як выцягнулі ўтопленіка з ракі:

Як Юзачка ўбачыла,
Голым сэрцам к зямлі ўпала,
Голым сэрцам к зямлі ўпала —
На тым мейсцы паканала...

Пасля, як пахавалі і Юзачку і ўтопленіка, то на Юзачцы магілцы пасадзілі вішаньку, а на магіле ёй дарагога чалавека — явар. Дрэвы выраслі:

Голь за голку пабраліся,
Вяршок з вяршком *(кажа песня)* злучыліся.

З песні гэтай відно, як наш народ цэніць праўдзівую любоў, як на магілках сардэчна засаджвае дрэўцы і пасля аб іх не забывае.

Аднак найвышэй і найдаражэй цэніць беларускі народ любоў матак:

Жонка плача — раса пала,
Сястра плача — ручайкі пайшлі,
Матка плача — рэчка быстра.

Найбольшую сілу мае сэрца маткі, дзеля таго выгадаваны ўжо сын у найважнейшай для сябе хвіліне жыцця раіцца маткі:

Пытаецца сын у маці,
Каторую браці?
А ці тую багатую, што хораша ходзіць,
А ці тую бедненькую, што возьме, то зробіць?

Маці, як чалавек ужо старшы, каторы глядзіць на жыццё больш вачыма розуму, чым сэрца, адказвае сыну:

Ды не ўважай, мой сынку,
Што тонка вырасла,
Ды сам зважай, людзей пытай,
Ці вытча яна кросны!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Не ўважай, кажа далей маці, што «хараша, бела», але важна ў нашым жыццю вясковым, «ці напячэ хлеба?». Не ўважай, радзіць сыну, «што пацеркаў поўная шыя, але ці будзеш мець гаспадыню ў хаце, ці сарочку пашые?».

Матка добра ведае, што пры беднаце сыну патрэбна жонка-гаспадыня, і не раз стане нават на перашкодзе між сынам і выбранай ім дзяўчынай; аб гэткім пастунку песня народная не ўкрывае:

Твая маці — чараўніца;
Сястра твая — разлучніца:
Разлучыла нас з табою,
Як рыбаньку ды з вадою.
Цяжка рыбцы на пясочку,
Так мне, млодай, без дружочку.

Шкада дзяўчыны, чуючы, як так жаласна плача, плача і не ўнімаецца. Хто згадае, калі

нават уймецца? Мо праз цэлае жыццё сваё на гародах, бацвінне полючы, будзе ўголас сумаваць:

Сэрца маё кроўю сплыла,
Што каханне разлучыла,
Лепей было не кахацiся,
Як, кахаўшы, расстацiся...

Хоць жа вялiкую праўду кажа дзяўчына, але зразумейма i матку: цi мала яна нагаравалася, покi сынка-працаўнiка дачакалася; хочацца i ёй; старэнькай, урэшце адпачыць пры працавiтай нявестцы.

Тут то найглыбейшая рана ў жыццi нашага народа. Трудна не раз сыну пагадзiць каханую жонку з каханай роднай маткай. I адна i другая хоча быць паняй валадарнай сэрца дарагога сабе чалавека, быць яму найдаражэйшай. Тут — у змаганнi — ужо жаль абедзвюм засланяе вочы i найчасцей абедзве для сябе бываюць несправядлiвы. Сын жа адной, а другой муж урэшце мусiць стаць на старане аднае з iх — або жонкi, або маткi, гледзячы на каторую старану перацягне яго розум цi сэрца.

На гэты тэмат найбольш народ злажыў песняў, а з iх бачым, што найчасцей нявестцы дзеецца крыўда:

У гародзе крапiвачка пяклiвая,
Ёсць у мяне свякровачка журлiвая.
Журылася на нявехну як дзень, так ноч —
Iдзi сабе, нявехначка, ад мяне ўпроч...

Часта бывае, што праз матку нявестка ўцякае з мужнiнай хаты да бацькоў, калi мае iх або калi багата, то дуфаючы ў свой пасаг, настаўляе рагi свякроўцы, што ажно мiла:

Вазьмі, донька, сярпок,
Ідзі пшонку жаці.

Тут свякроўка вельмі міла, амаль як родная матка, зварочваецца да сынавой, каб ішла жаць, ды відаць, што і сама не абы-хто — узяла нявестку на гаспадарку,— ніўка пшаніцай засеяна.

Я ў бацькі не жала,
І ў цябе не буду,
Куплю чаравічкі —
Панашаваць буду! —

пагардна, смела адказывае нявестка свякроўцы. Тут відно зразу, што на старане нявесткі крыўды не будзе. Але як такая нявестка сабе ў жыцці параіць, аб каторай пяецца:

У садзе бярозка каранїстая,
Свякроўка ў мяне наравістая;
Сама спаць ляжа,
Мне рабіць кажа...

У гэтым трафунку жыццёвым нявестцы трудна ваяваць з мужняй маткай, бо і сілы мала, і некаму заступіцца:

Як мала ў калысачцы ляжала,
Гора за мной у галовах стаяла,
Як мала каля лаўкі хадзіла,
Гора мяне за ручкі вадзіла...
У горы расла, у горы замуж пайшла,
Я і думала — мне палепшае,
Работачкі мне паменшае,
Ажно ды мне пагоршала...

Хто над такой бяздольніцай зміласэрдзіцца? Хіба ў самой свякроўкі сумленне абудзіцца і да розуму прыйдзе; мо муж заступіцца або ў суседзяў знойдзе спагаду, а мо і так

прыйдзецца горка-цяжка, што сама смерць выкупіць:

Выкуп, выкуп мяне, матка,
З вялікага гора;
Вядзі мяне, тапі мяне
Цёмненькай ночы.
Як будзеш жа, мая матка,
Мяне тапіці,
То не давай, мая матка,
Моцненька крычаці:
Як дачуюць суседачкі —
Прыйдуць ратаваці...

З жахам слухаеш гэткай песні! Як распаленым жалезам, яна трапляе да нашага сэрца. Жыццё кабецкае ў мужнінай хаце, як бачым з народных песень, не надта лёгка зладжылася...

У нас, на Беларусі, па звычаю і па закону дачка не дастае роўнай часткі з братамі па бацьках ні зямлі ні дабытку. Сынам — гаспадарка, хата, зямля. Дачцы — волік, кароўка, у апошніх часах грашавы пасаг. І ўсё ж ткі кабеты багацце заўсёды меншае, чым мужчыны.

Ідзе яна ў чужую хату замуж, на чужую гаспадарку: калі добра жыццё наладжваецца, тады няма падзелу: «Гэта маё, а гэта тваё», а як ладу няма, то хоць віна на старане мужчыны, заўсёды крыўда дастаецца кабеце. Яна з меншай фізічнай сілай да працы, чым мужчына, астаецца без страхі над галавой, без хаткі, бо на сільнейшай мужчынскай старане стаіць закон і звычай, дык не дзіва, што кабетай так часта памыкаюць у мужнінай хаце.

Дзеля таго, як толькі песня закране аб долю кабеты, зараз таварыш ёй — смутак, бо справядлівасці для кабеты няма ані ў звычаі

нашым народным, ані ў законе. Напрыклад, у вясельнай песні — чаго ж, здаецца, павінна быць вясёлай, а колькі ў іх кабецкага смутку:

Ай, месяц сына жэніць,
Зорка дачку аддаець,
Ай, месяц у радасці,
Зорачка ў жаласці.

Месяц-бацька ў радасці, бо маладую рабочую сілу бярэ сабе ў хату, сын яго астаецца пры сваёй гаспадарцы, пры сваёй зямельцы. Не то што матка дачкі,— яна і не спіць, і не есць— усё думае, гадае, ці будзе шчасце доньцы:

Быстра рэчанька валной б'ець,
Мамухна Настульку з вянца жджэць,
У вароціках стракаіць
І ў яе праўданькі пытаіць:
— Ці звонка званы званілі,
Ці ярка свечы гарэлі?

Бо калі няярка свечкі гарэлі, не звонка званы званілі, то заляканаму сэрцу маткі здаецца, што не будзе яе доньцы шчасця ў чужой сямейцы. Маці баіцца, ці яе дачушка часам праз якога паўгода не скажа:

Чужа старонка без ветру шуміць,
Чужы татулька,
Чужа матулька без віны журыць...

Ці не заплача яе дзіцятка ў чужой хатцы, у чужой радні па сваіх бацьках, братах, сёстрах, з каторымі ёй было так добра:

Чырвона каліна
Уся над морам схілілася,
А я ад роду адбілася...

. . . . . . . . . . .

Цяжка саду без зязюлі,
Мне ж цяжэлі без матулі;

Цяжка рыбцы без вадзіцы,
Мне ж цяжэлі без сястрыцы;
Цяжка дрэўцу без лісточка —
Мне цяжэлі без браточка.

Аднак не заўсёды чужая радня ліхая, не заўсёды свёкар і свякроўка страшны або для нявесткі чужыя,— аб чым сведчыць дзявочая песня:

Стану я ніткі віці,
У бога долі прасіці:
Свёкарка, як ойчынька,
Свякроўку, як матачку,
Дзеверка, як брацікa!
Заловачку, як сястрычку!

Пэўна ж, дзяўчынка бачыла на сваім вяку добрых свякровак, заловак і дзевераў, калі сабе просіць у бога такой долі.

## V

Камора звінела,
Дзе Агатка сядзела;
Сядзела ў каморы,
Тонкія абрусы ткала,
Мыслямі ўзоры дзіўныя паклала,
Прыехаў сужоны сам-дзесят,
Папушчаў конікаў у вішнёвы сад.

Наш народ лічыць сваімі прыяцелямі шмат якіх птушак; сароку ж лічыць пляткарскай птушкай, каторая часта персаніфікуе языклівую кабету. Вось жа ў гэтым разе дагадываемся, што цікавая суседка прыбягае да дзяўчыны:

Прыляцела сарока, чы-чы-чы,
Села ў дзевачкі на плячы;
Скажу табе добрую весцю, чы-чы-чы,
Што ў цябе на дварэ сваты.

Хлопец, убачыўшы дзяўчыну за кроснамі з белымі абрусамі, пекнымі ўзорамі, саму пекну, гладку, з вока працавітую, разумее, што пасля доўгага шукання ўрэшце то знайшоў, каго шукаў:

З'ездзіў коніка, гарцуючы,
Стаптаў боцікі, танцуючы,
Сцёр шапачку, кланяючыся,
Змачыў хустачку, уціраючыся.

Глядзі, колькі хлопец наездзіўся, покуль да густу знайшоў дзеўчука, але не так то лёгка ўзяць, як знайсці: сышоўшаяся радня, прыяцелі цэняць свой тавар не абы-як і таргуюцца з сватамі хлопца:

Наша Агата сыр наліты,
Ваш Яначка надуты;
У вашага Яначкі аўсяныя зубы,
Аўсяныя зубы, ячменны нос.

Не вельмі прыемна дзецюку слухаць такія словы, а мо і не мае шмат часу: у нас кожна кабета чакаецца ў мужнінай хаце як работніца, без каторай гаспадарка можа згібець; круці не круці, а трэба спытацца і дабіцца ад дзяўчыны толку,— прынамсі нам песня так кажа:

А мне жонкі трэба,
Але ці заробім, Агатка,
Мы з табою хлеба?

Калі хлопец спадабаўся, беларуская дзяўчына не гоніцца за багаццем, болей за голасам уласнага сэрца:

Голуб сізы, голуб сізы,
Галубка сізейша,
Ах, мілы мне айцец, матка,
Міленькі — мілейшы.

Справа скончана, калі бацькі не стануць на перашкодзе, бо вельмі шмат песень сведчаць аб прыкупцы, каторая часцей губіць роднае дзіця, чым прыносіць яму шчасце. Як справа скончана, вяселле гатова:

Ляцелі журавы да дубу, да дубу —
Час табе, Агатка, да шлюбу, да шлюбу.

Тут не толькі абедзве радні цешацца, але і суседзі, дзе якія прыяцелі; не адзін нават запяе:

Сем лет пацеў —
На гэта вяселле хацеў...

З прыведзеных адрыўкаў, кусочкаў з народнай песні бачымо, што кожнае слова песні малюе частачку нашага жыцця, нашае долі. А што і казаць, калі б разгледзець усе-ўсютанькія нашыя народныя песні: купальскія, жніўныя, сірочыя, рэкруцкія, валачобныя і т. д.?.. Не асталося б і кусочку роднага краю не змалёваным, ані часцінечкі жыцця не аспеваным.

Вось дзе праўдзівы дакумент нашага жыцця і быцця; праўдзівае люстра нашага ўсяго добрага і злога; дзе жывая, глыбокая навука дзядоў і прадзядоў,— *народная беларуская песня.*

* * *

Што для кабеты ліхі замуж, п'яніца-муж, чужая нядобрая сямейка, то даўней для хлопца была рэкрутчына. Выходзіў маладым, здаровым, а варочаўся абяссіленым старцам. Дваццацілетняя служба адымала здароўе, самаўпраўствы і здзекі начальства найчасцей уганялі хлопца ў магілу.

У тыя часы хлопец рад быў бы радзіцца калекам, каб толькі не папасці ў рэкрутчыну:

На што ж было, маці,
Мне ліцо даваці,—
Запісалі мяне, маці,
У салдаты ўступаці...

. . . . . . . . . . .

Вязуць мяне да прыёму,
А я думаў, што дадому;
Паставілі на ганачку —
Скідай, рэкрут, катаначку;
Пасадзілі на столачку,
Брыюць мне галовачку.
Яго матка старая
У прыёме стаяла,
У прыёме стаяла,
Белы ручкі ламала...

Не толькі ручкі ламала матка, як сына ў прыёме здавала, але праз усе годы рэкрутчыны сынка будзе матка купацца ў горкіх слёзах:

Пакраплялі дарожаньку,
Такі ж яна пыліць;
Разважалі маю матку,
Такі ж яна тужыць...

Няма дзіва, што тужыць, бо перад вачыма маткі штодня ўстае вобраз рэкруцкае службы сына, як страшэнны люты сівер:

Развівайся, сыры дубе,
Зараз мароз будзе,
Прыбірайся, сыну, ў панцыр —
Зараз паход будзе...

Пайшоў сынок, а матка гадамі чакае, выглядае праз акенца, у снах аб сынку сніць, на дарогу за сяло выходзіць:

Расла трава, расла трава —
Стала пасыхаці;
Ждала, ждала матка сына
Ды стала плакаці...

І чаго дачакала? Каго прыждала?

Ой, ляцела зязюлечка
Дый сказала: «ку-ку»,
Чакай мяне, мая матка,
Чакай хоць да вяку...

Але ўсякаму ліху ёсць канец! Мінуў час дваццаціпяцілетняй рэкрутчыны; прайшла паншчына, каторая аставіла па сабе шмат сведкаў-песень, страшнага здзеку і несправядлівасці. Кабеты таксама злягчэе доля, як даб'юцца роўных правоў з мужчынамі.

Адным словам, жыццё наладжваецца з кожным днём: дзетак нашых штораз, то ўсё болей і болей акружае жыццё, аперта на фундаментах справядлівасці; душы іх і сэрцы акрыляюцца; у натуры развіваюцца расткі пачуцця роўнасці, брацтва і свабоды.

# ПЕРАЛЁТНЫЯ ПТУШКІ

## *Чаму птушкі адлятаюць*

Тыя птушкі, якія мусяць жыць вясну і лета ў адным краі, а восень або толькі часць восені і зіму ў другім краі, называюцца пералётнымі.

Птушкі на халодныя час пералятаюць у цёплы край, бо яны блізка што ўсе жывяцца рабакамі, кузюркамі, жучкамі і т. п., а ўсе гэтыя страшэнныя ворагі нашых дрэў і раслін на зіму гінуць, дык птушкам не было б чым жывіцца.

Каб мог здарыцца такі год, што птушкам дзеля якой прычыны нельга было б вярнуцца да нас, якім жа страшным, глухім і спустошаным праз гэта стаўся б наш край: замест мілага шчэбету, замест песняў звонкіх толькі голыя веткі і галіны шапацелі б, замест багатых рознакалёрных ніў — поле ляжала б, як чорны папар, і т. д., бо ўсё багацце нашага краю знішчожылі б, аб'елі б жукі, рабакі, мошкі.

## *Працавітасць птушак*

Для кожнае птушкі дзень кароткі, а ноч даўгая; бо хоць, праўду кажучы, паміж птушак мужоў-лежабокаў няма, а жонак-пстрыкух не чутно, але затое падумаць толькі, коль-

кі-то працы чакае іх: папрабуй толькі спраўляць святы ды прысвяткі, дык і з голаду змарнееш і сямейкі не выгадуеш.

Перш-наперш трэба выбраць месца на гняздо, а з гэтым клопат не малы: прыходзіцца ўважаць, каб і ад дажджу і ад ветру было зацішней, ды і розным ворагам сваім, як каршунам, катам і іншым, прыступ быў як найтруднейшы.

З самай будовы гнязда найчасцей работа дзеліцца папалам: самец дастаўляе матэрыял — валаскі, ніткі, лісточкі, пёркі, гліну і т. п., а самка будуе. Як толькі гатова гняздо, самка садзіцца, а самцу прыходзіцца яе падкармліваць, іншым разам нават падмяняць, а свабаднейшым часам развесяліць сядуху песнямі.

Але вось у скорасці паказваюцца і дзеткі; у іншым гнёздачку іх кішма-кішыць — накармі такую грамаду з дзюбкі дробненькімі рабачкамі, кузюркамі. Вось тут-та і пойдзе чыстка ўсяго паскудства па садах, дрэвах, кустах, палях. Дзе птушкі і іх гнёздачкі ў пашане, там, як бач, звядуць яны ворагаў нашага добра.

А трэба ведаць, што нашы птушкі вельмі ахайныя грамадзяне, дык і каля сябе і малато заходу? Штодня прыходзіцца выкупацца ў пясочку, у вадзе, кожнае пёрачка на сабе вычысціць, выгладзіць; гняздо колькі разоў у дзень вымесці, гэта не то, што ў нас — людзей: часам на тры дні ледзь хата крыху венікам пралысіцца!

## *Як птушкі адлятаюць*

У другой палавіне лета птушкі пачынаюць ужо прыгатаўляцца да адлёту: маладыя збіраюцца ў грамадкі і пад камандай старшых вучацца высока лятаць.

Старыя птушкі ліняюць, каб перамяніць старыя пёркі на новыя — крапчэйшыя. Дзеля гэтага птушкі лясныя хаваюцца ў гушчары лясоў, вадзяныя адплываюць на глыбейшыя воды, каб вораг быў не такі страшны ў часе, калі ў птушак скрыдлы змяняюць пёркі.

Пад час ліняння птушкі вядуць сябе ціха, не пяюць, не пераклікаюцца, затым-то ў канец лета мала чуваць песняў птушыных.

Кожны гатунак птушак мае ўстаноўлены час, немаль нават дзень, каторы не мяняецца блізка што дзесяткі гадоў, для адлёту і прылёту, хіба якое няшчасце птушку затрымае ў дарозе.

Як толькі пачне восень блізіцца, птушкі пачынаюць збірацца да адлёту. Ведама, што не ўсе адразу: тыя птушкі, што найраней прылятаюць, яны і найпазней ад нас адлятаюць, бо могуць яшчэ мець тут пажыву.

Мус пералятаць на зіму ў іншы край увайшоў ужо ў натуру, так сказаць, у кроў птушак. Як толькі падыходзіць час пералёту, птушкі робяцца неспакойнымі: нават тыя, што асвоены, пачынаюць у клетках таўчыся аб сценкі, крычаць. Хатнія качкі і гусі падлятаюць у паветра, гагочуць, квакаюць. Дык што гаварыць аб тых птушках, каторым і напраўду трэба ляцець за колькі міляў! Тады птушкі пачынаюць

збірацца ў стадкі, грамадкі, стараюцца лётаць як найвышэй, бо ў высаце і ворагаў менш, і дарога лепш, і на дальшую мэту відаць.

Адлятаюць найраней маладыя птушкі, бо яны не ліняюць, з імі збіраюцца ў дарогу ўдаўцы, кавалеры — птушкі, каторым дзеля якой-колечы прычыны не ўдалося выгадаваць сваёй сямейкі. Пасля выбіраюцца ў дарогу самцы старыя, пасля самкі і ўжо наканец тыя, каторых затрымалі малыя дзеткі. Часам чакае такая матка, чакае сваіх дзетак, каб на скрылачкі ўзняліся, і не дачакаецца, і з болем сэрца ідзе сама на вырай.

Увосень птушкі павальней пералятаюць; вясной — барзджэй; вясной — наадварот—найраней прылятаюць самцы абгледзець месцы на гнёзды, за імі самкі, пасля ўжо маладыя, хворыя, калекі, раненыя; не мяркуючы, як салдаты пасля вайны.

Па праўдзе кажучы, для птушак пералёт і ёсць страшэнная вайна, пасля каторай толькі невялічкая частка застаецца і то найсільнейшых птушак. Дзеля таго перад адлётам адбываюцца пробы лятання ў птушак.

Нат можа хто бачыў увосень буслаў, як, сабраўшыся ў кампанію, лётаюць, клякочуць, радзяцца, часам слабых і калекаў забіваюць, каб не былі, пэўна, замінішчам у дарозе.

Птушкі, як і чалавек, маюць сваю мову: інакш птушка зюкае, цвіркае ў гняздзе да дзетак, інакш адзываецца да суседак-птушак, іншым зноў голасам сварыцца, іншым заклікае. Напрыклад, часам вялікія птушкі на балотах рыкам сваім асцерагаюць малых перад якой

напасцяй. Кажуць, дразда птушкі лічаць за вельмі ацярожнага, дык яго трывожны голас паднімае ўсю браццю лясную. З гэтага відно, што пры адлёце птушкі могуць згаварыцца. Летучы, адны птушкі, не перастаючы, крычаць, як жоравы ды гусі, а другія зноў пераклікаюцца, прымерам жаваранкі. Хто іх знае, ці яны крычаць, каб заахвоціць і дадаць сілы, адвагі таварышам баязлівым, ці склікаюць адстаўшыя птушкі.

Ляцяць птушкі розна: жоравы — ключам; гусі — наўскос радком; качкі — папярочнымі роўнымі радамі; салаўі — стадкам, а сломкі і зязюлькі дык ляцяць адзінокімі. Сломкі хоць на стаянках-адпачынках або ў няшчасці, калі вораг нападзе або бура надойдзе, лучацца з сваёй браццяй — птушкамі, а зязюлька ніколі ні з кім кумпанства не вядзе. У стаях, стадках, сямейках пры пералёце наперад выбіраюцца птушкі найлепшыя, найсільнейшыя, бо першым птушкам прыходзіцца разгортваць скрыдламі паветра, затым ім і найцяжэй ляцець. Змучаных пярэдніх птушак падмяняюць зараз за імі ляцячыя; а пярэднія змучаныя пасля ляцяць для адпачынку апошнімі.

У няшчасці,— як бура або калі драпежнікі нападуць, тады птушкі нават розных гатункаў лучацца ў адну грамаду і лятуць праз нейкі час разам, але як усё ўспакоіцца, то кожны адлятае ў свой бок, на сваю дарожку.

Непрыяцеляў жа птушкі маюць вельмі шмат, бо зараз за імі следам ляцяць розныя драпежнікі: каршуны, сокалы, злучыўшыся ў стады па шэсцьдзесят, семдзесят штук. Роз-

ныя зверы вострацць свае зубы на змучаных птушак, калі тыя прысядаюць для адпачынку або для жыру.

### *Птушыныя шляхі*

Птушкі, як людзі, маюць сваю дарогу, па каторай лятуць з года ў год. З птушкамі таксама як з людзьмі бывае, што саб'юцца з дарогі, калі туман залішне заляжа або як сільная бура ўзнімецца.

Бура часам сільнымі ветрамі на колькі сотак вёрстаў адкідае птушак ад іх дарог, дык не раз бывае, што якога-колечы нязнанага гатунку птушкі паяўляюцца ў якой старане першы раз; прабудуць яны там лета або зіму і адлятаюць назаўсёды. Гэта значыцца, што такую птушку бура збіла з дарогі, і назад позна ўжо было варочацца.

Вецер для птушак шмат памагае, калі спрыяючы; найлепшы вецер такі, каторы дзьме збоку наўскос; вецер жа спераду ўтрудняе лёт, бо трэба яго перасякаць скрыдламі, а вецер, ззаду дуючы,— надта развявае пёркі і студзіць цела.

Дарогамі птушкам служаць рэкі і моры, берагі морскія, горы, возеры, лясы. Птушкі маюць вельмі добрую памяць і вочы. Разумеецца, узняўшыся высока, яны бачаць агрaмадны абшар, дзе якая рэчка бяжыць, якія дзе горы стаяць. Напрыклад, летучы праз мора, птушкі вокам як бы праводзяць у думках мост у найвузейшым мейсцы мора і дзе ёсць найбольш востраваў, на каторыя можна спусціцца, бо ні-

водная птушка больш, як чатырыста міль не пераляціць над морам без адпачынку. Страшэнна трэба птушцы абраховывацца з сіламі, каб пераляцець соткі міль без перадышкі.

Аднак кожны год вельмі шмат птушак гіне, пералятаючы над морам; узняўшаяся бура топіць іх тысячамі, шмат каторай птушцы нестае сілы, забаляць скрыдлы і амэн — падае ў воду. Параходы пералятаючыя птушкі часам хмарамі абсядаюць.

Аднаго разу між іншымі птушкамі і салавейка ўпаў на спячага марака і ўсеўся на ім адпачыць; марак, абудзіўшыся, накарміў птушачку, прыгарнуў. Салавейка асвоіўся і некалькі дзён ехаў на параходзе, але, адпачыўшы, спасцярог, што параход не ў тую старану ідзе, куды салавейку трэба, дык узняўся і паляцеў. А ці даляцеў да свае мэты — хто знае?

Дзіўна, якім спосабам такая ластаўка, пераляцеўшы дзесяць тысячаў міль праз розныя краі, трапляе проста да свайго такрочнага гнязда пад страхой свіронaчку ў нашай вёсцы!

Некаторыя птушкі ляцяць паволі, часта затрымваюцца адпачыць і пажыраваць. Але ёсць такія, што за адзін дзень або ноч пералятаюць некалькі сотак, а то і тысячаў вёрст. Калі б так глянуць з вышыні птушынага лёту ў той час, як птушкі ляцяць або варочаюцца з выраю, то чалавек, убачыўшы, як управа, улева, наперад, назад ляцяць птушкі, як яны злятаюцца разам, то зноў разлятаюцца,— гатоў падумаць, што без толку гэта ўсё робіцца. Ото ж не! Ёсць там і лад, і парадак, устаноўлены вякамі, бо кожны гатунак птушак мае сваю дарогу,

устаноўленую прапрадзедамі-птушкамі; адны — над рознымі вадамі скарочываюць сабе дарогу, а другія аблятаюць, накладаюць дарогі. Найважнейшымі, аднак, дарогамі бываюць рэкі: імі карыстаюць не толькі вадзяныя птушкі, але і большая часць лясных і інш.

Самыя важныя пералёты ў Еўропе: даліна Пячоры, Паўночная і Палудзённая Дзвіна і Анега — яны вядуць да Волгі, Дона і Дняпра; над гэтымі рэкамі-дарогамі ўсе лясныя птушкі ляцяць да Чорнага і Каспійскага мароў; пасля па іх узбярэжжах — у Малую Азію, Персію, Егіпет.

Другая важная дарога: рэкі Вісла, Одэр, Эльба, Рэйн і Дунай, пасля — Турцыя, Грэцыя і праз Серадземнае мора — у Афрыку.

## *Шыбкасць лёту*

Не ўсе птушкі роўна лётаюць і не ўсе на аднолькавую даль. Напрыклад, птушкі з шырокімі скрыдлачкамі лётаюць слаба, і дзеля таго яны адлятаюць не так далёка. Птушкі ж з скрыдламі доўгімі, вострымі, як ластаўкі, сокалы, свіргулі — могуць лётаць шыбчэй і адлятаюць далей.

Аднак, калі агулам браць шыбкасць птушынага лёту, то пабачымо, што кожная птушка ляціць шыбчэй усякага найскарэйшага парахода, усякай быстрагоннай машыны. Свой пералёт птушкі адбываюць праз некалькі гадзін, а найдаўжэй праз некалькі дзён.

Такі чорнагаловы сявец, што вядзецца ў еўрапейскіх і азіяцкіх тундрах, калі вылеціць

а сёмай гадзіне вечара, то назаўтра а пятай зранння ўжо ён у Афрыцы — за дзве тысячы ад свайго ўчарашняга мейсца жыцця. Проста дзіва і ажно зайздрасць бярэ чалавека, калі падумаць, якую сілу мае птушка ў сваіх скрыдлах: учора пела яна ў халоднай сумнай краіне, пад бледным, далёка свецячым сонейкам, дзе хіба маленькі зайчык слухаў яе, а сягоння можа ўжо адпачыць на клапцястай пальме, побач высокіх гор, дзе ў далінцы, у гарачым пяску стада вярблюдаў выграваецца.

Вельмі далёкі вырай маюць ластаўкі: ад сямі тысяч да дзесяці тысяч міль.

Далёкі — зязюлька, драч — ад тысячы да сямі тысяч міль.

Сярэдні вырай маюць жораў, дрозд — ад трох тысяч да пяці тысяч міль.

# ДА ШКОЛЬНАЙ МОЛАДЗІ

Да вас, школьная моладзь, як да хлопцаў, так і дзяўчатак, зварочваемся з просьбай. Адпачываючы пасля навукі ўлетку, збярыце матэрыял для беларускай батанікі (навукі аб раслінах).

Збярыце і засушыце ўсе кветкі, траўкі, зёлкі — і ліхія, і добрыя, галінкі з дрэў з лісточкамі, збожжа — адным словам, усё, што расце каля вас і што даецца засушыць. А што не даецца засушыць, то хоць так запішыце, дзе расце, як выглядае, якая карысць з гэтага дрэва ці расліны і як завецца. Вось, напрыклад, калючы куст з ягадамі, які часта расце на баравых землях,— у адным мейсцы называюць ялаўцам, у другім — пад'яловец, а дзе яго яшчэ інакш называюць, дык і запісаць *мясцовае* названне.

Збіраць для засушвання кветкі, травы і т. п. трэба на полі, у лесе, на сенажацях, балотах, прыгорках, нізінах і т. д., бо кожнае мейсца мае сваю характэрную асобнасць.

Вырываючы кветку, трэба ўслед запісаць, дзе яна вырвана: на прыгорку ці ў далінцы, на пясчаным ці глiністым або якім іншым грунце. Важна ў навуцы ведаць, на якім грунце такая-то кветка расце, якія ў суседстве яе расліны:

апрача таго, трэба запісаць, у якой губерні, у якім павеце, а нават у якой ваколіцы (названне двара, сяла ці вёскі) сарвана кветка і якой парой: год, месяц, чысло.

Якая карысць з такой кветкі або зёлкі людзям або якая ад іх бывае шкода. Мо каторыя кветкі ўжываюць да якіх чараў, малітвы, заклінання, лекаў для людзей ці жывёлы. Мо такімі-то, а такімі кветкамі ўбіраюцца дзяўчаты і як: ці на галаву вянок плятуць ці так прышпіляюць. Якія кветкі свенцяць, якімі часамі крыжы ўбіраюць, якія па гародчыках сеюць, якія на магілках садзяць. Якія зёлкі, кветкі, травы жывёла ці птушкі любяць або не любяць.

Адным словам, аб кожнай кветцы ці траўцы, зёлачцы трэба распытваць усё роўна як аб чалавеку, каторага хочацца добра спазнаць.

Адну кветку добра пазнаць, усё аб ёй даведацца, трэба шмат часу патраціць. Ніколі нельга запісваць адразу, спытаўшы аб якой кветцы толькі ў аднаго чалавека: вельмі часта мыляюцца. Часам распытаеш чалавек дзесяць і болей кабет і мужчын і не маеш нічога пэўнага.

Трэба пытаць, ажно покуль большая частка тых, у каго пытаеш, скажуць адно і тое самае аб кветцы ці зеллі; напрыклад, як называецца, ад чаго памагае, дзе расце. Часам кветка або травічка якая маюць колькі названняў, тады трэба запісаць усе.

Аб зёлках і памоцных кветках найлепш ведаюць старэнькія бабулькі-шаптухі; зноў — пекныя кветачкі больш знаны дзяўчатам; тра-

вы на сенажацях, ліхія дзікухі ў збожжы, як павітуха, дросень і т. д., добра знаюць гаспадары — сталыя мужчыны. Распытваючы людзей, трэба паказваць ім расліну свежую, а не засушаную.

Засушваць расліны трэба так. Выкапаць з карэньчыкам раслінку, карэньчык абтрусіць з пяску або апаласкаць. Папера найлепшая для засушвання «гіграскапічная», праз каторую ў аптэках лякарствы цэдзяць, бо гэта папера хутка і шмат вільгаці ў сябе ўцягвае. Гэта папера не надта дарагая.

А калі няма гіграскапічнай паперы, то хоць узяць газеціну або іншую якую паперу, толькі без глянсу.

На паперу палажыць кветачку; калі стрымбульчык мае зашмат галінак, то абцяць, але так, каб, як засохне расліна, было знаць, у якім мейсцы былі галінкі. Таксама робіцца з лісткамі на стрымбульчыку, як залішне густыя.

Лісткі раслінкі для засушвання трэба расправіць кожны асобна, каб не былі скручаны; калі ж лісточкі налягаюць адзін на другі, то трэба кавалачкамі паперы паперакладаць між лісточкамі, каб, сохнучы, не злучаліся адзін з другім. Распрастаўшы лісткі, зараз іх закрываюць паперай і прыціскаюць чым цяжкаватым: гладкім каменьчыкам, цаглінкай, кніжкай ці хоць грашыма — медзякамі.

Найасцярожней трэба абыходзіцца з лісточкамі самой кветачкі, найлепш яе клапцікі аблажыць яшчэ тоненькімі пласткамі аптэчнай ваты, тады кветачка пякней засыхае.

Як ужо аркушы паперы заложаны сушонымі раслінкамі, бо можа змясціцца на аркушы некалькі, тады борздзенька каменьчыкі і грашакі знімаюцца, накрываюцца раслінкі другой паловай таго самага аркуша, і аркуш з раслінкамі кладзецца на дошчачку, на каторую спярша трэба палажыць аркушы два чыстай паперы. Палажыўшы аркуш з раслінкамі, зноў перакладаецца чыстай паперай, на яго кладзецца зноў аркуш з раслінкамі, на яго зноў чыстая папера і т. д. Як усе аркушы з раслінкамі зложаны, а іх можа быць нават з дзесяць, наверх кладзецца таксама два аркушы чыстай паперы, прыціскаецца зверху дошчачкай і націскаецца каменнямі або цэгламі.

Першы, другі дзень трэба пустыя аркушы, каторымі паперакладзены аркушы з раслінамі, разы два на дзень перамяняць свежай, бо яна нацягне вільгаці; вільготную паперу прасушваць на слонцы або на печы. На трэці дзень можна самую раслінку перанесці на іншы аркуш сухой паперы; пасля ўжо перакладаць сухой паперай можна праз дзень, пасля яшчэ радзей. За які тыдзень кветка зусім высахне. Ці кветка добра высахла, можна пазнаць, узяўшы яе за карэньчыкі, калі ўся раслінка з стрымбульчыкам, лісткамі, кветкай туга стаіць, не хістаецца, то ўжо сухая. Або прытуліць раслінку да вуснаў, калі яна не мае ў сябе халадку, то таксама значыцца, што раслінка ўжо сухая, бо вільгаць заўсёды мае ў сабе халадок.

Засушаныя зёлкі пасля паўкладаць у аркушы чыстыя, што да пісання паперы, вузенькімі

стужачкамі парэзанай паперы ў некаторых мейсцах папрыклеіваць, і ўсё, што аб кветцы даведаліся ад людзей, напісаць збоку, а таксама падпісаць сваё імя, прозвішча, чым займаецеся, калі вучанік ці вучаніца, то якога вучылішча і якой класы, і прыслаць у рэдакцыю «Лучынкі».

«Лучынка» ад сябе папросіць вучоных-батанікаў, каб яны перагледзелі засушаныя расліны і паставілі на іх лацінскія названні. Лацінскія названні ва ўсіх навуковых кніжках і ва ўсіх народаў прыняты поруч з названнямі, дадзенымі праз сам народ.

Тады можна ўсё даведацца аб кожнай кветцы з розных кніжак навуковых і напісаць батаніку беларускую.

Напрыклад: зёлачка, што ў нас завецца «баркун», па-лацінску будзе «Melilfus albus», па-расейску — «доннік», па-польску «nostrzyk biały». Або яшчэ: па-беларуску «крываўнік», па-лацінску «Achilea Millefolium», па-расейску «тысячалістнік» і т. д.

Вось, калі мы будзем мець названні беларускія і лацінскія ўсіх нашых кветак, тады лёгка іх апісаць, бо можна ўзяць батанікі ў розных мовах, дзе вучоныя людзі добра апісалі раслінкі, перагледзець, што аб такой раслінцы напісана ў немцаў, французаў, англічанаў, палякаў, расейцаў; пасля дадаць да ўсяго гэтага яшчэ і тое, што наш народ беларускі аб ёй ведае, і такім спосабам зложыцца беларуская батаніка.

Работа важная, а можна яе зрабіць лёгка, толькі каб пазбіраць названні народныя, бела-

рускія ўсіх раслін, кветак, зёлак і засушыць кожнае з іх па колькі штук, бо як па аднаму толькі каліву засушым, то часам можа папсавацца, і тады ўсенька, што аб ім спісана ад людзей, уся праца наша змарнуецца.

Тым, хто захоча ўзяцца да збірання і засушвання раслін, а будзе мець грошы, мы радзілі б купіць сабе некаторыя кніжкі і прылады.

Кветкі пазрываныя хутка вянуць; для такіх, што блізка растуць, нічога, але, калі пайсці далей шукаць кветак балотных, дзірванных і іншых, тады ўжо трудней, бо, покуль вернешся дахаты, кветкі звянуць і могуць быць няздатны для засушвання. Дык варта купіць сабе «батанізірку» — такі бляшаны даўгі пудэлак з вечкам і раменнай шлейкай. Батанізірку перакінуў сабе праз плечы, як паляўнічы стрэльбу, ды лазь па палях, па лясах, па балотах паляваць на раслінкі. У батанізірцы кветкі не вянуць праз цэлы дзень, а то і праз два, асабліва, калі выложыць усярэдзіне вільготным мохам. Батанізірку можна выпісаць з Пецярбурга з крамы Ільіна (Раз'езжая вул., № 10); але, праўду кажучы, батанізірку можа замяніць вялікі пудэлак ад цукеркаў, дык памяркуйце, што павэдлуг натуры мілей.

Хто з вас захоча сам падабраць для кветак лацінскія названні (хоць усё ж ткі пасля канешна трэба кветкі паслаць да спецыялістаў-батанікаў, каб спраўдзілі лацінскія названні), таму раім купіць сабе такія кніжкі: «Весенняя флора России» Маевского — 30 к.; «Осенняя флора России» Маевского — 40 к.; «Злаки

средней России» Федченко и Флеров — 85 коп.; «Луговые злаки средней России» Федченко и Флеров — 50 к.; «Водяные растения средней России» — 25 к.

# ПАПАРАЦЬ-КВЕТКА

## I

Папараць-кветка — гэта сімвал усёзнання. Народы ўсяго свету выцягваюць да яе рукі, ідуць з спрагненнымі сэрцамі. Шукаючы папараць-кветкі ўсёзнання, тысячы ахвяр гіне ад непасільных трудоў і працы. Часам ад такой ахвяры ажно ўся людскасць жахам ускалыхнецца. Але папараць-кветка зводзіць, як звадзіла і цягне да сябе. Паход людскасці ў напрамку шукання расце і крэпне. Пратаптаны ўжо сцежачкі, паведзены дарогі, дарожкі, вядуць шырокія гасцінцы. А хто здатнейшы і адважнейшы, дык спяшае нацянькі праз нязведаныя яшчэ нетры першы свой след правесці.

Тайніцу за тайніцай людзі вырываюць у прыроды. Чалавек ужо стаў панам страшэнна глыбокіх акіянаў. Штучна і ўсіленым вокам ён смела зазірнуў у нязмерну вышыню зораў. Хутка мо там нойдзе сваіх братоў-людзей і загавора з імі. У паветры чалавек лётае, як птушка [1]; па моры плыве шпарчэй рыбы [2]; слова сваё жывое за дзесяткі тысячаў міль кідае мігам [3]; голас свой перадае за сотні вёрст [4], перу-

---

[1] Аэрапланы маюць канструкцыю птушкі *(тут і далей заўвага аўтара артыкула).*

[2] Карабель мае канструкцыю рыбы.

[3] Тэлеграф.

[4] Тэлефон.

ны і маланкі ўзяў у свае рукі, і ўжо болей яны яму не страшны [1]. Высланцы людзей усё ідуць далей і далей, падымаюцца ўсё вышэй і вышэй па лесвіцы навукі; для іх праца будняга дня на раллі для здабывання кавалка чорнага хлеба не мае ніякога значэння і вагі. Высланцы гэтыя, не мяркуючы, як тыя кветкі расліны або як тыя новыя крэпкія атожылкі дрэваў, каторыя пнуцца да сонца і ўбіраюць у сябе светлыя яго праменні. За іх і для іх астаюцца карэнні ў чорнай глебе, у зямлі, скуль у цемнаце цягнуць жывыя сокі, і кормяць, і даюць сілу, моц сваім вярхам-атожылкам, сваім кветкам, каб яны пекна маглі зацвісці і закрасаваць.

Аднак нельга сказаць, каб карэнні расліны паміма свае цяжкое працы не мелі супольных жаданняў і ідэалаў аб красе, аб сонцы так, як хочуць іх вярхі і закрасаваўшыя кветкі.

Як карэнні, каб пракарміць усю расліну, астаюцца ў зямлі, так карэнні людскасці — хлебаробы, каб здабыць хлеб будні, каб пражывіць тых, што аддаліся ўсёцэла навуцы — мусяць аставацца на зямлі, пры чорнай раллі, разрываць яе нетра-грудзі жалезнымі нарогамі, сеяць зярняты, пільнаваць іх і пасля ў поце чала свайго знімаць, як даспеюць. Кожны дзень хлебароба ад світання да змяркання поўны цяжкай простай работы.

Аднак у хвіліны лягчэйшай працы, у гадзіны святкавання і хлебароб вылынае сваёй думкай за рамкі практычнай карысці, і рвецца ён тады здабыць папараць-кветку. Думка яго, уз-

---

[1] Электрыцтва.

гадаваная прымітыўнай жаваранчынай песняй, узбагачаная няхітрай пазалотай даспяваючай паласы жыта, шукае цуду.

Так, тут мусіць быць цуд і толькі цуд! Бо папараць-кветку-ўсёзнанне каб здабыць, патрэбна нямала часу. На гэта патрэбна амаль што не ўсяго кароткага жыцця чалавека. А як жа хлебаробу адняць сваю руку ад чорнага загону? Апусцее тады ніва, гарады пачалі б галадаць, край абяднее.

Не, хлебаробе! Тут мусіць быць цуд і толькі цуд, каб ты ўсё тое зразумеў адразу, чаго дабіліся навукова тыя, каторых корміш дзвюма сваімі намазоленымі рукамі. Добра, што ты ў яго верыш, бо верай сваёй засяваеш зерняты ў сэрцы сваіх сыноў жадання дабыць папараць-кветку.

Сыны твае — гэта высланцы, гэта закрасаваўшыя кветкі людскасці. Бо дагэтуль вучоныя выходзілі і выходзяць найбольш з нетра працавітай беднаты.

Спі, хлебаробе, спі! Прыйдзе час — папараць-кветка дастанецца табе ў рукі.

## *II*

Прапрадзеды нашы калісьці ў прадвяках глядзелі на прыроду іншымі вачыма, чым мы, прапраўнукі іхнія. Сонца, пярун, вецер — яны прызнавалі тады за сваіх багоў, каторыя маглі рабіць чалавеку і дабро і зло, зважаючы, як чалавек на гэта заслужыў. Дзеля гэтага людзі таго веку прыносілі ахвяры сваім багам, святкавалі святы ў іх чэсць.

Сонца ў нашых прапрадзедаў называлася *Дажбогам;* яно лічылася богам ураджаю, богам святла, дабра і цяпла. Вота ж у час найвышэйшага стаяння сонца на небе — у палове чэрвеня, у час найбольшага разросту і росквіту на зямлі, калі ўжо ўсё засеянае пусціла расткі, завязалася і пачне ўжо хутка радзіць, людзі ў чэсць бога-сонца святкавалі свята, каторае называлася *Купалле*.

Купалле — гэта свята яснасці, свету і найбольшага разросту сіл у прыродзе. Пасля Купалля сонца паварочвала на сваю зімовую дарогу, паволі, нязначна яно апускалася ніжэй, свяціла зводдалі.

Прапрадзед наш, тады не маючы ні кніг, ні газет, ні пралажаных шырокіх дарог, каторыя вялі б яго да мястэчак, якія ў нас ёсць цяпер, пільней узіраўся ў жывую кнігу прыроды і пасвайму ўсякае яе з'явішча тлумачыў.

Найвышэйшае стаянне сонца перад паваротам на зімовую дарогу і найбольшы расцвет-разрост у прыродзе, хуткі час разджэння овачаў праз усякую расліну,— чалавек з гэтага ўсяго стварыў сабе паняцце, каторае пасля стала верай, што ў гэты дзень, значыць на Купалле, Дажбог жэніцца з царэўнай мора — Ладай.

З песняў вельмі старых даведваемся, як людзі больш, лепш разумелі вяселле Дажбога: Дажбог, стоячы найвышэй на небе, убачыў Ладу з доўгай залатой касой — царэўну мора, як яна ездзіла па моры ў залатым чоўне, срэбнымі вёсламі пляскала па вадзе. Дажбог, спусціўшыся да марскога цара, пачаў прасіць, каб цар

аддаў дачку за яго замуж, але марскі цар загневаўся, хацеў затрымаць і ўкараць Дажбога. Добра, што Дажбогу ўдалося ўцячы. Тады Дажбог прыслаў сваіх слуг на бераг мора; прыйшлі тыя, разлажылі ўсялякія ўборы дарагія, а між іншымі вельмі пекныя зялёныя чаравічкі. Лада выйшла, пачала прымерваць, тут слугі Дажбогавы падхапілі Ладу, занеслі да свайго пана. Дажбог ажаніўся з Ладай.

Гэтак зразумеўшы Купальскае свята, нашы прапрадзеды ўзялі прыклад з багоў і пачалі на Купалле «ўмыкаць» сабе дзяўчат на жонкі.

Збіраліся «між сёлы на ўзлессі» каля ракі або возера, разводзілі вогнішчы, пілі, елі, пялі; абліўшы смалой кола, запальвалі і кацілі з гары на знак, што сонца хутка пачне ніжэй хадзіць.

Калі прыйшло хрысціянства, то паганскае народнае свята злучылася з хрысціянскім святам Івана Хрысціцеля, каторы святкуецца 24 чэрвеня. Гэта сталася тым лягчэй, што слова хрысціць, значыць, у вадзе занурыць, купаць. Вота ж пад слова Купалле заместа паняцця святло, яснасць, багацце, ураджай падставілі паняцце купель-купаць. Гэткім спосабам з той пары з 23-га на 24-ае чэрвеня ў ночку спраўлялася свята абычаем даўнейшым, а назаўтра людзі ішлі да касцёлу, царквы і святкавалі ўжо свята хрысціянскае — сабе сучаснае.

Кожна сотка гадоў, кожнае пакаленне прыбаўляла, змяняла звычай, расшырала яго, багаціла. Зрадзілася паняцце, што бог грымотаў Пярун маланкамі, стукам, грукам разганяе

цёмную сілу, затрымвае кола сонца, змушае яго стаяць найвышэй, пячы і сушыць усё жывое на зямлі. Паволі перуновую сілу — вогністы колер перанесла фантазія людская ў папараць-кветку, з каторай усё роўна, як з вышыні неба, чалавек усё можа ўбачыць і зразумець на зямлі.

Спрыяючы цёплы час на Купалле памог гэтаму святу зрабіцца найбагатшым святам у абраднасці. Чалавек на Купалле ўсе сілы добрыя і злыя, спрыяючыя і варожыя бачыць каля сябе, каторыя між сабой змагаюцца, а з гэтага змагання кветка-папараць зацвітае. Добрая сіла хоча яе даць чалавеку, а злая вырывае кветку з чалавечых рук.

## *III*

Нідзе так абраднасць святкавання Купалля багата не развілася, як у Беларусі, бо тут гэта святкаванне найдаўжэй захавалася. У іншых старонках яно даўно ўжо забытае; інтэлігентныя толькі людзі там яго абыходзяць, як памятнік калісьці вельмі багатага прапрадзедаўскага народнага свята.

У нас наадварот: у колькі вёрстах ад Мінска — губернскага горада, дзе чыгунка штодзень свішча, вёскі спраўляюць Купалле. Дзеўкі вянкі ўюць, пушчаюць на ваду, паляць вогнішчы, скачуць праз іх, каб урадзіла вялікае збожжа.

Інтэлігентныя свядомыя беларусы ў Вільні спраўляюць Купалле так, што ўсенек горад,

чыя толькі змога, высыпаецца на берагі Віллі, каб паглядзець на беларускае Купалле.

Свядомым беларусам-інтэлігентам хочацца з Купалля зрабіць нацыянальнае беларускае свята.

Але народ беларускі, народ усенек, пачынаючы ад хмурнага Палесся, па ўзбярэжжам рэк Нёмана, Дзвіны, Віллі, па глухіх берагах Белавежскай пушчы яшчэ глыбока верыць у цуды купальскай ночы і сніць аб папараць-кветцы, аб кветцы перуновай, што красуе крывава-вогністым колерам. Але кругом гэтай кветкі разлягліся зямныя сілы, страшныя змеі сыкаюць, звяры дзікія галоднымі зубамі ляскаюць...

Папараць-кветка зацвітае на мамэнт, толькі на адзін кароценькі мамэнт,— зямля ад страху дрыжыць, перуны б'юць, злыя сілы свішчуць, рагочуць, рапухі глядзяць зялёнымі вылупленымі вачыма, вужакі аплятаюцца каля ног... Хлебароб-беларус выцягвае спрацаваную руку... Яго спрагнёнае сэрца захлыстваецца надзеяй, што вось-вось вырве папараць-кветку, тады перад ім адчыняцца дарогі ў нязнаныя краі, у нязведаныя гасударствы, адразу зразумее мову найменшай кветачкі, раслінкі, кожнага дрэўца і стане чалавекам ўсёведаючым і шчаслівым.

Да папараць-кветкі выцягваюць рукі не толькі дарослыя-сталыя; малыя дзеткі таксама сушаць свае светла-русыя галоўкі, як здабыць гэту цудоўную кветку ў страшную купальскую ночку.

— Пойдзем! — не раз у маленкасці бяруцца брат з сястрычкай за ручкі.— Будзем ма-

ліцца,— шэпчуць дробнымі губкамі... Іх нявінныя сэрцы і самі праз сябе прачуваюць, што душа чыстая павінна быць дапушчана да цуду.

Верце, дзеткі беларускія, верце: цэлы свет вам падтакне, што заслужваеце на папараць-кветку, на папараць-кветку — сімвал знання, навукі!

# 1. БРАНІСЛАВУ ЭПІМАХ-ШЫПІЛУ

Дужа паважаны прафесар!

Выбачайце, што незнаёмая і пішу да Вас. Я, Пашкевічанка,... калісь прабавала вершы пісаць, і іх Вам чыталі. Во то ж цяпер жыву я ў Львове, з украінцамі-русінамі і уніятамі заводжу знакомства. Шмат нам спрыяюць, памогуць у чом сіла. Цяпер покі што будуць друкаваць па-беларуску. Калі маеце што, то прышліце. Я хачу даведацца ад Вас, што чутно з букваром, ці ўжо гатоў, ці ў нас будзе фанетыка наша беларуска. Гэта вельмі важна, бо буду цяпер выдаваць папулярныя рэчы для народа, дык не ведаю, як чаго трымацца. Скора вышлю кніжкі аб уніі для акадэмікаў духоўных на Ваш адрас для Будзькі. Вы, шаноўны прафесар, закіньце перад імі слова за унію, бо яны Вас вельмі шануюць і паважаюць.

Бывайце здаровы, пане прафесар, мо напішыце колькі слоў? Адрас: Львоў, Лыкстукскай, № 39.

З паважаннем Пашкевічанка.

28 чэрвеня 1906 г.

Пане прафесар, мо будзеце ласкавы прыслаць мне народныя песні Шэйна.

## 2. К. СТУДЗІНСКАМУ.

Вельмі паважаны пане прафесар!

Не сярдуйце на мяне, што так смела да Вас зварочываюся з просьбай, але мая універсітэцка справа вымагае таго. Пан Мазуркевіч у Ведні абяцаўся памысльне павесці маё дзела з узвычайненнем, калі шаноўны пан прафесар напіша да яго картку. З усяе гаворкі з панам Мазуркевічам я зразумела, што ён панска слова цэніць як золата. Дзеля таго ў страху, каб не прапала майго паўпята года ун(іверсітэта) Львоў(скага), пішу з просьбай да п. прафесара: мая справа цяпер у Ведні і будзе залежыць, хто і як яе павядзе. П. Маз(уркевіч) мог бы шмат зрабіць... Дык можа, пан прафесар, быў бы ласкаў да яго напісаць.

Перапрашаю і астаюся з вялікаю пашанаю.

Алаізія Пашкевіч

Пецярбург, 2 грудзеня 1911 г.

## 3. ПЕЦЯРБУРГСКІМ СТУДЭНТАМ-БЕЛАРУСАМ

*люты (?) 1914*

Дарагія браткі!

Беларусы-студэнты!

Вам пашчаслівілася: вы ўжо аж у універсітэце вучыцеся. Але вашы браты, дзе каторыя мо родныя вам, асталіся ў вёсцы, там яны працуюць ад світання да змяркання, а ім жа ж таксама хочацца, як і вам, шмат чаго ведаць, пазнаць. Ось для гэткіх то працаўнікоў на нашай роднай зямельцы цяпер выходзіць «Лучынка» (месячнік). Браткі-студэнты! Не маеце права атрасці рукі ад працы ў «Лучынцы»; на вашым сумленні будзе ляжаць найбольшая часць сораму, калі «Лучынка» будзе дрэнна свяціць вашым братам і сёстрам у вёсцы беларускай, што для вас хлеб сеюць і жнуць.

Вы, можа, будзеце рагатаць, чытаючы маё казанне. Смейцеся, затое кажу шчырую праўду і веру, што знойдуцца такія між вамі, што будуць працаваць для «Лучынкі».

З пашанай да вас усіх, цісну рукі.

Цётка — старожка запаленай «Лучынкі».

Адрас для пасылкі матэрыялаў для «Лучынкі»:

Вільня, Звярынец, Сасновая вул., д. 11

А. Кейрыс

## 4. БРАНІСЛАВУ ЭПІМАХ-ШЫПІЛУ

*18 лютага 1914*

...«Лучынку» запалілі, але покі што вельмі слаба яна тлее. Трэба больш агню ад маладых сіл. Дровы, з каторых цяпер шчапаецца «Лучынка», залішне слязьмі-доляй нацягнула, дык слаба гарэць. Першы нумар выйшаў без абліčча ад незалежных ад нас прычын. Ратаваліся толькі, каб хаця як літаратурная кніжачка выйшла не вельмі ліхая... Дзядзечка, клікніце кліч між беларускай маладзёжы, хай бярэцца да працы для пакіненых братоў і сёстраў у вёсцы. Студэнцкая маладзёж суседніх нам народаў-украінцаў і літоўцаў шмат робіць для вясковай моладзі.

## 5. БРАНІСЛАВУ ЭПІМАХ-ШЫПІЛУ

*Канец сакавіка (?) 1914*

...Каля 30 гэтага месяца буду ў Пецярбурзе: еду на месяц у Фінляндыю прылатаць крыху здароўе...

## 6. БРАНІСЛАВУ ТАРАШКЕВІЧУ

*(без даты) 1914*

Тарас, чаго сядзіш на Парнасе?

Злазь! А то лазы ад Цёткі дастанеш. ..., каб хлопцы што напісалі. Ты аб асобеннасці беларускай мовы напішы з выясненнем, што беларуская мова ёсць мова, а не «наречие», як шмат хто кажа. Студэнтам-жэўжыкам дай тэмы:

Пінскія балоты і іх асушка.

Гісторыя балот.

Пяскі Гродзенскай губерніі і занос пяскамі штораз большых абшараў.

Змаганне лясных гатункаў дрэў.

Гэтых тэм няма каму ўзяцца апрацаваць:

Зацьменне слонца.

Слонца, месяц...

Эміграцыя ў Амерыку.

Нацыяналізацыя зямлі.

Надта няма часу, прыязджай у Менск, пацягнемся па Беларусі.

Перакінь, братко, выпішы о «вертепе» — батлейцы:

«Смоленскій Вестник», 1887, №№ 150—153

«Могилёвские губ. ведомости», 1886, № 4, стр. 26—29

«Новости», 1883, № 102

«Душеполезное чтение», 1873, декабрь, стр. 442

«Вестник Западной России», 1867, № 10, стр. 10

«Баян», 1889, № 8

Як гэта мне зробіш, дастанеш з брыльянцікам кольчык да вушка.

№ «Лучынкі» выйшаў, але задзержка з паліцыяй.

## 7. БРАНІСЛАВУ ТАРАШКЕВІЧУ

*(мінскі штамп 12 мая 1914)*

Петербург
Васильевский остров, 7 линия, 36, кв. 8
Г-ну Тарашкевичу

Тарас, не сядзі на Парнасе!

Чаго маўчыш, як вады ў губы ўзяўшы? Рыхтуйся жаніцца: дзеўку знайшла, як купальскую кветку. Ці хлопцы што зробяць для «Лучынкі» ўлетку? Ці дастаў мой ліст? Калі ёсць ахвотнікі да працы, то вазьмі іх адрасы, дзе будуць улетку, і прышлі або прывязі мне. Зоську пад бок штурхні, чаму... нічога не прышле. Цісну руку. Душу напаўжывую, напаўмёртвую страсяні ад мяне за чупрыну.

Вільня, Звярынец, Сасновая, 11
Ужо покі што сяджу ў ложку.
Твая родная Цётка!!!

Мо хто нам аб каменнях напіша ў «Лучынку»?

## 8. БРАНІСЛАВУ ЭПІМАХ-ШЫПІЛУ

*7.VII 1914*

...Я ўжо 70 кіламетраў адпаўзла ад Stokholma; начую сёння ў сяле Wangnhorad у жалезнадарожным hotel'і на трэцім паверсе; кашчыстая. Ураджаяў я яшчэ нідзе такіх не бачыла, як у Швецыі. Крыху ўжо знаёмімся з людзьмі, вучымся іхняй мовы. З інтэлігенцыяй усюды можна па-нямецку разгаварыцца. Лес, возеры, багатыя нівы, надзіў пекныя будынкі, кожны дамок немаль мае тэлефон...

## 9. БРАНІСЛАВУ ЭПІМАХ-ШЫПІЛУ

*14.VII 1914*

...Ужо прайшлі 195 кіламетраў пехатою. Вельмі цікавая старонка. Учора начавала ў Norkoping, фабрычны горад. Сёння начуема ў Norsholmi'е пры самым Söle канале каля возера Boksen, тры гадзіны паедзем цераз возера параходам.

## 10. БРАНІСЛАВУ ЭПІМАХ-ШЫПІЛУ

*Канец ліпеня(?) 1914*

Усяго найлепшага пасылаю з Goteborga. У дарозе вельмі дрэнна вядзецца: маю бабу-таварку муж адзывае дахаты, змаркоціўся, каб яго маланка. Мусіць, адна пайду па Нарвегіі. Як згіну — не шкадуйце...

# КАМЕНТАРЫІ

## *СКРЫПКА БЕЛАРУСКАЯ*

Зборнік выдадзены лацінкай і кірыліцай.

Выданне лацінкай ананімнае, год і месца публікацыі таксама не адзначаны. Найбольш верагодна, што зборнік «Skrypka bielaruskaja» з'явіўся ў Вільні ці ў нейкай нелегальнай друкарні на Беларусі ў канцы 1905 — пачатку 1906 года. Кніга налічвае 23 старонкі, кожны верш пачынаецца ■ новай старонкі.

Выданне кірыліцай выйшла пад псеўданімам Гаўрыла з Полацка, зборнік датуецца 1906 годам, месца друку не адзначана. Зборнік «Скрыпка беларуская» выйшаў у Жоўкве (цяпер г. Несцераў) каля Львова пры дапамозе і садзеянні вядомага ўкраінскага вучонага Іларыёна Сямёнавіча Свянціцкага (1876—1956), які займаўся даследаваннем беларускай літаратуры. Друкарскі шрыфт, афармленне тытульнай старонкі зборніка Цёткі «Скрыпка беларуская» аналагічныя з некаторымі ўкраінскімі кнігамі, што выйшлі ў Жоўкве ў гэты час. Апрача таго, на экземпляры выдання кірыліцай, які захоўваецца ў Львоўскай навуковай бібліятэцы імя В. Стэфаніка, рукою І. С. Свянціцкага дапісана месца друку — «Жоўква».

Зборнік Цёткі «Скрыпка беларуская», надрукаваны кірыліцай, налічвае 20 старонак. Апрача вершаў, якія ўвайшлі ў выданне лацінкай, тут змешчаны яшчэ «Прадмова» і верш «У дарогу». Гэта акалічнасць дае

падставу меркаваць, што «Скрыпка» кірыліцкага друку з'явілася пазней, была дапоўнена новымі творамі, унесены сюды некаторыя аўтарскія праўкі. Таму гэты варыянт зборніка ўзяты за аснову як апошняе прыжыццёвае выданне пры падрыхтоўцы аднатомніка твораў Цёткі. Праўда, выданне кірыліцай, выпушчанае ў Жоўкве, мае шмат друкарскіх памылак (па нейкіх прычынах, карэктура, відаць, не трапіла ў рукі аўтара).

Вершы «Скрыпка», «Вам, суседзі», «Лета», «Мае думкі», «Вера беларуса», «Мужык не змяніўся», «На магіле», «На чужой старонцы», «Восень», «Суседзям у няволі», «Артыст грайка» змешчаны ў зборніку «Скрыпка беларуская» кірыліцай і лацінкай (некаторыя вершы размешчаны толькі ў іншым парадку).

У Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве (г. Ленінград) захоўваецца справа пра забарону распаўсюджвання «Скрыпкі беларускай» у Расіі: «Невядома дзе выдадзеная гэтая маленькая брашура на беларускай гаворцы, змяшчае ў сабе даволі бяскрыўднага характару лірычныя песенькі — вершы, апрача аднаго на старонцы 19 пад назваю «Суседзям у няволі...» Хоць у вершы гэтым даволі няпэўна гаворыцца пра ворага-ката, супроць якога заклікаецца аб'ядноўвацца, але ўпамінанне «царскіх нагаек» дае падставу бачыць у ім заклік да барацьбы з царскай уладаю і сучасным дзяржаўным ладам» (ЦДГАЛ, ф. 779, в. 4, спр. 305).

*Прадмова (стар. 24).*

Змешчана толькі ў выданні «Скрыпкі беларускай» кірыліцай. «Прадмова» Цёткі напісана пад уплывам прадмовы Францішка Багушэвіча да зборніка «Дудка беларуская» (Кракаў, 1891 і 1896).

Мацей Бурачок — пад такім псеўданімам Ф. Багушэвіч выдаў зборнік «Дудка беларуская».

«С т р у н ы» — назва задуманага Цёткай зборніка вершаў; магчыма, першапачатковы варыянт назвы кнігі «Хрэст на свабоду».

*Скрыпка (стар. 25)*

Варыянт «Скрыпкі беларускай» лацінкай (СБЛ):
15* Толькі крэпкі былі б струны,
26 Дух народу абняла бы,

*Лета (стар. 28).*

Варыянт СБЛ:
39 Ласне пчолы ў жоўтым воску,
140 Каб якіх яшчэ тры хварбы,

*Мае думкі (стар. 33).*

Варыянты СБЛ:
28 І на месяц заскачу.

*Мужык не змяніўся (стар. 36).*

Упершыню ў гектаграфічным зборніку «Калядная пісанка» на 1904 год (Пецярбург, 1903); пад вершам подпіс: Гаўрыла з Полацка.

Варыянты «Каляднай пісанкі»:
16 Нарабілі ксёнжак,
Людцам паказалі.
26 Як той бор зялёны.
Варыянты СБЛ:
1 Дзевятнаццаць сотняў,
43 Каб ты стаў свабодны,

К а л я д н а я п і с а н к а на 1904 год» выдадзена студэнцкай культурна-асветнай арганізацыяй «Круг бе-

---

* Лічбамі абазначаны парадкавы нумар радка ў вершы.

ларускі» (часам гэта арганізацыя называлася «Гурток беларускае народнае асветы»), у якую, відаць, уваходзіла Цётка, калі займалася на курсах Лесгафта.

*На магіле (стар. 38).*

Варыянт СБЛ:

7 Як заенчыць, кожны стане,

*На чужой старонцы (стар. 39).*

Варыянт СБЛ:

4 У лес цёмны, ў бор высокі,

10 Хоць пылінку, хоць дзве крошкі

*Восень (стар. 40).*

Варыянты СБЛ:

52 Паказаць там стыдна твару.

86 Наша жыцце. Весь замлеўшы.

96 А дзе ж шчасце, людцы, наша?

*Суседзям у няволі (стар. 43).*

Гэты верш з'явіўся прычынаю забароны ў Расіі не толькі зборніка Цёткі «Скрыпка беларуская», але і кнігі І. Свянціцкага «Відродження білоруського письменства» (Львоў, 1908), дзе ён быў таксама змешчаны поўнасцю. Цэнзар, забараняючы кнігу І. Свянціцкага, адзначаў, што ў вершы «Суседзям у няволі» ёсць заклік да барацьбы за свабоду супраць тырана-ката, прычым апісваецца сучаснае жыццё беларуса як цёмная ноч, сярод якой раздаюцца слёзы, стогны і свіст «царскіх» нагаек (ЦДГАЛ, ф. 779, воп. 1, спр. 305).

*У дарогу (стар. 45).*

Верш змешчаны толькі ў зборніку, выдадзеным кірыліцай. Відаць, у ім знайшлі адбітак думкі паэтэсы перад ад'ездам у Галіцыю.

## *ХРЭСТ НА СВАБОДУ*

Гэты зборнік, таксама, як і «Скрыпка беларуская», выдадзены быў лацінкай і кірыліцай.

Выданне лацінкай «Chrest na swabodu» ананімнае, год і месца публікацыі не адзначана. Трэба меркаваць, што гэты зборнік (варыянт лацінкай) выйшаў з друку ў Вільні ці ў нейкай нелегальнай друкарні на Беларусі ў канцы 1905 — пачатку 1906 года. Кніга налічвае 20 старонак, кожны верш пачынаецца з новай старонкі.

Выданне кірыліцай выйшла пад псеўданімам Гаўрыла, на тытульнай старонцы, якая з'яўляецца і вокладкай, стаіць дата выпуску — 1906 год, месца выдання не адзначана. Зборнік Цёткі «Хрэст на свабоду», як і «Скрыпка беларуская», выйшаў у Жоўкве. Афармленне тытульнай старонкі-вокладкі ў гэтых зборніках аднолькавае.

Паміж выданнямі зборніка «Хрэст на свабоду» кірыліцай і лацінкай істотнай розніцы няма, ёсць толькі паасобныя разначытанні. Праўда, зборнік, выданы лацінкай, добра вычытаны, у той час, як варыянт кірыліцай мае шмат друкарскіх памылак.

Вершы «Небывалыя часы», «Добрыя весці», «Бунтаўнік», «Перад новым годам», «Бура ідзе» і «Ласы» ўпершыню ў зборніку «Хрэст на свабоду» (лацінкай і кірыліцай). За аснову пры падрыхтоўцы аднатомніка ўзята выданне кірыліцай як апошняя прыжыццёвая публікацыя.

### *Хрэст на свабоду (стар. 48).*

Упершыню ананімна надрукаваны асобнай лістоўкай у кастрычніку 1905 года ў Вільні кірыліцай і лацінкай (экземпляр лацінкай захоўваецца ў аддзеле рэдкай кнігі Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай ССР пад

шыфрам R-20; 213). На лістоўцы ўнізе адзначана: «Друкавана LSDP (Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыяй)», збоку: «3000 экземпляраў». У лістоўцы поўны тэкст верша, толькі прапушчаны радкі:

Трэ злізаць усіх міністраў,
Бюракратаў, антыхрыстаў.

Варыянт «Хрэст на свабоду» лацінкай:

48 Што свабоды яму трэба!

*Мора (Рэвалюцыя народная), (стар. 51).*

Паводле звестак у «Летапісу беларускага друку. Частка II. Паасобныя выданні на беларускай мове 1835—1916 гг.» (Мінск, 1929), упершыню выдаваўся ананімна асобнай лістоўкай у кастрычніку 1905 года кірыліцай і лацінкай.

Варыянты ў зборніку лацінкай:

10 Гром грыміць кругом у мілі,
32 Расце крэпка праз сто міль.

*Пад штандарам (стар. 56).*

Упершыню ананімна надрукаваны асобнай лістоўкай у кастрычніку 1905 года кірыліцай і лацінкай (экземпляр кірыліцай захоўваецца ў аддзеле рэдкай кнігі Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай ССР пад шыфрам R-20; 211). На лістоўцы, якая выдадзена на тонкай (папяроснай) паперы, верш змешчаны ў два слупкі; подпіс унізе: «Выдаў Краёвы камітэт Беларускае сацыялістычнае грамады. Вільня. 31 акцябра 1905 года».

*Перад новым годам (стар. 59).*

Верш друкуецца поўнасцю па зборніку «Хрэст на свабоду» кірыліцай.

Варыянт у зборніку лацінкай:

28 Народ рабочы хоча змяць.
40 То мусіць будзе кепскі толк.

*Ласы (стар. 62).*

Варыянты ў зборніку лацінкай:
24 А каб табе пенкла кішка
86 Так зараз пралажу след

## *ВЕРШЫ (1903—1914)*

У гэтым раздзеле змешчаны вершы Цёткі розных год, якія не трапілі ў зборнікі «Скрыпка беларуская» і «Хрэст на свабоду» ці апублікаваны былі пазней у іншых кнігах пісьменніцы або беларускіх альманахах, газетах і часопісах.

*Мужыцкая доля (стар. 68).*

Упершыню надрукаваны ў гектаграфічным зборніку «Калядная пісанка на 1904 год» (Пецярбург, 1903); пад вершам подпіс: Банадысь Асака.

*Нямаш, але будзе (стар. 71).*

Упершыню надрукаваны ў зборніку «Велікодная пісанка» (Пецярбург, 1904). Пад вершам подпіс: Гаўрыла. У зборнікі Цёткі раней не ўключаўся.

«Велікодная пісанка» — своеасаблівы працяг «Каляднай пісанкі»; у ёй змешчаны вершы Цёткі, К. Каганца, пераклад апавядання польскага пісьменніка С. Жаромскага «Да свайго бога», бібліяграфія матэрыялаў па беларускай мове, літаратуры і этнаграфіі.

*Музыкант беларускі (стар. 73).*

Упершыню апублікаваны ў «Велікоднай пісанцы» за подпісам: Гаўрыла. Строфы размешчаны ў зборніку крыху не ў такім парадку, як звычайна друкуецца гэты верш.

*Сынок маленькі (стар. 75).*

Упершыню друкаваўся ў кнізе «Першае чытанне для дзетак беларусаў» (Пецярбург, выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца», 1906), якая выйшла адначасова кірыліцай і лацінкай.

*Мой сад (стар. 76).*

Упершыню надрукаваны ў кнізе «Першае чытанне для дзетак беларусаў».

*Родная вёска (стар. 78).*

Упершыню надрукаваны ў кнізе «Першае чытанне для дзетак беларусаў».

*Лес (стар. 79).*

Упершыню надрукаваны ў кнізе «Першае чытанне для дзетак беларусаў».

**** Сіраціна слёзкі лье... (стар. 82).*

Упершыню надрукаваны ў кнізе «Першае чытанне для дзетак беларусаў».

*Наш палетак (стар. 83).*

Упершыню надрукаваны ў газеце «Наша доля», 1906, № 1. Подпіс: Мацей Крапіўка.

Скравак — абрэзак; тут у сэнсе маленькі кавалак зямлі.

*З Новым годам (стар. 84).*

Упершыню надрукаваны ў газеце «Наша ніва», 1908, № 1, без загалоўка. Подпіс: Ц-ка.

*Вясковым кабетам (стар. 85).*

Упершыню надрукаваны ў «Нашай ніве», 1908, № 2. Подпіс: Ц-ка.

*Тры кветкі (стар. 86).*

Упершыню надрукаваны ў «Нашай ніве», 1908, № 3. Подпіс: «З украінскай мовы пераклала на беларускую Ц-ка». Аўтарам украінскага арыгінала, як устанавіла ўкраінская даследчыца Л. П. Бондар, з'яўляецца паэт І. А. Глібавіцкі (1836—1890).

**** Скора прыйдзе вясна... (стар. 87).*

Упершыню надрукаваны ў «Нашай ніве», 1908, № 5. Подпіс: Мацей Крапіва.

*З чужыны (стар. 89).*

Упершыню надрукаваны ў «Нашай ніве», 1909, № 2 з пазнакай: Кракаў, 1 студзеня 1909 года. Подпіс: Ц-ка.

*Грайка (стар. 90).*

Упершыню надрукаваны ў Нашай ніве», 1909, № 5 з пазнакай: Кракаў. Подпіс: Мацей Крапіва.

*Гаданне (стар. 91).*

Упершыню надрукаваны ў «Нашай ніве», 1910, № 46. Подпіс: Мацей Крапіўка.

*«Лучынка» (стар. 92).*

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Лучынка» 1914, № 1. Без подпісу.

Гэтым вершам Цёткі адкрываўся новы часопіс, які пачаў выходзіць у Мінску. Афіцыйным рэдактарам-вы-

даўцом лічыўся А. Уласаў, а літаратурным рэдактарам і фактычным кіраўніком выдання была Цётка.

*Сірацінка (стар. 93).*

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Лучынка», 1914, № 2. Подпіс: Цётка).

Ця — скарочаная форма слова цябе.

*** *Арлы-брацці, дайце скрыдлы... (стар. 95).*

Упершыню надрукаваны ў «Нашай ніве», 1914, № 49. Подпіс: Мацей Крапіўка.

*** *Адкрый, пані, добра пані... (стар. 96).*

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Беларусь», 1947, № 6. Чарнавы экземпляр гэтага верша захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай ССР, фонд 21, спр. 220. Паводле звестак, якія маюцца ў Цэнтральным архіве літаратуры і мастацтва (фонд 3, в. 1), Цётка напісала гэты верш вясною 1915 года па просьбе нейкай польскай пісьменніцы, якая рыхтавала да друку аповесць пра беларускае жыццё і народны побыт.

## *АПАВЯДАННІ, НАРЫСЫ*

*Сварба (стар. 100).*

Упершыню надрукаваны ў кнізе «Першае чытанне для дзетак беларусаў».

Сварба — сварка, спрэчка.

*З прыску ды ў агонь (стар. 102).*

Упершыню надрукаваны ў кнізе «Першае чытанне для дзетак беларусаў».

*Гутарка асота з крапівою (стар. 103).*

Упершыню надрукаваны ў кнізе «Першае чытанне для дзетак беларусаў».

*Журавель і Чапля (стар. 104).*

Упершыню надрукаваны ў кнізе «Першае чытанне для дзетак беларусаў». Апрацоўка беларускай народнай казкі.

*Сірата (стар. 106).*

Упершыню надрукаваны ў кнізе «Першае чытанне для дзетак беларусаў».

*Прысяга над крывавымі разорамі (стар. 109).*

Упершыню надрукаваны ў «Нашай долі», 1906, № 1. Подпіс: Мацей Крапіўка.

*Разумныя ды не на дурня папалі (стар. 112).*

Упершыню надрукаваны ў «Нашай долі», 1906, № 4. Подпіс: Крапіўка.

*Навагодні ліст (стар. 114).*

Упершыню надрукаваны ў «Нашай ніве», 1908, № 2. Подпіс: Ц-ка.

Кудаса — мяцеліца, завея.
Зельна — Купалле.
Экзеква — памінкі па нябожчыку.
Пачэсы — кудзеля.
Канфітуры — варэнне.

*Асеннія лісты (стар. 117).*

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Маладая Беларусь», 1912, сшытак I. Подпіс: Цётка.

*Лішняя (стар. 122).*

Упершыню надрукаваны ў «Маладой Беларусі», 1912, сшытак I. Подпіс: Цётка.

*Зялёнка (стар. 126).*

Упершыню надрукаваны ў «Маладой Беларусі», 1913, сшытак 3. Подпіс: Цётка.

*Міхаська (стар. 137).*

Упершыню надрукаваны ў «Лучынцы», 1914, кніга першая. Подпіс: Цётка.

Аванэля — абрадавая малітва па нябожчыку.

*Зваротлівы (стар. 149).*

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Лучынка», 1914, кніга чацвёртая. Подпіс: М. Крапіўка.

Прым-апрыля — гэта 1 красавіка — дзень, у каторы выбачаюцца розныя кпіны (заўвага аўтара).

*Гутаркі аб птушках (Жаваранак), (стар. 155).*

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Лучынка», 1914, кніга другая. Подпіс: Цётка.

*З дарогі (стар. 165).*

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Лучынка», 1914, кніга першая. Подпіс: Анелька.

*Успаміны з паездкі ў Фінляндыю, (стар. 176).*

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Лучынка», 1914, кніга шостая. Подпіс: Ц-ка.

## *АРТЫКУЛЫ*

Артыкулы Цёткі ні ў прыжыццёвых зборніках пісьменніцы, ні ў пазнейшых выданнях яе кніг не публікаваліся. У аднатомніку змешчаны ўсе публіцыстычныя артыкулы, допісы, даследаванні пра фальклор і навукова-папулярныя матэрыялы, якія ўдалося выявіць у беларускіх дарэвалюцыйных выданнях.

*Як нам вучыцца (стар. 202).*

Упершыню надрукаваны ў «Нашай ніве», 1906, № 1. Подпіс: Мацей Крапіўка.

Лемантар — поўная назва «Беларускі лемантар або Першая навука чытання» — першая кніга, выдадзеная суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца» (Пецярбург, 1906). Паводле некаторых звестак, аўтарам яе быў Карусь Каганец.

*Беларуская вечарынка ў Пецярбурзе (стар. 206).*

Упершыню надрукаваны ў «Нашай ніве», 1910, № 10. Подпіс: Мацей Крапіўка.

«Родны край» — відаць, маецца на ўвазе верш А. Паўловіча.

*Збірайце матэрыялы аб батлейцы! (стар. 209).*

Упершыню надрукаваны ў «Нашай ніве», 1910, № 44—45. Без подпісу. Выдавалася як асобная брашура пад назвай «Праграма для збірання матэрыялаў аб батлейках» (Вільня, 1910).

*Да вясковай моладзі беларускай (стар. 212).*

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Лучынка», 1914, кніга другая. Без подпісу.

*Шануйце роднае слова! (стар. 215)*

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Лучынка», 1914, кніга трэцяя. Без подпісу.

*Газа (стар. 219).*

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Лучынка», 1914, кніга трэцяя. Подпіс: М. Крапіўка.

*Аб душы маладзёжы (стар. 226).*

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Лучынка», 1914, кніга чацвёртая. Без подпісу.

Данілоўскі Густаў (1872—1927) — польскі пісьменнік, аўтар аповесці «З мінуўшых дзён», рамана «Ластаўка».

*Да дзяўчатак (стар. 230).*

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Лучынка», 1914, кніга чацвёртая. Подпіс: Цётка.

*Наша народная беларуская песня (стар. 232).*

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Лучынка», 1914, кніга пятая. Подпіс: Цётка.

У канцы артыкула прыпіска: «Ад рэдакцыі: Песень усіх, як купальскіх, жніўных, валачобных, у каторых шмат адбілася гумару беларускага народа, дзеля недахвату мейсца гэтым разам не ўжываем, ад чаго праца выйшла крыху аднастаронна».

Дуфаць — ганарыцца, выхваляцца.

*Пералётныя птушкі (стар. 248).*

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Лучынка», 1914, кніга пятая. Подпіс: Мацей Крапіўка.

*Да школьнай моладзі (стар. 257).*

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Лучынка», 1914, кніга пятая. Подпіс: Ц-ка.

*Папараць-кветка (стар. 264).*

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Лучынка», 1914, кніга шостая. Подпіс: Мацей Крапіўка.

*ПІСЬМЫ (стар. 274—284)*

Пісьмы Цёткі да вядомага беларускага грамадскага дзеяча і вучонага Б. Эпімах-Шыпілы № 1 (поўнасцю), 4, 5, 8, 9 і 10 (урыўкамі) упершыню змешчаны былі ў артыкуле Ю. Бібілы «Матэрыялы да біяграфіі Цёткі (Алаізы Сцяпанаўны Пашкевіч)». «Запіскі аддзела гуманітарных навук», кніга 2 «Працы класа філалогіі», том I, Мінск, 1928, стар. 291—302.

Ліст Цёткі, адрасаваны пецярбургскім студэнтам-беларусам (3) упершыню змешчаны ў кнізе Л. Арабей «Цётка (Алаіза Пашкевіч)», Мінск, 1956, стар. 143.

Пісьмо (6) і паштоўка (7), адрасаваныя Б. Тарашкевічу, друкуюцца ўпершыню. Арыгіналы захоўваюцца ў рукапісным аддзеле Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай ССР, фонд 21, с. 220.

З выяўленых лістоў Цёткі не ўвайшлі ў гэтае выданне прашэнні і заявы імперска-каралеўскаму намесніцтву ў Львове і імперска-каралеўскаму міністэрству веравызнання і асветы ў Вене, напісаныя ёю ці яе сяброўкаю Р. Гуляніцкай на нямецкай мове і звязаныя з імкненнем беларускай паэтэсы перайсці з вольных слухачоў філасофскага факультэта Львоўскага універсітэта ў лік ардынарных (звычайных) студэнтаў. Гэтаму пытанню прысвечаны і ліст да прафесара К. Студзінскага, які ў той час выкладаў рускую лінгвістыку ў Львоўскім універсітэце і добра ведаў Цётку.

## ЗМЕСТ

*Пісьмы*

**Цётка.**

Ц 52 Творы. Мн., «Маст. літ.», 1976.
306 с. з іл.

Гэта самае поўнае выданне твораў Цёткі (Алаізы Сцяпанаўны Пашкевіч). Апрача вершаў і апавяданняў у кнігу ўпершыню ўключаны публіцыстыка, падарожныя нарысы, а таксама перапіска.

Ц $\frac{70303\text{-}131}{\text{М } 302(05)\text{-}76}$ 98-76 Бел 1

На белорусском языке

Тетка (Алоиза Степановна Пашкевич). СОЧИНЕНИЯ

Рэдактар А. М. Бачыла. Мастак М. М. Купава. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Я. Ф. Харко.

АТ 10616. Здадзена ў набор 23/XII 1975 г. Падп. да друку 7/IV 1976 г. Тыраж 15 000 экз., з іх 500 экз. у балакроне. Фармат 70×100[1]/[32]. Папера мелов. Ум. друк. арк. 12,33. Ул.-выд. арк. 9,56. Зак. 2885. Цана 1 р. 13 к., у балакроне 1 р. 8 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

